Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



№ 7—8

ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ

МЕНСК — 1929

# Адозва пленуму ЦК КП(б)Б да ўсіх членаў КП(б)Б.

Верасьнёўскі пленум, які вырашыў шэраг актуальнейшых пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва БССР, стварае пераломны момант ва ўсёй рабоце КП(б)Б на фронце рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, рашучага правядзеньня выразнай клясавай лініі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, па лініі бязьлітаснай барацьбы з правай ідэолёгіяй і практыкай, барацьбы з усялякімі скажэньнямі генэральнай лініі партыі і сьмелага разгортваньня бальшавіцкае самакрытыкі.

Папярэднія вынікі 1928-29 г., зацьверджаныя пленумам контрольныя лічбы народнай гаспадаркі і культуры БССР на 1929-30 г. сьведчаць аб поўнай рэальнасьці нашага пяцігадовага пляну. Яны паказалі, што мы ня толькі выканалі намечаныя пяцігадовым плянам контрольныя лічбы мінулага году, але і перавысілі іх у шэрагу галін прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. Гэта абвяргае ўсе прароцтвы правых ухілістаў на чале з Бухарыным аб нерэальнасьці нашых плянаў, прароцтвы, якія выцякаюць з няверʻя ў сілы пролетарыятуісьці рашучым тэмпам да пабудовы соцыялізму і цалкам сьцьвярджае правільнасьць генэральнае лініі партыі.

Пленум падагуліў вынікі вялізарнага росту ў галіне калектывізацыі вёскі і намеціў далейшыя задачы будаўніцтва калгасаў і саўгасаў.

Вялізарнае імкненьне бядняцка-серадняцкіх мас вёскі да калектывізацыі яскрава выявілася ў тым, што рост калгасаў за апошні год амаль у тры разы выперадзіў нашы плянавыя меркаваньні. Наша задача сёньня—організацыйна ахапіць магутны калгасны рух працоўнага сялянства, узмацніць яго матарʻяльную і тэхнічную базу.

Гэтыя посьпехі сталі магчымы дзякуючы энтузіязму шырокіх рабочых мас, іх волі да пабудовы соцыялізму, дзякуючы шырока разгорнутаму соцыялістычнаму спаборніцтву, вынікі якога таксама падагуліў пленум.

Пленум заклікае усю КП(б)Б на чале рабочых мас яшчэ шырэй разгортваць соцыялістычнае спаборніцтва, зьвярнуць асаблівую ўвагу на зьніжэньне сабекошту, павышэньне якасьці продукцыі, узмацненьне работы па рацыяналізацыі вытворчасьці.

Трэба абвясьціць рашучую барацьбу тым партыйным, профэсыянальным і гаспадарчым органам, якія плятуцца ў хвасьце, якія ня здольны стаць на чале соцыялістычнага спаборніцтва.

Шырокае разгортваньне работы пралетарыяту і партыі ў справе выкананьня генэральнага пляну соцыялістычнае рэконструкцыі і наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, пры ўмовах абвастрэньня клясавага змаганьня і няўхільных цяжкасьцяй рэконструкцыі—прадʻяўляюць да авангарду пралетарыяту—Камуністычнай партыі—

шэраг вельмі сур'ёзных патрабаваньняў у справе ўзмацненьня яе клясавае баяздольнасьці, у справе правядзеньня ў рабоце ўсёй партыі цьвёрдай і выразнай бальшавіцкай лініі і бязьлітаснага змаганьня з усякага роду ўхіламі ад ленінскай лініі партыі, у справе ўцягненьня найболш шырокіх мас пралетарыяту і працоўнага сялянства ў соцыялістычнае будаўніцтва.

З гэтага пункту погляду разглядаліся і вырашаліся пленумам пытаньні праверкі і чысткі шэрагаў партыі, вярбоўкі рабочых ад варштату, батракоў і сялян-беднякоў і рэгуляваньне соцыяльнага складу партыі.

Пленум, намеціўшы шэраг практычных задач на аснове выкананьня генэральнай лініі партыі, бязбоязна ўскрыў шэраг канкрэтных праяў правага ўхілу, скажэньняў лініі партыі на шэрагу важнейшых вучастках работы (Наркамзем, саматужна-прамысловая каапэрацыя, Наркамасьветы і інш.).

Адным з галоўных недахопаў, адзначаных пленумам, зьяўляецца незаўсёды выстарчальная і своечасовая барацьба з правым ухілам і конкрэтнымі носьбітамі правага ўхілу.

Пленум рашуча асудзіў работу Наркамзему Беларусі, які на працягу гадоў праводзіў права-опартуністычную лінію, лінію на кулацкі хутар, спрыяўшую росту і ўзмацненьню кулацкіх элемэнтаў вёскі і затрымліваючы рост калектывізацыі вёскі (максымальная і мінімальная нормы пры землянадзяленьні, усямернае падтрыманьне організацыі хутароў і інш.). Гэта лінія Наркамзему ў зямельнай політыцы і ва ўсёй практыцы праводзілася і пасьля таго, як партыя на XV зьезьдзе з усёй сілай паставіла пытаньне аб калектывізацыі сельскае гаспадаркі, аб рашучым наступе на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Шматгадовыя памылкі ў зямельнай політыцы былі ўскрыты да канца пленумам. Партыя адкідае і адкіне ў бок тых, хто будзе парашкаджаць соцыялістычнай рэконструкцыі гаспадаркі. Пленум заклікае КП(б)Б на рашучы бой з кулаком, з хутарскімі формамі, з усімі ідэалёгамі хутарской гаспадаркі.

Ня менш рашуча пленум асудзіў мінулае кіраўніцтва Беларускай Саматужна-прамысловай каапэрацыі, дзе таксама праводзілася правая ўхіленцкая лінія, якая прывяла да засьмечаньня сампрамкаапэрацыі кулацкімі і нэпманскімі элемэнтамі.

Адзначаючы, што мінулае кіраўніцтва Наркамасьветы не забясьпечыла цьвёрдай клясавай лініі на культурным фронце, не давала рашучага адпору варожым нам ідэолёгіям, вельмі слаба займалася работай па выхаваньню і падрыхтоўцы новых пралетарскіх кадраў, Пленум заклікае ўсю КП(б)Б да больш рашучага змаганьня на культурным фронце з варожымі нам ідэалёгіямі, заклікае да ўмацненьня работы па выхаваньню і падрыхтоўцы новых пролетарскіх кадраў, да забесьпячэньня чоткай клясавай лініі.

Кожны член КП(б)Б павінен памятаць аб лёзунгу: „уся КП(б)Б на чале культурнага будаўніцтва". Партыя павінна яшчэ ў большай меры ўзмацніць тэмп беларусізацыі, каб найхутчэй аўладаць кіраўніцтвам на фронце культуры.

Пленум з усёю бальшавіцкаю цьвёрдасьцю заяўляе, што ўсе паказаныя недахопы ў рабоце паасобных органаў зьяўляюцца вынікам таго, што ў організацыі ня былі створаны належныя ўмовы для разгортваньня сьмелай бальшавіцкай самакрытыкі. Самакрытыка ў нас ня была ўзьнята на бальшавіцкую вышыню, у нас часта крытыкавалі „взирая на лица". Самакрытыка ў многіх выпадках была недастаткова дзейнай.

Трэба ўлічыць вопыт Ленінграду, Баку, Ніжняга Ноўгараду, улічыць наш уласны вопыт з справай Наркамзему, Белсампрамсаюзу і інш., каб добра зразумець, да чаго можа давесьці адсутнасьць належнае пастаноўкі сьмелае бальшавіцкае самакрытыкі. Ленінградзкая арганізацыя ў гэтай справе паказала бальшавіцкі прыклад сьмелага, бязбоязнага прызнаньня сваіх памылак.

Узьняць бальшавіцкую нянавісьць усяе партыі, усяе рабочае масы, накіраваць гураганны агонь на скрыўляючых генэральную лінію партыі, супроць конкрэтных носьбітаў правага ўхілу—зьяўляецца баявой задачай сёньнешняга дню.

Толькі бязьлітасная самакрытыка, толькі адкрытае прызнаньне сваіх памылак забясьпечыць сваечасовае выкрыцьцё скажэньняў лініі партыі і далейшы поступ уперад па шляху соцыялістычнага будаўніцтва.

Цэнтральнай проблемай, якая стаіць сёньня асабліва моцна перад КП(б)Б, зьяўляецца проблема кадраў. Чыстка шэрагаў партыі, выкрытыя скажэньні лініі партыі, прарывы, якія мы мелі на паасобных важнейшых вучастках нашага будаўніцтва (зямельная політыка, ідэолёгічны фронт і інш.) паказалі, што частка кадраў, у тым ліку кіруючых кадраў, ня здольна выконваць новыя, больш складаныя задачы рэконструкцыйнага пэрыоду, ня здольна праводзіць генэральнай лініі партыі, ня здольна ва ўмовах складанага нацыянальнага пераплёту на Беларусі праводзіць чоткую ленінскую лінію ў нацыянальным пытаньні.

Ня можа быць такога становішча ў партыі, каб комуніст ішоў поруч з нацыянал-дэмократам, зьяўляўся праваднікам нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі, каб паміж камуністам і нацыянал-дэмократам часамі сьціраліся межы.

Гэтую частку кадраў, а таксама і тых, што разлажыліся, зрасьліся з варожымі нам элемэнтамі, мы павінны замяніць новымі людзьмі, якія здольны выконваць лінію партыі.

Сьмялей вылучайце новыя моцныя пралетарскія бальшавіцкія кадры. Рашучым тэмпам узмацняйце пралетарскую праслойку нашых кіруючых кадраў.

Пры высокіх тэмпах росту народнай гаспадаркі мы назіраем нізкія якасныя паказчыкі ўсяе нашае работы. Мы яшчэ не прыстасавалі апараты нашых партыйных, савецкіх, профсаюзных органаў да належнага выкананьня задач рэконструкцыйнага пэрыяду. Наша задача паскорыць тэмпы ўсяе нашае работы, зрабіць нашы апараты больш гібкімі больш чоткімі ў рабоце. Мы павінны так перабудаваць работу партыйных організацый, каб яны не разьменьваючыся на дробязі, узмацнілі кіраўніцтва ўсяе работы па сацыялістычнай рэконструкцыі ў вузлавых яе пунктах, у асноўных важных яе частках.

Менш штампаў, агульных рэзолюцый, больш жывога, непасрэднага кіраўніцтва.

Праводзячы ў далейшым яшчэ больш жорсткую барацьбу з правай ідэолёгіяй і праявамі правага ўхілу ў практычнай працы, пленум катэгорычна асуджае пазыцыю Бухарына і яго прыхільнікаў, якія, не ўважаючы на ўсе рашэньні партыі і апошняга пленуму Выканкому Камінтэрну, цьвёрда стаяць на сваёй опортуністычнай лініі, нічога агульнага ня маючай з ленінізмам. Пленум катэгорычна патрабуе ад бухарынскай групы зараз-жа адмовіцца ад усіх сваіх памылак ад свае антыленінскае лініі, у выпадку-ж невыкананьня гэтага патрабаваньня ўжыць рашучыя меры супроць Бухарына і яго прыхільнікаў і ажыцьцявіць пастанову красавіковага Пленуму ЦК УсеКП(б).

Пленум, лічачы на гэтым этапе асноўнай і галоўнай правую небясьпеку, таксама заклікае ўсю КП(б)Б з усёю рашучасьцю змагацца з рэцыдывамі троцкізму, з усялякімі „левымі“ наскокамі тыпу Стэна—Шацкага.

За сьмелае разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі!

За бязьлітасную барацьбу з правым ухілам, прымірэнцтвам, што зьяўляецца галоўнай небясьпекай і скажэньнямі генэральнай лініі партыі.

За бальшавіцкае загартаваньне партыйных шэрагаў!

За сьмелы поступ сталёвымі ленінскімі шэрагамі ўперад, да поўнай пабудовы соцыялізму!

*Верасьнёўскі пленум ЦК КП(б)Б.*

Я. Гамарнік.

# За генэральную лінію партыі і рашучае разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі.

Месяцы два таму назад расійскія эмігранты-меншавікі ў „Соц. Вестнике“ так характарызавалі політычнае становішча Савецкага Саюзу: „Політычнае зацішша пануе ў Расіі, але наўрад-ці яно перажыве лета. Пад прыкрыцьцём цішыні нарастае абурэньне сялянства. Шырокай хваляй разьліваецца нездавальненьне непралетарскага насельніцтва гораду, накапляецца злосьць у рабочых масах. На восень палітычны барометр яснага надвор'я, як быццам, не прадракае“.

Так вызначае політычнае надвор'е меншавіцкі барометр, так, або амаль так, вызначалі і вызначаюць становішча і права-ўхіленцкі і троцкісцкі барометры.

Аб чым гаворыць і хлусіць меншавіцкі барометр, які абслугоўвае ў асноўным і правых ухілістых, і троцкістых? Папершае, аб „політычным зацішшы“, якое нібы мела месца ўлетку. Аб чым балбоча меншавік? У Савецкім Саюзе і ў нас у Беларусі ўвесь мінулы год і сучасны пэрыод напоўнены бурлівым політычным жыцьцём. Скрозь і ўсюды, у горадзе і ў вёсцы, на ўсіх вучастках будаўніцтва ідзе шалёная клясавая барацьба. Усюды з баямі супроць клясавага ворага прабівае сабе шлях да соцыялізму пралетарыят, апіраючыся на сялянскую беднату і ўмацоўваючы саюз з серадняком. Усе сілы старога сьвету, усе прадстаўнікі і абаронцы капіталізму—кулак, нэпман, царкоўнік, буржуазны спэц—аказваюць шалёнае супраціўленьне нашаму наступленьню. Шкодніцтва, супраціўленьне здачы хлеба дзяржаве, кулацкі тэрор супроць калгасаў і саўгасаў, „тонкая“, варожая нам ідэолёгічная работа, націск клясавага ворага праз дробную буржуазію на асобныя праслойкі рабочае клясы і партыі—мэтоды іх зьвярынай супроць нас барацьбы. Увесь мінулы год, усё лета і пачатак восені напоўнены жорсткай клясавай барацьбой.

Другое паказаньне меншавіцкага барометра—„Пад прыкрыцьцём цішыні нарастае абурэньне сялянства. Шырокай хваляй разьліваецца нездавальненьне непралетарскага гораду“. Якое няпраўдападобнае глупства, політычная напісьменнасьць, праўда, вартая меншавікоў і ўсіх блізкіх ім па духу. Толькі політычна сьляпы і глухі ня бачыць шалёнай клясавай барацьбы, асабліва ў вёсцы. Аб якім адзіным сялянстве і аб „абурэньні“ яго балбочуць глупцы? У вёсцы ідзе жорсткая клясавая барацьба. Кулак ня толькі „абураецца“ пралетарскай дыктатурай, а люта ўсімі сіламі, і дубінай, і зброяй, і рублём, і запасамі хлеба супраціўляецца нашаму наступленьню, часта пераходзячы ў контратаку. А цісьне кулака, цясьніць яго, змагаецца супроць яго, усё рухаючыся наперад, батрак, бядняк і асноўная серадняцкая маса вёскі пад кіраўніцтвам пралетарыяту і яго партыі. Саюз рабочае клясы з пра-

цоўнай масай вёскі за гэты год яшчэ больш умацаваўся і ўмацоўваецца. Калгасы, саўгасы, контрактацыя, рост усіх элемэнтаў вытворчай змычкі—усё ўмацоўваюць гэты саюз.

Непралетарскае насельніцтва гарадоў таксама не адзіна. Нэпман, служка царкоўнага культу, ня злоўлены яшчэ шкоднік на вытворчасьці і ў савецкім апараце, частка інтэлігэнцыі з устралаўска-кулацка-нэпманаўскай ідэлёгіяй, усе яны ўзмацняюць сваю барацьбу, супраціўленьне супроць наступаючага пралетарыяту. Працоўныя-ж масы гораду, сумленны савецкі служачы, асноўная маса працоўнай інтэлігэнцыі як у горадзе, так і ў вёсцы, усё мацней зьбліжаюцца з савецкай уладай і на сучасным этапе соцыялістычнай рэконструкцыі і рашучага выкарчоўваньня карэньняў капіталізму, усё больш уцягваюцца, на баку пралетарыяту, у клясавую барацьбу.

Трэцяе паказаньне меншавіцкага баромэтру—„накапляецца злосьць у рабочых масах“. Супроць каго злосьць, запытаемся мы ў меншавіцкае сволачы. Так, рабочая кляса з усёй злосьцю ненавідзіць усіх сваіх клясавых ворагаў. Яна выкінула за межы свае краіны шмат якіх сваіх ворагаў, у тым ліку і меншавікоў, і Троцкага. Яна змагаецца ў сваіх радох з клясава-чужым націскам на асобныя праслойкі яе. Яна рашуча змагаецца супроць троцкісцкіх настрояў і падтрымлівае партыю ў яе барацьбе супроць бухарынцаў. Яна з усёй сілай падтрымлівае генэральную лінію партыі. Так, злосьць супроць клясавага ворага і поўнае падтрыманьне кампартыі, адданасьць справе пралетарскай рэволюцыі выклікалі магутнае соцыялістычнае спаборніцтва, дзень індустрыялізацыі, дзень абароны краіны. Апошні год быў годам далейшага ўзмацненьня сувязі партыі з рабочай клясай, узмацненьня ў партыі рабочага ядра, значным ростам уплыву партыі ў рабочай клясе.

У цэлым характарызуючы сучаснае політычнае становішча, як ў Саюзе цалкам, так і ў нас, у Беларусі, мы маем усе падставы сказаць, што рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты дае нам у выніку на сёньнешні дзень узмацненьне пралетарскае дыктатуры, узмацненьне саюзу рабочае клясы з асноўнай працоўнай масай вёскі.

Чаму, спыніўшыся на характарыстыцы нашага політычнага становішча, мы лічым патрэбным выцягнуць на сьвет з цьвілое, сьмярдзючае меншавіцкае атмосфэры меншавіцкі баромэтр. Таму што маюць да яго блізкае дачыненьне і троцкісцкі, і права-ўхіленцкі баромэтры, таму што, разабраўшы яго „паказаньні“, мы тым самым у асноўным, галоўным адказваем і троцкістым, і правым ухілістым.

Такія політычныя вынікі, такое становішча сучаснага дня, у такіх палітычных абставінах мы падыходзім да новага гаспадарчага году. Якія-ж політычныя пэрспэктывы? Усе мы дасканала разумеем, што політычнае становішча ўнутры краіны залежыць ад гаспадарчага становішча і ад міжнароднага становішча Саюзу.

Але ўсё-ж на падставе папярэдніх гаспадарчых і політычных вынікаў мінулага году па Саюзе і па БССР і на падставе плянавых гаспадарчых намячэньняў на 1929-30 год і з улікам сапраўднага міжнароднага становішча мы можам намеціць політпэрспэктывы. Асноўнае, што нам забясьпечана пры правядзеньні правільнай лініі партыі, пры згуртаваньні наўкола яе рабочае клясы—гэта далейшае пераможнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты. Гэта нямінуча выкліча далейшае завастрэньне клясавае барацьбы, да чаго мы павінны быць гатовы і да чаго партыя гатова. Троцкістыя цьвярдзілі і цьвердзяць, што партыя ня бачыць клясавай барацьбы, што ў наяўнасьці „працэс тэрмідорыянскага перараджэньня“, што кулак і нэпман нібы націскаюць на

пралетарскую дыктатуру. Ад гэтага недарэчнага паклёпу вымушаны былі пад напорам фактаў і фактаў жывой рэчаіснасьці адмовіцца асноўныя троцкісцкія кадры, амаль усе рабочыя, што трапілі ў сетку Троцкага, і толькі падтрымліваюць яшчэ гэты паклёп цяпер у нашай краіне толькі некалькі вузаўцаў, што засталіся гвардыяй, вернай Троцкаму.

Правыя ўхілістыя ня бачаць завастрэньня клясавай барацьбы, не разумеюць яе, растлумачваюць завастрэньне яе недахопамі мэханізму нашага апарату. Адным словам, нясуць у гэтым пытаньні ўсякую лібэральную недарэчнасьць. Яны хацелі-б пражыць як-небудзь спакайней, мірна, бяз шуму клясавай барацьбы, без завастрэньня яе. Партыя-ж разумее, што нашае наступленьне на капіталістычныя элемэнты выклікае і будзе выклікаць на бліжэйшым этапе завастрэньне клясавай барацьбы. Сёй-той з правых ухілістых спрабаваў прыпісаць партыі такую нібы ўстаноўку, што чым бліжэй мы будзем падыходзіць да соцыялізму ў нашай краіне, тым больш нібы будзе завастрацца клясавая барацьба. Ясна, што гэта паклёп, што адносіны партыі да клясавай барацьбы нічога агульнага ня маюць з гэтым паклёпам. Партыя лічыць і кожны член партыі павінен гэта зразумець, што на бліжэйшым этапе пры нашым наступленьні на капіталістычныя элемэнты завастрэньне клясавай барацьбы няўхільна.

З гэтай устаноўкай мы падыходзім да бліжэйшага году, году, які зьяўляецца адрэзкам таго этапу будаўніцтва соцыялізму, на якім няўхільна завастрэньне клясавае барацьбы. Таму наш асноўны палітычны вывад: мы павінны быць гатовы ў 1929-30 годзе да далейшага рашучага наступленьня супроць клясавага ворага, павінны быць гатовы да шалёнага яго супраціўленьня, павінны быць гатовы да абвастрэньня клясавай барацьбы.

Мы таксама гаворым меншавіком і ўсім тым, што да іх набліжаюцца: „Не чакайце ні ўвосень, ні зімою, ні ў гэтым годзе, ні ў якім годзе, ніколі наогул яснага для сябе надвор'я".

Асноўнае, што мы можам з ўсёй пэўнасьцю цяпер констатаваць, гэта тое, што тэмпы будаўніцтва, вызначаныя намі для першага году пяцігодкі, у асноўным перавыкананы, і мы маем усе падставы проэктаваць контрольныя лічбы на будучы год са значным перавышэньнем, асабліва па соцыялістычным сэктары, чым гэта вызначалася для другога году пяцігодкі. Усё гучней чутны галасы, якія патрабуюць выканаць плян пяцігодкі ў чатыры гады. Гэта лепшы адказ правым ухілістым, якія процістаўлялі ў пэрыяд XVI партканфэрэнцыі пяцігодцы, у рэальнасьць якое яны ня верылі, сваю прапанову аб двухгодцы. Па Саюзе мінулы год даў у галіне сельскае гаспадаркі агульны рост пасеўнай плошчы, пры скарачэньні пасеву кулакамі, за кошт росту пасеўных плошчаў бядняцка-серадняцкае сялянскае гаспадаркі. У вёсцы магутна разгортваецца соцыялістычная рэконструкцыя, расьце і мацнее соцыялістычны сэктар—калгасы і саўгасы. Вось што піша, напрыклад, „Фосішэ Цэйтунг": „Які контраст паміж сярэднявяковымі мэтодамі сельскае гаспадаркі, якія ўжываюцца расійскімі сялянамі, і арганізацыяй саўгасаў, якія настолькі прагрэсыўны, што могуць зьявіцца прадметам зайздрасьці для Амэрыкі. Расійцы зразумелі, што селянін мае патрэбу ня толькі ў сельска-гаспадарчай літаратуры, але і ў тым, каб яго навучылі, як трэба скарыстоўваць зямлю. Таму былі створаны каапэрацыйныя гаспадаркі, дзе ўведзены самыя сучасныя спосабы апрацоўкі зямлі. За апошнія гады ўзьніклі аграрныя ўстановы, якія могуць зьявіцца прыкладам на перайманьне для Нямеччыны і Амэрыкі".

Бухарын на чале правых ухілістых гаворыць аб дэградацыі сельскае гаспадаркі, змагаецца супроць нашага тэмпу калектывізацыі

і саўгаснага будаўніцтва, яго вучань Прышчэпаў вёў да апошняга дня свайго прабываньня на пасту Наркамзема лінію на кулацкі хутар, змагаўся супроць калектывізацыі, а „Фосішэ Цэйтунг“ прымушаны гаварыць аб сярэднявяковых мэтадах сельскае гаспадаркі ў нашай індывідуальнай сельскай гаспадарцы і аб тым, што Амэрыцы і Нямеччыне трэба пазайздросьніць організацыі нашых саўгасаў і калгасаў.

У 1929-30 г. 100 машынатрактарных станцый магутна рушаць наперад справу калектывізацыі і саўгаснага будаўніцтва. Лёзунг—з сялянскага коніка на электрычнага каня—перàтвараецца партыяй у масавую конкрэтную справу.

У галіне прамысловасьці 1928-29 г. дае рост на 24 проц. супроць 1927-28 г. Паводле пляну вызначаўся рост на 21,4 проц., дабіліся 24%. На 1929-30 г. вызначаецца рост прамысловай прадукцыі на 35 проц. Капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць проэктуюцца ў разьмеры 3 з палов. мільярдаў рублёў, г. зн. павялічэньне амаль у два разы супроць мінулага году. У электрабудаўніцтве ў 1929-30 г. мы дасягнем 60 проц. амэрыканскага гадавога электрабудаўніцтва. Бюджэт мы зводзім з перавышэньнем даходаў на 700 мільёнаў руб. супроць пляну і гэта пры недаборы па падаходным падатку, з прычыны таго, што ў Наркамфіне былі моцныя права-ўхіленцкія настроі, а на мясцох у органах Наркамфіну была права-ўхіленцкая практыка. На будучы год бюджэт дасягне 10 мільярдаў. Можна было-б падаць яшчэ кучу лічбаў, якія характарызуюць высокі напружаны тэмп нашага соцыялістычнага будаўніцтва, тэмп, якога ня ведае ніводная капіталістычная краіна. Але і гэтага хопіць. Гаспадарчымі вынікамі мінулага году дашчэнту разьбіваюцца ўсе права-ўхіленцкія прадраканьні, мокрае месца застаецца ад „Заметак экономістага“ і, як мыльная бурбалка, лопаюцца ўсе наступныя пабудаваньні Бухарына. Зразумела, пры ўсім гэтым магутным тэмпе, наступальным руху ёсьць шмат яшчэ вузкіх месц, шмат недахопаў.

Якасныя паказальнікі, як зьніжэньне сабекошту прампродукцыі, і якасьць продукцыі, запроэктаваныя контрольнымі лічбамі на 1928-29 г., ня выкананы. Рост рэальнай зарплаты таксама не дасягнуў узроўню запроэктаванага контрольнымі лічбамі, бо вырас бюджэтны індэкс. Наш гандлёвы апарат працуе яшчэ надзвычайна дрэнна і вельмі многа недахватаў таваразабесьпячэньня залежыць ад кепскай організацыі рынку. Вельмі многа мы губляем з-за таго, што далёка не на ўсіх вучастках нашай работы, далёка не ва ўсіх зьвеньнях нашых організацый забясьпечана выразная клясавая лінія.

Мы таксама, як і ўвесь Саюз, перавыканалі ў асноўным намячэньне кантрольных лічбаў мінулых гадоў і на будучы год проэктуем больш высокія, чым гэта вызначана пяцігодкай, тэмпы. У галіне калектывізацыі сельскае гаспадаркі мы дабіліся ў гэтым годзе значных посьпехаў. Нашы пляны аказаліся пераменшанымі, недаўлічваючымі вялікай цягі бядняцка-серадняцкіх мас да аграмаджаньня сваіх гаспадарак, да соцыялістычнай іх рэконструкцыі. За гэты год вырасла шмат новых калгасаў, адбылося ўзбуйненьне іх, зьявіліся калгасы ў некалькі тысяч гэктараў. Рух у гэтым годзе разгарнуўся з такою сілаю таму, што партыя на XII зьезьдзе рэзка паставіла пытаньне аб калектывізацыі, як рашаючым шляху, асабліва ў Беларусі, уздыму бядняцка-серадняцкае сялянскае гаспадаркі, таму, што ў Наркамземе пасьля XII-га зьезду партыі, пасьля зьмены кіраўніцтва быў узяты курс на калектывізацыю і земляўпарадкаваньне бягучага году было ў значнай ступені ўжо падпарадкавана стымуляваньню калектывізацыі. Але аднача-сова трэба адзначыць, што з боку нашых апаратаў гэта былі толькі

першыя крокі па шляху разгортваньня калектывізацыі і часамі яшчэ вельмі нясьмелыя крокі. Над многімі яшчэ вісела і вісіць хутарская ідэолёгія. Бедната і серадняні яшчэ вельмі часта сустракаюць у сваім імкненьні да калектыўнае гаспадаркі нядбайныя, бюрократычныя адносіны, а часамі і рэзкае супраціўленьне, права-ўхіленцкія адносіны на справе з боку паасобных парторганізацый і савецкіх установ.

Трэба забясьпечыць выразную клясавую лінію партыі ў зямельных органах. Трэба да канца выгнаць з іх прышчэпаўскую ідэолёгію і практыку. Трэба ўмацаваць зямельныя органы, трэба уліць у іх моцных бальшавікоў і спэцыялістых, якія будуць сумленна праводзіць лінію партыі ў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Трэба, каб уся партыя ўцягнулася ў справу калектывізацыі, каб уся партыя ўсьвядоміла ўсё гіганцкае выключнае, рашаючае для Беларусі, значэньне калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Супроць кулацкае гаспадаркі за калгас—пад гэтым баявым лёзунгам, сьцягам трэба сабраць усю партыю, рабочую клясу і бядняцка-серадняцкія масы вёскі. Няхай усе парторганізацыі павернуцца тварам да калгаснага руху.

На будучы год мы запроэктавалі высокі тэмп калгаснага будаўніцтва, і мы вытрымаем яго, калі напружым усе свае сілы, калі паставім на службу гэтай справе ўсе нашы апараты, калі прывядзем у рух усе адпаведныя вагары.

Другое пытаньне—гэта якасныя паказальнікі нашай прамысловасьці. Гэта пытаньне ўвязана з пытаньнем аб соцыялістычным спаборніцтве. Мы ў бягучым годзе ня выканалі плянавых намячэньняў па якасных паказчыках. Я лічу асноўнай прычынай гэтага невыкананьня слабую ўвагу да гэтага пытаньня—з боку парторганізацыі, камсамолу, прафсаюзаў і гаспадарчых органаў. Разгорнутае соцыялістычнае спаборніцтва, якое ахапіла фабрыкі і заводы, узьняло якасныя паказчыкі, але прафсаюзы і гаспадарчыя органы яшчэ да гэтага часу ня сталі на чале гэтага магутнага руху мас, плятуцца часта ў хвасьце, бюрократызуюць гэтую вялічэзную ініцыятыву рабочае клясы. Соцыялістычнае спаборніцтва павінна стаць у цэнтры ўвагі прафсаюзаў. Дрэнны той прафсаюз і той гаспадарчы орган, якія ня ўмеюць стаць на чале соцыялістычнага спаборніцтва. Дрэнная тая парторганізацыя, якая ня ўмее стаць на чале гэтага руху, організаваць яго, кіраваць ім, узьнімаць яго ўсё вышэй, зрабіць яго асноўным мэтадам соцыялістычнага будаўніцтва. На будучы год запроэктаваны высокія якасныя паказчыкі прамысловасьці, і мы павінны іх выканаць поўнасьцю, а дзеля гэтага трэба зараз-жа ўхапіцца ўсёй сілай за гэтае зьвяно. Я ня буду спыняцца на шэрагу такіх важнейшых пытаньняў, як жывёлагадоўля, якая таксама павінна стаць у цэнтры ўвагі нашае работы, на пытаньні аб сампрамкаапэрацыі, да якое трэба ўзмацніць нашу ўвагу, і шэрагу іншых пытаньняў.

Каб забясьпечыць высокія тэмпы ва ўсім соцыялістычным будаўніцтве, каб выканаць контрольныя лічбы на 1929-30 г., каб усямерна падняць усе якасныя паказчыкі нашае работы, трэба ў першую чаргу падняць якасныя паказчыкі ўсяе партработы. Рэконструкцыйны пэрыод, які высоўвае перад намі патрабаваньне працаваць па іншаму, па новаму, іншым тэмпам ставіць і перад парторганізацыямі задачу перабудаваньня ўсяе свае работы прыстасоўна да новых умоў і задач, ставіць з усёй вострасьцю пытаньне аб якасных паказчыках партработы. Гэта адносіцца ў першую чаргу да пытаньня аб тэмпе партработы.

Тэмп партработы яўна невыстарчальны. Мы часта спазьняемся у пастаноўцы пытаньня, у прапрацоўцы яго, у ахопе кіраўніцтвам

вузлавых пытаньняў, у наглядзе за правядзеньнем у жыцьцё сваіх дырэктыў. Трэба ўзмацніць тэмп партработы, ён павінен поўнасьцю адпавядаць высокаму тэмпу ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва. Куды варты такі партком, такая парторганізацыя, якія адстаюць ад агульнага тэмпу, якія прапушчаюць важнейшыя пытаньні? Трэба перавесьці і партапарат на непарыўную вытворчасьць. Каб узьняць тэмп нашае партработы, палепшыць яе, узмацніць кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам, трэба так рацыяналізаваць партработу, каб умець своечасова ўхапіцца за важнейшае зьвяно ланцуга. Ці умеем мы заўсёды вызначаць у сваіх мясцовых умовах гэта асноўнае зьвяно, а вызначыўшы ўхапіцца рукамі і зубамі за яго? Трэба проста сказаць, што ў большасьці выпадкаў ня ўмеем. Бярэмся за ўсё, цягнем ланцуг, але не хаваемся за асноўнае зьвяно. Паглядзеце пляны работы парткомаў, там цэлая куча пытаньняў і вельмі патрэбных і мала патрэбных і такіх, без якіх можна абыйсьціся, а концэнтрацыі ўвагі на зьвенавых для бягучага пэрыяду пытаньнях няма. Аб чым гавораць абсьледваньні парторганізацый? У першую чаргу аб гэтым, аб тым, што парторганізацыя кідаецца ва ўсе бакі, за ўсё бярэцца і сярод усіх зьвеньняў работы ня можа вылучыць асноўных.

На гэтым пытаньні трэба концэнтраваць увагу, трэба, каб пляны работ парткомаў на будучы год складаліся менавіта пад гэтым кутом погляду. Пытаньне аб штампе, аб павярхоўнай прапрацоўцы пытаньняў парткамітэтамі. Гэта найвялікшае зло ў нашай рабоце. Тое або іншае пытаньне ўносіцца тэй або іншай установай ці асобай у парткамітэт, і як часта важнейшыя пытаньні вырашаюцца на аснове давер'я, чаго хочаш, а ня глыбокай прапрацоўкі пытаньня. Вось для яскравага прыкладу пытаньне аб зямельных нормах Беларусі. Зараз для ўсіх зусім ясна, што гэтыя нормы адпавядалі інтарэсам кулака. Як-жа гэтыя нормы прымаліся, іх-жа зацьвярджаў ЦК, яны-ж супярэчылі лініі партыі?

А адбывалася гэта так, што цяперашні прафэсар (узьведзены ў прафэсары ці не за кулацкія нормы), а раней аграном Кісьлякоў на падставе даных па 80 сялянскіх гаспадарках склаў нормы. Наркамзем іх прадставіў у парторганы, і іх на аснове „давер'я“ праштэмпэлявалі. Такая, сьцьвярджаюць, гісторыя гэтага пытаньня аб нормах. Вось да чаго можа прывесьці штамп, а ня самая дакладная прапрацоўка пытаньня.

Да перагляду зямельных норм у гэтым годзе мы падыйшлі па іншаму. Мы ўжылі і ўжываем усе меры да таго, каб прапрацоўка гэтага пытаньня была пастаўлена на належную вышыню, каб яны поўнасьцю адпавядалі нашай лініі ў сельскай гаспадарцы. Я не магу абыйсьці таксама пытаньня аб дырэктывах, што даюцца парторганамі, пытаньня аб рэзалюцыях. Гэта надзвычайна важнае пытаньне. Вазьмеце большасьць рэзолюцый, яны доўгія, агульныя, яны не паказваюць асноўнага зьвяна работы. Мы нядаўна слухалі даклад Тураўскага райкому, у раёне надзвычайна дрэнна была пастаўлена работа, або, правільней, ня было ніякай работы. У раёне няма ніводнага калгасу, а вось рэзолюцыя райкому аб задачах калектывізацыі ўхвалена на 7 старонках. Або ўспомніце рэзалюцыю Віцебскага акругкому, якую нядаўна падавала „Зьвязда“.

І так, больш увагі якасным паказчыкам усяе партработы!

Мы ўжо вышэй казалі аб поўным правале ўсяе бухарынскае праваўхіленцкае лініі перад тварам лічбаў і фактаў нашага экономічнага і політічнага разьвіцьця. Уся партыя павінна патрабаваць ад Бухарына і яго аднадумцаў неадкладнага і катэгорычнага адмаўленьня ад свае

антыпартыйнае лініі, а ў выпадку невыкананьня гэтага патрабаваньня партыі, бліжэйшы пленум ЦК УсеКП(б) павінен ужыць у адносінах Бухарына поўнасьцю адпаведныя пастановы красавіковага пленуму. Але, незалежна ад паводзін Бухарына, уся партыя павінна ўсямерна ўзмацніць барацьбу з галоўнай на сучасным этапе небясьпекай, правай небясьпекай. Цяперашні пленум павінен з усёй рэзкасьцю паставіць гэта пытаньне перад КП(б)Б. Выяўленыя ў апошні час з усёй поўнасьцю праяўленьні правага ўхілу на практыцы ў цэлым шэрагу організацый на розных вучастках работы (зямельныя органы, сампрамкаапэрацыя і шэраг іншых) павінны ўзмацніць нашу ўвагу да гэтага пытаньня, узмацніць нашу барацьбу з праяўленьнямі правага ўхілу на практыцы. У нас ня мала, як кажа тав. Сталін, алілюйшчыкаў, г. зн. людзей, якія галасуюць за лінію партыі, на словах ганьбяць правы ўхіл, а на справе праводзяць праваўхіленцкую лінію. Трэба такіх алілюйшчыкаў умець знайсьці, выцягнуць з габінэтаў за вушка ды на сонейка, а на іх месца на кіруючую работу паставіць моцных, вытрыманых бальшавікоў.

Усімі мерамі ўзмацняючы барацьбу супроць правага ўхілу, як найбольш небясьпечнага цяпер, ня трэба забывацца і пра барацьбу супроць „левых“ заскокаў, супроць усякага рэцыдыву троцкізму. Троцкізм ужо даўно і поўнасьцю, як контр-рэвалюцыйная плынь, выкрыты. Троцкі, як клясавы вораг, выкінуты за межы рабочае дзяржавы. Троцкізм у нашай краіне зараз прадстаўлен мізэрнай маленькай групкай вузаўцаў. За граніцаю, пад крылом капіталізму, прыгрэтыя ім троцкістыя на чале з Троцкім, таксама прадстаўляюць маленькую нікчэмную групу, якая спрабуе змагацца супроць Камінтэрну, супроць Савецкага Саюзу. У сваім нядаўна выданым за граніцаю першым бюлетэні расійскіх троцкістых, яны пішуць: „Кастрычнікавая рэвалюцыя перажывае глыбокі крызіс. Самым рэзкім выражэньнем яго зьяўляецца шалёная барацьба сталінскае бюрократыі супроць пралетарскага крыла партыі ці супроць так званай опозыцыі, якая вядзе непрымірымую барацьбу за марксызм, за Кастрычнік, за сусьветную рэволюцыю“.

Здраднікі, якія прадалі сябе цалкам буржуазіі, гавораць аб „барацьбе за марксызм, за Кастрычнік, за сусьветную рэволюцыю, гавораць аб сабе—адным з крыльляў соцыял-дэмократыі, „як аб пралетарскім крыле партыі“. Троцкі, буйнейшы фразёр, прабуе і тут прыкрыць фразаю сваё здрадніцтва, прыкрыць гучнаю фразаю амэрыканскія даляры. Троцкісцкі бюлетэнь нападае і на Радэка, Сьмілгу і Прэабражэнскага і на іншых, якія адыйшлі ад троцкізму. Ён піша: „Паасобныя таварышы з вядомымі імёнамі хістаюцца або адыходзяць. У грандыёзную эпоху, як наша, людзі апустошваюцца або заблытваюцца“. Вось гэта ўжо сапраўды значыць забыцца пра крылоўскую байку: ці ня лепш Троцкаму на сябе абярнуцца. Ён заблытаўся і выпусташыўся, і стаў нашым клясавым ворагам. Троцкізм выкрыты і разьбіты, але перад партыяй усё-ж застаецца задача барацьбы на два фронты з асноўным, галоўным агнём супроць правага ўхілу. Выступленьне Шацкіна і Стэна, гэты „левы“ наскок на партыю зноў напамінае аб неабходнасьці змагацца на два франты.

Якая-ж самая патрэбная ўмова мабілізацыі ўсіх сіл партыі на барацьбу з ухіламі, з правым ухілам, найбольш зараз небясьпечным, з выкрыўленьнямі клясавае лініі, з усякім разлажэньнем.

Галоўная, патрэбная ўмова, гэта—сьмелае разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі. Там, дзе няма яе, дзе яна слабая, там у гнілой атмасфэры сямейнасьці, бюрократызму, падхалімства могуць расквітаць скажэньні клясавае лініі, практыка правага ўхілу, любое разлажэньне, там можа арудаваць клясавы вораг. А калі ў такое цёмнае

царства трапіць прамень сьвятла пралетарскае самакрытыкі, мы выкрываем усякія агідныя справы.

З усёю рашучасьцю мы павінны прызнаць, што на Беларусі яшчэ далёка ня поўна разгарнулі сьмелую, масавую, не ўважаючы на асобы, самакрытыку. Мы яшчэ да гэтага часу самакрытыку не зрабілі мэтодам, тонам усяе работы. Самакрытыка ў нас часта нясьмелая, не адважваецца закрануць „вялікіх людзей“. А да чаго прыводзіць адсутнасьць шырокае сьмелай самакрытыкі, мы бачым на прыкладзе леташніх „спраў“ у Віцэбску, Мазыры, Воршы, на прыкладзе Наркамзему, Сампрамсаюзу і г. д., а таксама на прыкладзе нават такіх лепшых перадавых організацый, як Ленінградзкая і Бакінская.

Уся КП(б)Б да самае рашучае, сьмелае, бязьлітаснае, масавае, не ўважаючы на асобы, самакрытыкі. Трэба яскравым праменем самакрытыкі асьвятліць усе куткі нашай работы. Самакрытыка зробіць нашу КП(б)Б яшчэ і яшчэ мацнейшай, яшчэ больш згуртаванай, больш баяздольнай у барацьбе за соцыялізм.

Мы чысьцім цяпер партыю, чысьцім савецкі апарат, робім іх клясава яшчэ больш баяздольнымі для далейшай барацьбы супроць капіталістычных элемэнтаў, для вырашэньня асноўных задач соцыялістычнага будаўніцтва на першым цяжкім, крутым этапе рэконструкцыйнага пэрыоду. Партыя павінна ўзмацніць увагу да гэтых чыстак, яны маюць рашаючае значэньне для пасьпяховасьці нашага соцыялістычнага наступленьня. Пытаньне аб чыстцы партыі намі ўвязана з пытаньнем аб росьце партыі. Трэба сыгналізаваць усёй партыі, што дырэктыва XII-га зьезду аб вярбоўцы ў партыю рабочых, батракоў, сялян бедняков-калгасьнікаў выконваецца слаба. Вярбовачная сіла чысткі таксама вельмі слаба выкарыстана.

Апошняе пытаньне, на якім трэба спыніцца, і якое, па-нашаму, зьяўляецца гваздом усіх пытаньняў у сучасны момант у Беларусі, самым вострым і самым важным, гэта пытаньне аб кадрах наогул і ў прыватнасьці і ў асаблівасьці аб кіруючых кадрах партыі.

Як у свой час, у пачатку НЭП'у, у пачатку адбудоўчага пэрыоду Уладзімер Ільліч з усёй сілай ставіў пытаньне аб людзях, аб кадрах, так і зараз у пачатку пэрыоду рашучай соцыялістычнай рэконструкцыі з усёй вострасьцю стаіць пытаньне аб кадрах, аб людзях, якім па сіле гэтыя новыя задачы, якія здольны выразна праводзіць лінію партыі.

На Беларусі гэтае пытаньне набывае асаблівую вострасьць у моц таго, што пры вельмі слабой у мінулым прамысловасьці малая была і пралетарская праслойка партыйных кадраў. Сярод іх значны процант выхадцаў з дробна-буржуазных партый—„Соцыялістычнай Грамады“, „Бунду“ і інш. Спэцыяльная праверка кадраў, праведзеная камісіяй ЦКК УсеКП(б), а таксама праверка іх на рабоце ў працягу некалькіх год і асабліва ў апошні пэрыод абвастрэньня клясавае барацьбы ў краіне, паказвае, што некаторая частка кіруючых кадраў не спраўляецца з пастаўленымі перад партыяй задачамі, ня здольна з усёю выразнасьцю праводзіць лінію партыі. Сярод гэтае нягоднае для кіраўніцтва часткі кадраў ёсьць на словах алілюйшчыкі, а на справе правыя ўхілістыя або прымірэнцы, ёсьць людзі, якія ня маюць моцнай сувязі з партмасамі і рабочай клясай, якія лічаць сваёю асноўнаю задачаю сувязь з невялікаю групоўкаю інтэлігенцыі, ёсьць і такія адзіночкі, для якіх сьцёрліся межы паміж камуністымі і нацыянал-дэмократызмам. Усё гэта ставіць з вялізнай сілай перад КП(б)Б задачу замены нягоднай часткі кадраў новымі сьвежымі пралетарскімі сіламі. За гады сав. улады, асабліва апошнія гады, значна вырас пралетарыят Беларусі, вырасла пралетарская праслойка і ў КП(б)Б, і перад намі

стаіць зараз задача рашучага вылучэньня новых і новых кіраўнікоў з ліку моцных, зьвязаных з масамі, якія карыстаюцца іх давер'ем, бальшавікоў. Адцясьніць зьмяніць нягодную частку кадраў трэба, не ўважаючы на асобы і на мінулыя заслугі. Партыя патрабуе, каб кіруючыя ёю кадры складаліся з моцных бальшавікоў, каб яны ішлі на чале партыі, каб яны заўсёды і ўсюды былі на першай лініі агню ў барацьбе супроць клясавага ворага. Партыі не патрэбны гора-кіраўнікі, якія плятуцца ў хвасьце, якія стараюцца ўхіліцца ад клясавых боек. У КП(б)Б ёсьць цяпер вялікія рэзэрвы, адкуль трэба сьмела вылучаць новых і новых кіраўнікоў, папаўняючы і асьвяжаючы асноўныя кіруючыя кадры.

---

Г. Валь.

# Барацьба з фашызмам і важнейшыя праяўленьні правае небясьпекі ў компартыі Польшчы.

Ужо VI Конгрэс Комінтэрну падкрэсьліў асаблівае значэньне компартыі Польшчы, як партыі, якая стаіць на адным з важнейшых пастоў сусьветнае пролетарскае рэволюцыі. На Польшчы асабліва сканцэнтравана ўвага міжнароднага капіталу. Фашысцкая Польшча непасрэдна падрыхтоўвае вайну супроць Савецкага Саюзу. У Польшчы клясавыя і нацыянальныя супярэчнасьці дасягнулі надзвычайна вялікага напружаньня. Да гэтага трэба дадаць, што буржуазная Польшча зьяўляецца адным з самых слабых зьвенчакоў у ланцугу імпэрыялістычных дзяржаў, што капіталістычная стабілізацыя ў Польшчы яшчэ больш гнілая, нямоцная і хісткая, чым у іншых буйных капіталістычных краінах і што з, менавіта, прычыны гэтага пролетарская рэволюцыя тут лягчэй можа прарваць гэты ланцуг.

Нарэшце, выключнае значэньне надае КПП яе багатае рэволюцыйдае мінулае, практыка 35-гадовага падпольля, практыка першае расійскае рэволюцыі 1905 году, у якой наша партыя стаяла на чале гэроічнае барацьбы польскага пролетарыяту, які змагаўся адным фронтам з расійскай рабочаю клясаю супроць царызму і буржуазіі. КПП належаць баявыя традыцыі СД Польшчы і Літвы, якая ўваходзіла ў РСДРП і якая за выключэньнем разгалосьсяў з бальшавікамі па некаторых паасобных пытаньнях (сялянскае і нацыянальнае асабліва)—на ўсіх гістарычных паваротах была разам з бальшавікамі і была самая блізкая да бальшавікоў. КПП належаць гістарычныя заслугі СДП і Л., якая правяла бязьлітасную і няпрымірымую барацьбу з сацыял-патрыятызмам ППС, польскай рознавіднасьцю рэформізму і соцыял-шовінізму, які зрабіўся цяпер соцыял-фашызмам. КПП зьяўляецца аднэй з старэйшых організацый III Інтэрнацыяналу і мае выпрабаваныя партыйныя кадры, якія ня мае ніводная іншая заходня-эўропэйская компартыя. Усё гэта ўскладае на яе яшчэ большую адказнасьць і за палітычную лінію і за штодзенную работу.

Пасьля вядомае опортуністычнай памылкі, дапушчанае партыйным кіраўніцтвам у часе фашысцкага перавароту Пілсудзкага, у КПП разгарэлася вострая фракцыйная барацьба, якая ў выніку ледзь не прывяла (у 1928 г.) да расколу партыі. Дзякуючы рашучаму ўмяшаньню Комінтэрну, які дапамог партыі разабрацца ў складанай абстаноўцы, створанай фашысцкім пераваротам, і які заклікаў да консолідацыі ўсяе партыі на аснове прызнаньня ўсіх дапушчаных памылак, з якой-бы групы яны ні выходзілі і іх перамаганьня шляхам бальшавіцкае самакрытыкі,—КПП здолела перайсьці да новых задач, што стаялі перад ёю. Партыя ўсьвядоміла галоўную крыніцу свайго майскага паражэньня, якім зьяўлялася ня зьнішчаная опортуністычная тэорыя

„двух этапаў рэволюцыі“, што адводзіла дробнай буржуазіі самастойную політычную ролю тэорыя, якая прыявіла яшчэ раней, у часе рэволюцыйных падзей 1923 г. да таго, што КПП паплялася ў хвасьце падзей і ў хвасьце ППС.

Увосень 1928 г. ВККІ, згодна асобным паўнамоцтвам, зацьверджаным VI Конгрэсам Комінтэрну па польскім пытаньні, зьвярнуўся з адкрытым лістом да членаў КПП. У гэтым лісьце ВККІ даў дакладны аналіз памылак, зробленых абедзьвюма групамі ў партыі, б. большасьцю і б. меншасьцю; вызначыў важнейшыя задачы партыі на трэці пэрыяд ў абстаноўцы палявеньня рабочае клясы і прызнаў, што галоўнай небясьпекаю, што пагражае партыі ў даны момант, зьяўляецца правая опортуністычная небясьпека і прымірэнцтва да яе.

Адкрыты ліст быў цалкам падтрыманы партыйнымі масамі. Дзякуючы яго ўстаноўцы, удалося значна памякчыць вострасьць фракцыйнае барацьбы. ЦК партыі праводзіў за апошні пэрыяд наогул правільную політычную лінію, хаця ў асобных пытаньнях рабіў памылкі, якія потым выпраўляў. Але за самы апошні час узьніклі новыя разнагалосьсі, якія набылі вельмі сур'ёзныя памеры. Гэта абвастрэньне вырастае на базе асноўных пытаньняў сёньнешняга дня, перш за ўсё на базе разыходжаньняў у пытаньні аб ацэнцы расколу ў ППС і так званай афіцыйнай ППС (на абароне прыхільнікамі групы тав. Костржэвы опортуністычнага погляду на ППС), у пытаньні аб самакрытыцы, барацьбе супроць правых памылак. Але ў значнай ступені яно яшчэ карыстаецца старым фракцыйным падзелам.

Каб разабрацца па сутнасьці новых унутрыпартыйных разнагалосьсяў, трэба спыніцца на некаторых новых момантах у становішчы фашысцкае Польшчы і польскага рабочага руху.

### Гаспадарчы змрок польскага фашызму і вайна супроць СССР.

Пэрыод фальшывага „росквіту“ фашысцкае стабілізацыі, выкліканы шэрагам спрыязных аб'ектыўных прычын, у першую чаргу доўгай забастоўкай ангельскіх гарнякоў, належыць ужо да мінулага. Апошнія месяцы прынесьлі вельмі прыкметнае абвастрэньне крызіснага стану гаспадарчага жыцьця Польшчы, якое адзначае ня звычайны часовы заняпад прамысловай кон'юнктуры, але крызіс капіталістычнае гаспадаркі ў цэлым, які ўсё больш зацягваецца і ўсё больш паглыбляецца, а таксама і далейшы моцны ўзрост асноўных унутраных і замежных супярэчнасьцяй фашысцкае стабілізацыі. Фашысцкі пераварот адзначаў ня толькі спробу стабілізацыі польскага капіталізму, але і быў (кажучы словамі т. Мануільскага), конвульсіяй, якая сыгналізуе момант загніваньня капіталістычнае гаспадаркі ў цэлым.

Наперакор пэрспэктывам „залатога дажджу“, які павінен быў паліць „няўдзячную глебу“ польскага капіталізму, найбольшай вострасьцю адзначаецца сёньня якраз грашовы крызіс, які падрывае ўстойлівасьць польскае валюты. Шпарка ўзрастае колькасьць абпротэставаных вэксалёў, з 45 млн. зл. у жніўні 1928 г. да 79 млн. у лютым 1929 году. Процант абпротэставаных вэксалёў у польскім банку ў лютым быў роўны 5,61 проц., летась у сярэднім быў роўны 2 проц., а ў пэрыод вялікага крызісу ў лютым 1926 г. быў роўны—4,91 проц. Курс акцый зьнізіўся на працягу апошняга году ад 107,3 да 92,1 проц. Прыватная „вучотная норма“ расьце: у студзені—19½, у лютым—25,5, у сакавіку—29. Скараціліся зьберажэньні. Паступова памяншаецца залаты фонд у Польскім банку, адбываецца адліў чужаземнае валюты (за першыя 3 месяцы на 150 міл. злотых) пры выразным росьце запазычанасьці.

Зьніжэньне курсу польскае пазыкі ў ПАЗ Штатах Амэрыкі разбурае надзеі на больш значны прыліў амэрыканскіх капіталаў у Польшчу, якой прыдзецца заплаціць за замежныя пазыкі сёлета 199 міл. зл. Адсюль скарачэньне дзяржаўных інвэстыцый. З месяца на месяц павялічваецца пасыўнасьць гандлёвага балянсу, дасягнуўшы ў лютым 97.562 тыс. зл., у красавіку—107 міл., супроць 29 міл. у сьнежні 1928 г.

У апублікаваным нядаўна дакладзе амэрыканскага фінансавага „дарадцы" ў Польшчы Дзюі на першы квартал сёлетняга году паказваецца на наяўнасьць крызісу ва ўсіх галінах прамысловасьці і цяжкае становішча грашовага рынку.

Крызісны стан выступае больш яскрава ў тэкстыльнай прамысловасьці і ў іншых галінах, якія ня грунтуюцца на ваеннай кон'юнктуры. Дзюі паказвае, што заказы ў лёгкай індустрыі скараціліся на 50 проц. Нават у мэталюргічнай прамысловасьці надыйшоў заняпад кон'юнктуры. Продукцыя жалеза паменшылася на 21 проц., сталі на 14 проц., у аднэй В. Сілезіі продукцыя мэталюргічных заводаў паменшылася на 7 проц. Зьнізілася таксама дзенная продукцыя вугалю ў адным лютым параўнальна са студзенем на 7 проц.

Хутка расьце беспрацоўе. Афіцыйная колькасьць беспрацоўных павялічылася з 64 тыс. у кастрычніку 1928 г. да 184 тыс. у сакавіку 1929 г. Але за красавік і май гэтыя лічбы значна павялічыліся ў зьвязку з масавымі рэдукцыямі. У аднэй толькі Лодзі зараз ёсьць 30 тыс. беспрацоўных. Буйныя і сярэднія прадпрыемствы часткова закрываюцца або скарачаюць рабочы тыдзень. Толькі 15 проц. лодзінскіх рабочых, занятых поўны тыдзень.

У вёсцы расьце беднасьць асноўных сялянскіх мас, зруйнаваных з прычыны пазямельнага голаду, падаткаў, якія нязвычайна павялічыліся, і неўраджаяў, якія абхапілі значныя часткі Польшчы. Ва многіх мясцох, асабліва ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне пануе голад.

Фашысцкая палітыка на вёсцы, разьлічаная на ўмацаваньне кулацка-памешчыцкіх гаспадарак, праводзіцца цалкам за кошт бядняцкіх і асабліва серадняцкіх мас сялянства. Разбурэньне дробных сялянскіх гаспадарак набывае ўсё больш вострыя формы. Бядняцкія гаспадаркі пазбаўляюцца зямлі пры комасацыі (ліквідацыя цераспалосіцы), пазбаўляюцца часта пры ліквідацыі сэрвітутаў (вобшчыннага зямельнага карыстаньня)—адзінай апоры існаваньня (выгану), становяцца ахвярамі памешчыка і кулака, якія паднімаюць цэны на дровы, корм для жывёлы, хлеб, які купляецца асабліва ўвесну і г. д. Фашысцкая аграрная палітыка б'е таксама па асновах масы серадняцтва, якое бяднее і гаспадарка якога зьяўляецца дэфіцытнай.

Польская вёска кожны год выкідае масы безьзямельных і беспрацоўных сялян, якія не знаходзяць, у такой меры, як раней, выхаду ў эміграцыі, з прычыны закрыцьця гэтага клапану ў З. Штаты.

Выключна цяжкае становішча соцень тысяч польскіх батракоў, якія працуюць ва ўмовах самае дзікае эксплёатацыі і экономскага бізуна на панскіх фальварках.

Такое беднае становішча сялянскіх мас прыводзіць да значнага звужэньня рынку масавага спажываньня. Да абмежаваньня ёмкасьці ўнутранага рынку збыту вядзе таксама заняпад цэн сельска-гаспадарчых продуктаў і абвостраная конкурэнцыя на замежным рынку, якая затрымлівае экспорт сельска-гаспадарчых і прамысловых тавараў. Становішча абвастраецца яшчэ тым, што польская прамысловасьць адсталая ў адносінах да прамысловасьці перадавых капіталістычных краін, ня гледзячы на рацыяналізацыю, якая праводзіцца за кошт пагаршэньня ўмоў працы і жабрацкае заработнае платы, і палітыку

дэмпінга, усё больш выпіхваецца з замежных рынкаў. Гэта вострая супярэчнасьць фашысцкае стабілізацыі заганяе польскі капіталізм у тупік, з якога ён шукае выхаду *ў узмацненьне экспансії на ўсход, у імпэрыялістычнай політыцы шалёнае падрыхтоўкі вайны супроць СССР і захвату Літвы для мэт гэтае вайны.*

Жорсткая рэчаіснасьць разбурае сьцьверджаньні буржуазных экономістых і аполёгэтаў фашысцкага перавароту, якія балбочуць у зьвязку з кон'юнктурным пашырэньнем ўнутранога рынку ў першыя гады стабілізацыі, аб аўтаркії польскае капіталістычнае гаспадаркі і аб яе будучым росквіце.

Тут да рэчы ўспомніць аб разгалосьсях у нашай партыі ў пытаньні аб стабілізацыі. Тав. Фідлер, прыхільнік б. меншасьці, даў у 1927 г. у сваёй брашуры няправільны аналіз экономічнага разьвіцьця Польшчы, у прыватнасьці разьвіцьця апрацоўчае прамысловасьці, лічачы яе прызначанай на пагібель, а самую Польшчу пэратвараў у нейкага роду аграрны гінтэрлянд Нямеччыны (б. меншасьць на IV зьезьдзе КПП прызнала яго пункт погляду памылковым).

Але асабліва актуальным і небясьпечным у даны момант ўзмоцненай падрыхтоўкі вайны супроць СССР зьяўляецца погляд т. Бранда (прыхільніка б. большасьці), які разам з т. Костржэвай яшчэ ў тэзісах 1926 г. высунуў аднабаковы і няправільны прогноз росквіту стабілізацыі, які нібы чакае Польшчу пад „залатым дажджом“ амэрыканскіх пазык, і які ў брашуры, выданай ужо ў 1928 г., абараняў опортуністычнае цьверджаньне (цалком успрынятае б. большасьцю), якое зводзіцца да пераацэнцы фашысцкае стабілізацыі, у прыватнасьці магчымасьці аўтаркічнага разьвіцьця ўнутранога рынку Польшчы, *недаацэньваючы* тым самым тэндэнцый польскага фашызму да *экспансії* ў сёньнешні дзень на *Ўсход*, што *роўназначна з недаацэнкай непасрэднае падрыхтоўкі вайны супроць СССР.* Тав. Бранд да гэтага часу ня даў самакрытыкі сваёй памылкі.

З агульных крызісных зьявішч трэба яшчэ паказаць на цяжкія вынікі падатковае політыкі фашызму. Польскі бюджэт, сапраўдны бюджэт вайны павялічыўся сёлета на 1 мільярд злотых параўнальна з 1927-28 г. Падатковы прэс дасягае апошніх межаў, яшчэ больш разбураючы працоўныя масы гораду і вёскі. Ужо цяпер 20 проц. агульнае сумы падаткаў выціскаецца шляхам экзэкуцый, якія выклікаюць глыбокі рух сярод сялянства і нават (адзінкавыя пакуль-што) сялянскія бунты, асабліва на Заходняй Украіне.

Гэткай-жа агульнай бядой зьяўляецца дарагоўля, якая абагнала ў пэрыяд фашысцкага рэжыму на 60 проц. рост заработнае платы. Яна б'е таксама па зьбяднелых пластох гарадзкое дробнае буржуазії, выклікаючы нездавальненьне і няпэўнасьць становішча. Такія вынікі трохгадовага гаспадараньня фашысцкага рэжыму ў Польшчы.

## На новым рэволюцыйным уздыме.

На глебе экономічнага крызісу ўсё больш яскрава выяўляецца няўстойлівы, гнілы і надзвычайна супярэчлівы характар гэтае стабілізацыі. Ужо зьяўляюцца адзнакі новае рэволюцыйнае хвалі, якая нарастае ў горадзе і вёсцы. Простым вынікам фашысцкае стабілізацыі зьяўляецца паляпеньне шырокіх працоўных мас. Нязвычайнае ўзмацненьне эксплёатацыі рабочае клясы шляхам рацыяналізацыі, зьніжэньне заработнае платы, падаўжэньне рабочага дня, рост дарагоўлі і беспрацоўя, фашызацыя прамысловага законадаўства, імкненьне да фашызацыі профсаюзаў і да поўнага прыдушэньня пролетарскае клясавае барацьбы, выклікала

адпор рабочае клясы і прывяло да ўзмацненьня зебастовачнае барацьбы і вулічных дэмонстрацый.

Першай яскравай праяваю процэсу палявеньня рабочых мас была бліскучая перамога Компартыі Польшчы, якая кіруе антыфашысцкім рабоча-сялянскім блёкам, на выбарах у сойм у сакавіку 1928 г., калі за антыфашысцкія сьпісы было падана 800.000 галасоў, наперакор лютаму тэрору фашыстых і сацыял-фашыстых. Другім, і самым важным этапам, які адзначае ўжо пачатак контрнаступальных баёў польскага пролетарыяту, была магутная лодзінская забастоўка. Генэральная забастоўка ў Лодзі была моцным ударам па ўсёй фашысцкай сыстэме моцнага прыгнечаньня і эксплёатацыі. З часу лодзінскае забастоўкі ня было такога шырокага забастовачнага руху, які абхапляў-бы адначасова значныя пласты прамысловых рабочых, аднак у цэлым радзе мясцовасьцяй выбухаюць адна за аднэй забастоўкі, якія цягнуцца выключна доўга, вызначаюцца выключнай упартасьцю і гэройствам рабочых. Прытым характарнай рысай сучасных забастовак зьяўляецца тое, што на некаторых фабрыках выбухаюць ужо палітычныя забастоўкі супроць звальненьня рабочых, супроць прыняцьця на завод фашыстых і г. д. Ужо 4 месяцы ўпарта бастуюць тэкстыльшчыкі ў Варшаве, баставалі чыгуначнікі ў Львове, забаставалі рабочыя хэмікі ў Кракаве, нарастае буйная забастоўка гарнякоў і мэталістых у Дамброве і Верхняй Сілезіі. У Сілезіі ўжо абвешчаны лёкаўт 25 тыс. рабочых мэталюргічнае прамысловасьці. Адбываюцца дэмонстрацыі беспрацоўных у Варшаве, у Пазнані, Лодзі, у Львове і інш. гарадох. Палявеньне рабочых выявілася на выбарах фабрычных дэлегатаў сярод варшаўскіх мэталістых на муніцыпальных выбарах у Чэлядзі (Дамброўскі басэйн), у Баранавічах, Грозьне і інш. У Варшаве на дэлегацкіх выбарах адкрытыя фашысты мелі дзе-які посьпех толькі на ваенных фабрыках, дзе больш за ўсё тэрарызуюць рабочых.

Мацнейшым выяўленьнем подвышанае наступальнае актыўнасьці працоўных мас былі першамайскія дэмонстрацыі. 1-га мая, якое носіць у Польшчы асабліва баявы характар, набывае сёлета выключнае па свайму размаху значэньне. Сёлета ня толькі рабочыя масы буйных пролетарскіх цэнтраў цаною крыві заваявалі вуліцу, але ўпяршыню комуністычныя дэмонстрацыі ахапілі ў такой колькасьці масы бядняцкага сялянства карэннае Польшчы. Дзесяткі тысяч сялян, асабліва ў Люблінскай акрузе, пайшлі ў гарады, прабіваючы сабе шлях праз шэраг паліцэйскіх кардонаў. Яны ішлі са сваімі ўласнымі чырвонымі сьцягамі пад лёзунгамі рабоча-сялянскага ўраду, барацьбы супроць падрыхтоўкі вайны супроць Саветаў, барацьбы супроць фашысцкае дыктатуры і за рабоча-сялянскі саюз. Баявыя сялянскія дэмонстрацыі ў дзень 1-га мая адбіваюць процэс глыбокіх зьмен клясавых сіл у польскай вёсцы і побач з сялянскімі бунтамі супроць падаткаў, побач з забастоўкамі сельска-гаспадарчых рабочых у Зах. Украіне сыгналізуюць новую фазу рэволюцыйнага ўздыму на вёсцы. Глыбокі рух, што ахапіў зах.-украінскую і зах.-беларускую вёску, зьяўляецца адначасова сымптомам ажыўленьня рэвалюцыйна-вызваленчае барацьбы супроць окупацыі польскага імпэрыялізму. Акрамя памянёных сялянскіх бунтаў, мелі месца яшчэ ўвосень леташняга году значныя дэмонстрацыі прыгнечаных украінцаў у Львове, якія зноў аднавіліся. Украінскі нацыянальна-вызваленчы рух, які ажыў, белапалякі спрабуюць задушыць масавымі украінскімі і яўрэйскімі пагромамі. Узмацненьне нацыянальна-рэволюцыйнае барацьбы ў окупаваных краінах адбываецца побач з узмацненьнем клясавае барацьбы ў самой беларускай і украінскай вёсцы, дзе кулацкія верхавіны, а таксама буржуазія гарадоў

аб‘яднаюцца з польскім фашызмам для супольнага адпору рэволюцыйнай хвале, якая ўвесь час узрастае і для падрыхтоўкі вайны супроць Савецкага Саюзу.

Абвастрэньне супярэчнасьцяй капіталістычнае стабілізацыі, абвастрэньне клясавае барацьбы ва ўсёй Польшчы, палявеньне рабочае клясы і бядняцкіх мас сялянства, уздым рэвалюцыйна-вызваленчага руху прыгнечаных народаў пацьвярджаюць цалкам і поўнасьцю правільнасьць аналізу III пэрыоду, данага VI Конгрэсам Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

### Фашыстыя на варце.

Непарыўна зьвязана з крызіснымі зьявішчамі фашысцкае стабілізацыі і ўздымам рэволюцыйнага руху нарастаньне *політычнага крызісу фашызму*. Трэба асабліва адзначыць звужваньне соцыяльнае базы фашысцкага ўплыву на вёсцы. Бязьлітасна змагаючыся супроць рэволюцыйнага руху, ставячы стаўку на разьвіцьце капіталістычнага землеробства, праводзячы сваясаблівую аграрную політыку сталыпінскага тыпу, падтрымліваючы стварэньне сельска-гаспадарчых організацый, адпускаючы гэтым таварыствам крэдыты, фашысцкі ўрад прыцягнуў на свой бок поўнасьцю памешчыкаў і кулакоў, але адначасова політыкай дэмагогіі і ашуканства, дробных падачак і подкупу ўносіў хістаньне ў асноўную сялянскую масу серадня коў, а часткова нават і вясковае беднаты. Атрымалася нават зрошчваньне серадняцкіх верхавінак з кулацтвам, якому з другога боку адпавядае абядненьне асноўнага пласту серадня коў і беднаты, якое прогрэсуе. Такім чынам, пад уплывам аграрнае політыкі, паглыбляецца распластаваньне сялянскіх мас і растуць клясавыя супярэчнасьці, узмацняецца радыкалізацыя батракоў, беднаты і асноўнае масы серадняцтва. Агульны экономічны крызіс значна перашкаджае фашызму правядзеньне пастарому політыкі ашуканства і падачак, а прымушае яго яшчэ мацней выціскаць падаткі і душыць супраціўленьне сялян. Фашызм усё больш выкрываецца ў вачох сялянскіх мас, як урад капіталістых, памешчыкаў і кулакоў, і можа на вёсцы моцна абапірацца толькі на гэтых апошніх. Тое, што сялянскія масы пахіснуліся ўлева, ня можа не адбіцца і на важнейшай апоры фашысцкае дыктатуры, на польскай арміі, па сваім соцыяльным складзе пераважна сялянскай. У армію нямінуча будзе прасякаць рух, што абхапіў польскую вёску (што асабліва павінны ўлічваць компартыя і КСМ у іх антываеннай рабоце).

Расчароўваюцца ў фашызьме зруйнаваныя пласты гарадзкое дробнае буржуазіі, якая заўсёды праяўляе пры крызісных зьявішчах асаблівую няўстойлівасьць і хістаньні. Заўважана ўжо памяншэньне ліку галасоў, паданых за адкрыта фашысцкія сьпісы ў рознага роду выбараў апошняга часу, у той час, калі яшчэ аж да сакавіка леташняга году, фашызм атрымліваў найбольшую колькасьць галасоў.

У самым лагеры фашызму заўважаны некаторыя хістаньні, выкліканыя ў першую чаргу тымі затрудненьнямі, якія ён перажывае. З яго лягеру чутны першыя галасы трывогі. Галоўнае праўленьне згодніцкае сялянскае партыі „Вызваленьне“ ў аднэй з сваіх апошніх рэзолюцый прымушана канстатаваць: „Вера сялянства ў лепшую будучыню Польшчы пад уладаю маршала Пілсудзкага і яго акружэньня зьнікла“. Фашысцкі дэпутат Росэвіч проста гаворыць: „Прыйсьці можа нечакана момант, у якім ні боскія, ні чалавечыя законы ня ўтрымаюць сялянскае стыхіі“. Пілсудчыкі не памыляюцца, калі гавораць: „Адсюль відаць прадвесьнікаў буры, што надыходзіць“.

Фашызм шукае выхаду ў разгортваньні сваёй сыстэмы, ва ўдасканаленьні свайго апарату і ўзмацненьні тэрору; перабудоўваецца фашысцкі ўрад, у які ўвайшла кіраўнічая т. зв. палкоўніцкая група. Урад падрыхтоўвае проект фашысцкае конституцыі, які афармлівае максымальную канцэнтрацыю ўлады для барацьбы з рэволюцыйным рухам і для вайны супроць Савецкага Саюзу; фашысцкі ўрад пашырае організацыйную сетку новае ППС і конфэдэрацыі працы, насаджае свае ячэйкі ў буйных, асабліва ваенных фабрыках, пагалоўна выкідваючы з іх рэволюцыйных рабочых і ўсё больш ужывае мэтоды фізычнага зьнішчэньня рабочых. Аднachасова фашызм узмацняе мэтоды ашуканства мас, шырока рэклямуючы політыку арбітражу, новы проект страхавых законаў, „пазыкі працы“, дапамога галадаючым і г. д.

Але фашызму ўжо больш цяжка манэўраваць; выклікаючы, праўда, яшчэ частковыя ілюзіі, ён ня можа затрымаць агульнага процэсу радыкалізацыі мас, якія ўсьвядомяць на ўласнай скуры клясавую сутнасьць т. зв. рабочай, сялянскае і нацыянальнае політыкі фашызму. Абвастрэньне курсу фашызму ва ўнутраной і замежнай політыцы вядзе непасрэдна да далейшага абвастрэньня агульнага крызісу і разьвязваньня рэволюцыйных сіл ў горадзе і вёсцы.

### Манэўры ППС і правыя памылкі на мясцох.

У такім становішчы надзвычайна каштоўную паслугу аказвае фашызму яго верны аплот—Польская Социялістычная Партыя. Праводзячы летась раскол у ППС, фашызм забіваў двух зайцаў разам: стварыў сваю адкрытую „рабочую“ партыю з групы ЯварОўскага, прадастаўляючы старой, афіцыяльнай ППС адыгрываць ролю „опозыцыйнай“ у адносінах да фашызму партыі для больш пасьпяховага ашуканьня рабочых мас. Роля ППС і іншых згодніцкіх партый у агульнай сыстэме фашызму заключаецца менавіта ў тым, каб пры дапамозе радыкальна-дэмократычнае фразэолёгіі адцягваць масы ад барацьбы супроць фашысцкай дыктатуры і прыдушаць усякае праяўленьне клясавай барацьбы. Правадыры ППС запэўняюць масы, што іх „опозыцыя“ прымусіць фашысцкую дыктатуру ўступіць месца парляманцкай дэмократыі. Іх ілжывыя проекты „паляпшэньня“ конституцыі, „гаспадарчай дэмократыі“, новае зямельнай рэформы і „тэрыторыяльнае аўтаноміі“ для „крэсаў“ накіраваны фактычна да захаваньня і ўмацаваньня існуючага рэжыму, павінны стварыць выгляданасьць барацьбы за „дэмократыю“. Удала карыстаючыся расколам, ППС запэўняе масы, што „ачысьціўшыся“ ад пілсудчыкаў (адкрытых)—яварОўшчыкаў, яна цяпер сапраўды змагаецца за інтарэсы рабочых. І трэба прызнаць, што ППС, праводзячы гэтую політыку ашуканства, дабілася ўжо некаторых посьпехаў: яна павялічыла досыць значную колькасьць сваіх галасоў ў розных мясцох на апошніх выбарах у гарадзкія думы, больнічныя касы і фабзавкомы (асабліва ў провінцыяльных гарадках Заходняй Украіны і Беларусі, у Верхняй Сілезіі і нават у Дамброўскім вугальным басэйне. Яе частковыя посьпехі сьведчаць аб небясьпецы перахвату рэволюцыйных настрояў некаторых частак мас, што ідуць улева у першую чаргу мас расчараваных у фашызьме, які я ад яго адыходзяць, але якія яшчэ нясьпелыя для комунізму. Падобнае зьявішча мела месца, між іншым, на нядаўных выбарах у Саксоніі, дзе саксонская с.-д., якая гуляе „левай“ радыкальнай фразай, увяла ў аблуду значныя пласты рабочых.

Але, з другога боку, задачу ашуканства рабочых мас для ППС зрабіла больш лёгкай тая акалічнасьць, што яна ня была з самага пачатку (у часе і пасьля расколу з яварОўшчыкамі) досыць моцна выкрыта

компартыяй, якая ў некаторых сваіх зьвенчаках сама паддалася націску ілюзій мас адносна ілжывага палявеньня ППС і ілжывай барацьбы паміж ёю і фашызмам. Партыйныя організацыі ня ўсюды і не адразу ўзялі рашучы курс на барацьбу з афіцыйнай ППС, як самай небясьпечнай у даны момант, не адразу накіравалі галоўны ўдар менавіта супроць гэтае ППС, лічачы, у лепшым выпадку, абедзьве групы ППС—адкрыта фашысцкую і замаскаваную—аднолькава небясьпечнымі. Паасобныя організацыі або члены партыі пайшлі нават на недапушчальную, опортуністычную тактыку адзінага фронту з верхавінамі ППС. Такі выпадак меў месца ў Петракове, дзе райком партыі склікаў разам з пэпээсаўцамі нараду для ўзгадненьня сьпісу кандыдатаў на выбары ў гарадзкую думу. У адносінах да таварышоў, якія супрацiўляліся гэтай тактыцы, райком ужываў вострыя рэпрэсіі, аж да выключэньня з партыі. У даным выпадку праявілася адкрытая правая опозыцыя, якая ўжывае фракцыйныя мэтады барацьбы.

У Варшаве некалькімі таварышамі быў складзены проект адкрытага лісту праўленьню работнікаў больнічных кас. Ліст прапануе пэпээсаўцам правесьці супольна энэргічную барацьбу супроць фашызму і выступіць адзіным фронтам супроць адкрыта-фашысцкай ППС групы Явароўскага, што адкалолася ад ППС.

У той-жа Варшаве сур'ёзную опортуністычную памылку дапусьціла профсаюзная комфракцыя на. аднэй профсаюзнай конфэрэнцыі. На гэтай конфэрэнцыі соцыял-фашыстыя, каб ачысьціцца перад масамі і скінуць з сябе адказнасьць за расстрэлы рабочых іх уласнымі баявымі дружынамі, запрапанавалі рэзолюцыю супроць фашысцкіх дружын. Нашы таварышы, замест таго, каб зараз-жа выкрыць гэты подлы манэўр пэпээсаўскіх соцыял-забойцаў і галасаваць супроць іх прапановы, устрымаліся ад галасаваньня, хаця на тым-жа сходзе запрапанавалі сваю рэзолюцыю. Акрамя таго, быў такі факт, што комуністыя пісалі профсаюзную лістоўку разам з пэпээсаўцамі супроць яварoўшчыкаў і пашыралі лістоўкі ППС супроць яварoўшчыкаў. У Дамброўскім басэйне адзін з райкомаў паслаў дэлегацыю на нараду, скліканую падстаўленай пэпээсаўцамі яўрэйскай згодніцкай партыяй Поалей-Цион. У даным выпадку, хаця комуністыя потым і пайшлі з нарады, яны, аднак, сваёй першапачатковай прысутнасьцю паслабілі выкрыцьцё манэўраў соцыял-фашызму. У той-жа акрузе, паводле пастановы Дамброўскага райкому ў прысутнасьці двух членаў акруговага камітэту, выстаўляюцца комуністычныя кандыдаты ў сьпісы пэпээсаўскага саюзу на выбарах ў фашысцкія суды працы. Тут няправільныя адносіны да „судоў працы“ і спроба адзінага фронту з соцыял-фашысцкімі правадырамі ППС. У Верхняй Сілезіі ў некаторых раёнах частка комуністых, зламаўшы дырэктыву партыі, далучылася да дэмонстрацыі ППС у дзень 1-га мая.

Такія опортуністычныя памылкі, што вынікаюць з недаацэнкі контррэволюцыйнае ролі ППС і соцыял-фашызму, а таксама легаліцкія тэндэнцыі ў адносінах да соцыял-фашысцкае прафсаюзнае бюрократыі, няправільнае разуменьне тактыкі адзінства і невыстарчальнае ўсьведамленьне ролі самастойнага кіраўніцтва забастовачным рухам, па сваім характары правыя памылкі, дапускаліся паасобнымі організацыямі і членамі партыі, незалежна ад іх ранейшых фракцыйных дзяленьняў, Ясна, што такія памыллі не маглі ня спрыяць шэрагу выбарных посьпехаў ППС. Гэтыя памылкі асабліва небясьпечныя ў даны момант, калі ў зьвязку з нарастаньнем крызісу фашызму, ёсьць адзнакі некаторага ажыўленьня ў масах дэмократычных ілюзій, якія з вялікім посьпехам скарыстоўваюцца ППС і іншымі згодніцкімі партыямі. Яны

пацьвярджаюць цалкам цьверджаньне VI Конгрэсу і адкрытага лісту ВККІ аб тым, што галоўнай небясьпекай ў цяперашні час зьяўляецца правая небясьпека і прымірэнцтва да яе.

## Недаацэнка контр-рэволюцыйнае ролі соцыял-фашызму.

У такіх умовах пытаньне аб адносінах мас да соцыял-фашысцкае ППС ставіцца цэнтральным політычным пытаньнем. Сур'ёзныя правыя памылкі ў партыі, што вынікаюць з недаацэнкі контр-рэволюцыйнае ролі соцыял-фашызму, мелі сваю ідэолёгічную крыніцу ў няправільных поглядах кіруючых таварышоў з б. большасьці: Кострживы і Стэфанскага на адносіны фашызму да згодніцкіх партый і на раскол у ППС.

Сутнасьць гэтых поглядаў заключаецца ў разглядзе згодніцкіх партый як сілы, несумяшчальнае з фашызмам. Тав. Кострживa яшчэ ўвесну леташняга году высунуў погляд, поўнасьцю ўхвалены б. большасьцю, што фашызм толькі на развалінах усіх буржуазных і згодніцкіх партый можа стварыць сваю монопольную фашысцкую партыю, да чаго ён няўхільна імкнецца. Тав. Кострживa ў сваім артыкуле, зьмешчаным ў цэнтральным органе КПП („Чырвоны Сьцяг"), пісаў:

> „Хто ня ведае, чым зьяўляецца фашызм, можа пазнаць яго на падставе аднаго такога лёзунгу, які Мусоліні праводзіць у жыцьцё ў Італіі з такім посьпехам, што на арэне барацьбы засталася, акрамя фашысцкай партыі, толькі адна організацыя, якой фашызм ня ў стане зламаць—компартыя. Адна надклясавая партыя—гэта выратоўчы пояс буржуазіі, якая тоне".

Далей ход думак т. Кострживы прыблізна наступны: польскі фашызм ліквідаваў „програму дэмократычнага разьвіцьця" соцыял-згодніцкіх партый; яны апынуліся пасьля перамогі фашызму „перад разьбітым карытам" сваіх „дэмократычных" лёзунгаў, якія ілжыва паказвалі масам шлях да соцыялізму", яны „дапамаглі фашызму ліквідаваць іх програму" („дэмократычную"—*Г. В.*), а цяпер дапамагаюць яму ліквідаваць сябе саміх". Пасьля такіх разважаньняў зьяўляецца ў артыкуле Кострживы драматычная сцэна, якая нагадвае вядомую сцэну з рымскага цырку ў романе Сянкевіча „Камо градешы?"

> „Awe Caesar morituri te salutant!"—паміраючы, віншуем цябе Цэзар!—гэты вокліч паміраючых рымскіх нявольнікаў лепш за ўсё характарызуе ролю тых нявольнікаў, якіх выхаваў сабе капіталізм у асобе згодніцкіх партый. Яны існавалі і жылі для абароны капіталізму, памруць дзеля яго патрэб, пад *пагрозаю сьмерці з яго боку* (падкр. мною—*Г. В.*), абараняюць і служаць яму".

Такім чынам выходзіць, што ППС ня суджана загінуць разам з капіталізмам пад ударамі пролетарскае рэволюцыі, а што яе ліквідуе сам капітал. Але польская рэчаіснасьць менш за ўсё нагадвае сцэну з рымскага цырку, а польскі капіталізм—міфічнага Хроноса, які зьядае ўласнае дзіця. Сьцьвярджаць, што ППС суджана загінуць ад рукі фашызму, гэта значыць ня бачыць процэсу зрошчваньня яе з дзяржаўным і гаспадарчым апаратам буржуазіі, гэта значыць не разумець тае асаблівае небясьпекі, якая пагражае пролетарскай рэволюцыі менавіта з боку соцыял-фашызму.

Мы ўжо ўпамянулі аб перараджэньні соцыял-патрыотычнае, рэформісцкае ППС у соцыял-імпэрыялісцкую і соцыял-фашысцкую партыю. Асабліва шпаркі тэмп набыло гэта зусім законамернае разьвіцьцё ў пэрыод „незалежнае" польскае буржуазнае дзяржавы, у імпэрыялістычнай політыцы якой ППС адыграла і адыгрывае самую актыўную ролю. Яна была і ёсьць галоўным пачынальнікам у падрыхтоўцы вайны

супроць саветаў, яна была і ёсьць важнейшай прыладай імпэрыялістычнага наступленьня на жыцьцёвы ўзровень польскае рабочае клясы і важнейшай апорай фашызму ў барацьбе супроць рэволюцыйнага руху пролетарыяту, бядняцкіх мас сялянства і прыгнечаных нацыянальнасьцяй. ППС была ўрадавай партыяй польскае буржуазіі ў самыя напружаныя часы клясавае барацьбы і актыўна падтрымлівала ўсе буржуазныя ўрады. Яна дапамагла фашызму прыйсьці да ўлады, дала яму правадыроў і кіраўнічыя кадры і актыўна падтрымлівае і сёньня праводзіць політыку фашысцкае дыктатуры. ППС увойдзе зноў ва ўрад, як толькі буржуазія будзе мець у гэтым патрэбу. Менавіта ў пэрыод фашысцкае дыктатуры завяршылася разьвіцьцё ППС у соцыял-фашысцкую партыю. У соцыял-фашысцкай політыцы ППС знаходзіць найвышэйшае выяўленьне злучэньня рэформізму з буржуазна-дзяржаўнай уладай.

Але соцыял-фашысцкая політыка ППС разьвіваецца на зьмененай соцыяльнай аснове і ў той-жа час зьмяняе ў далейшым склад ППС. Соцыяльнае прапластаваньне ППС усё больш перасоўваецца ў бок рабочае арыстакратыі, профсаюзнае бюрократыі, дзяржаўных службоўцаў, комунальных урадаўцаў і пасадовых асоб і дробных уласьнікаў. ППС ня толькі зьвязана тысячамі нітак з дзяржаўным апаратам, але адначасова падкармліваецца буржуазіяй у розных і шматлівых гаспадарчых організацыях, фінансавых саветах і г. д. Лёзунгі контролю продукцыі і гаспадарчае дэмократыі, што высоўваецца ППС за апошні час, ня толькі зьяўляюцца тонкім сродкам ашуканства рабочых мас, але і выяўленьнем паскоранага процэсу зрошчваньня ППС з буржуазным апаратам. ППС—гэта трэцяя партыя буржуазіі—зусім сумяшчальны неабходны зьвенчак у сыстэме фашысцкае дыктатуры.

У той час, калі компартыя павінна весьці і вядзе барацьбу з ППС не на жыцьцё, а на сьмерць, прыходзіць да партыі і сьцьвярджае, што фашызм сам ліквідуе ППС, гэта адзначае на справе *не дапамагаць партыі ў барацьбе з ППС, а разбройваць яе.*

Цалкам успрыняў гэтую няправільную ўстаноўку тав. Стэфанскі, які пасьлядоўна разьвівае погляд т. Кострэжвы. Ужо пасьля расколу ў ППС тав. Стэфанскі піша ў „Чырвоным Сьцягу“, што фашызм прымушаны *зрабіць замах на асновы дробна-буржуазнае ідэолёгіі ППС, не пакідаючы ад яе каменя на каменьні.* Паводле думкі Стэфанскага існаваньне паасобных згодніцкіх партый як ідэолёгічна, так і політычна і організацыйна таксама не сумяшчальна з фашызмам. Адсюль адбываецца ў тав. Стэфанскага „атака фашызму“ супроць ППС, рашучае супраціўленьне ППС фашызму, абарона ёю сваёй самастойнасьці і інш. Нарэшце, адсюль атрымліваецца сьцьверджаньне Стэфанскага, што опозыцыйная фразэолёгія ППС *па меры нарастаньня рэволюцыйнага руху ўсё больш будзе праяўляць двухбакова-востры характар,* што адным сваім лязом яна *будзе ўдараць па асновах фашысцкае дыктатуры.*

У програме Комінтэрну асаблівая ўвага зьвяртаецца на небясьпеку для пролетарыяту з боку „опозыцыйнае“ с. д., якая гуляе часамі рэволюцыйнай фразай. А ў т. Стэфанскага выходзіць, што на глебе „нарастаньня рэволюцыйнага руху“ польскія соцыял-здраднікі будуць небясьпечныя і для фашызму. Аб'ектыўна ППС выступае ў Стэфанскага ў ролі сілы, што змагаецца *на два фронты,* супроць комунізму і супроць фашызму. Ясная справа, што *такую* ППС (якую сябе прадстаўляюць Кострэжва і Стэфанскі) фашызм павінен ліквідаваць.

Чаму-ж гэта выходзіць менавіта так, лепш за ўсё скажа сам Стэфанскі:

„Перамога фашызму ў Польшчы,—піша ён,—была ліквідацыяй парляманцкае дэмократыі... а разам з ёю ліквідацыяй ранейшае ролі політычных партый, галоўная дзейнасьць і програмы якіх вырасталі і грунтаваліся на буржуазнай дэмократыі... Адсюль вынікае барацьба Пілсудзкага супроць партый, адсюль разлажэньне і распад усіх старых політычных партый, на руінах якіх (усё таксама як у тав. Кострэжвы.—*Г. В.*) вырастае і разрастаецца адна нібы надклясавая фашысцкая партыя.

... Гэты процэс, наперакор хвастаўству правадыроў, ня толькі ня мог абыйсьці ППС, але наадварот—*менавіта ў ППС ён павінен дабрацца да фундамэнтаў яе дробна-буржуазнае ідэолёгіі, не пакідаючы ад яе каменя на камені*" (падкрэсьлена—*Г. В.*).

Зусім відавочна, што позыцыя т. т. Кострэжвы і Стэфанскага карэнным чынам супярэчыць тэй ацэнцы с.-д., якую даў VI Конгрэс і програма Комінтэрна, і асабліва шкодна ў сваіх практычных выніках.

Яна ня бачыць процэсу органічнага зрошчваньня згодніцкіх партый з фашызмам (за апошні час гэты фашызм асабліва яскрава выступае ў Нямеччыне) і сілу іх унутранае сутнасьці і мэтавае політыкі фашызму і як адлюстраваньне гэтага процэсу—органічнае перарастаньне псэўдасоцыялістычнае ідэолёгіі ППС у фашысцкую ідэолёгію. Яны пераацэньваюць унутраныя спрэчкі ў фашысцкім лягеры, бачаць у іх барацьбу двух нясумяшчальных ідэолёгій і організацыйных сыстэм, у той час, калі *ўвесь фронт* барацьбы фашызму і соцыял-фашызму накіраваны супроць рэволюцыйнага руху.

І т. Кострэжва і т. Стэфанскі ня ўлічваюць асаблівае няўстойлівасьці загніваньня і надзвычайнага абвастрэньня ўнутраных супярэчнасьцяй капіталістычнае стабілізацыі (у прыватнасьці паляваньня рабочых мас) у Польшчы як фактараў, якія тармозяць стварэньне монопольнае партыі фашызму італьянскага тыпу. У адзнаку ад італьянскага фашызму, польскі фашызм прышоў да ўлады напярэдадні III пэрыоду, калі ўся міжнародная абстаноўка значна абвострылася, асабліва барацьба капіталістычных дзяржаў супроць Савецкага Саюзу. Стварэньню сыстэмы італьянскага тыпу перашкаджаюць з другога боку канкрэтныя ўмовы Польшчы, якая мяжуе з Сав. Саюзам і якая прыгнятае акупаваныя краіны і нацменшасьці. Фашызму трэба абапірацца ў іх на разгалінаваную сетку замаскаваных фашысцкіх агентур [1]). Нарэшце, у карэннай Польшчы пры наяўнасьці старога рэволюцыйнага руху пролетарыяту і моцнае, масавае компартыі, фашызм ня можа не абапірацца на ППС і іншыя згодніцкія партыі, праводзячы праз іх опозыцыйную дэмогогію і нават антыфашысцкую фразэолёгію сваю політыку.

**Рэцыдыў дробна-буржуазнае „тэорыі“ тав. Кострэжвы.**

Але памылковыя погляды т. т. Кострэжвы і Стэфанскага зусім ня выпадковыя, яны ня выкліканы звычайнай дэзорыентацыяй (якая ахапіла часткова ніжнія зьвенчакі партыйнае організацыі) у момант, калі ППС праявіла сапраўдную манэўраздольнасьць і кінула зноў пыл у вочы мас.

Концэпцыя, што процістаўляе дробна-буржуазную ідэолёгію ППС ідэолёгіі фашызму, як і ўся опортуністычная ўстаноўка ў пытаньні аб ролі ППС і згодніцкіх партый вынікае з *не пераможаных поглядаў*

[1]) Такой замаскаванай агентурай зьяўляецца на Заходняй Украіне—Сельроб, правіца, група рэнэгатаў комунізму Васільківа і Тур'янскага і г. д. У Зах. Беларусі групы рэнэгатаў беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху, Янка Станкевіч, Астроўскі, Луцкевіч і г. д. Сярод яўрэйскіх рабочых—Бунд, Поалей-Цыон і інш.

т. Костржэвы і б. большасьці *на самастойную ролю дробнае буржуазіі*, якая да фашысцкага пераварoту нібы спрабавала рэалізаваць сваю „праграму дэмократычнага разьвіцьця“.

У гэтым месцы да рэчы ўспомніць, што гаварылася па пытаньні аб ролі дробнае буржуазіі і ў лістападаўскіх тэзісах, запрапанаваных ЦК групай тав. Костржэвы, у проекце, які ўспрыняў цалком асноўную думку Костржэвы і яе артыкулу ў „Бальшавіку“.

> „Пэрыод, які надышоў пасьля 1918 г., быў пэрыодам *спроб рэалізацыі праграмы мірнага выпраўленьня капіталізму* (падкрэсьлена—*Г. В.*).

Аб гэтым „мірным выпраўленьні капіталізму“ лепш за ўсё сьведчаць дзесяткі тысяч рабочых, зьбітых урадам катаў нямецкае рабочае клясы—Эбэрта—Носке; масавыя расстрэлы польскіх рабочых урадам Дашынскага—Морачэўскага, урадаў, акія нібы рэалізуюць праграму *дробнае буржуазіі*. Усе гэтыя нібы-соцыялістычныя ўрады былі фактычна ўрадамі замаскаванае буржуазнае дыктатуры, якія на справе ўмацавалі ўладу буйнае буржуазіі, што пахіснулася ў першы пэрыод пасьляваеннага крызісу капіталізму.

Але тав. Костржэве, наперакор абураючым фактам, трэба пацьвердзіць тэзіс аб процілегласьці дзьвюх праграм, буржуазіі і шэйдэмана-пэпээсаўскіх урадаў, якія нібы рэалізуюць *другую* праграму, менавіта праграму дробнае буржуазіі, якая па думцы тав. Костржэвы ў пасьляваенны пэрыод „трэці раз“ выступіла на авансцэну гісторыі ў якасьці *самастойнае політычнае сілы*. (У часе Вялікай Француcкай Рэволюцыі дробная буржуазія адыгрывала фактычна самастойную ролю; яна ў абліччы сваёй рэволюцыйнай партыі—якобінцаў адсекла галовы прадстаўнікам буйнае буржуазіі—жырондыстым).

Лічачы прыход да ўлады ў пасьляваенныя гады крызісу капіталізму нібы-соцыялістычных урадаў *аналёгічнымі з прыходам* да ўлады дробнае буржуазіі, як клясы, тав. Костржэва і б. большасьць натуральным чынам павінны былі зрабіць вывад, што пасьляваенны пэрыод быў пэрыодам:

> „спроб і банкруцтваў розных дробна-буржуазных рэформісцкіх утопій“ (рэформісцкая політыка соцыял-дэмократыі,—гэта па думцы аўтара тэзісаў, ня ёсьць рэальная політыка зрошчваньня арыстократычных верхавінак рабочае клясы з гаспадарчым і дзяржаўным апаратам буржуазіі, а ўтопія—*Г. В.*)„ і экспэрымэнтаў, да гэтага ліку належыць улада народу, поўная дэмократыя ў межах капіталізму“ (з лістападаўскіх тэзісаў б. большасьці).

Вось адкуль вынікае ў т. Костржэвы і цяпер *нясумяшчальнасьць* ідэолёгічная, політычная і арганізацыйная соцыял-дэмократыі з фашызмам, які зьяўляецца вышэйшай формай дыктатуры буйнае буржуазіі ў сучасным пэрыядзе крызісу монополістычнага капіталізму. Вось чаму тав. Стэфанскі лічыць, што фашызм „*менавіта* ў ППС павінен дабрацца да фундамантаў яе дробна-буржуазнае ідэолёгіі, *не пакідаючы ад яе каменя на камені*“.

Цяпер становіцца яшчэ больш зразумелым, чаму фашызм павінен ліквідаваць ППС і чаму „з таго часу калі перамог фашызм, *згоднікі апынуліся перад разьбітым карытам* сваіх лёзунгаў і агалошаных „дэмократычных“ ідэалаў, якія ілжыва паказвалі масам, як шлях да соцыялізму“ (падкрэсьлена—*Г. В.*).

Хай ня вельмі зьдзівіцца чытач, калі даведаецца, што толькі што цытаванае месца з леташняга артыкулу тав. Костржэвы зьяўляецца амаль літаральным паўтарэньнем нязьнішчаных ёю опортуністычных поглядаў. Вось што гаварылася ў лістападаўскіх тэзісах б. большасьці:

„Політычная рэпрэзэнтацыя дробнае буржуазіі (чытай „ППС і іншыя згоднікі“—*Г. В.*) *апынулася перад разьбітым карытам* і, ясная справа, *не магла рабіць рэволюцыі за* рэалізацыю лёзунгаў і імкненьняў, у ажыцьцяўленьне якіх сама перастала верыць“ (падкрэсьлена—*Г. В.*).

Тут гаворыцца *яшчэ больш:* выходзіць, што згоднікі ня толькі апынуліся перад „разьбітым карытам“, але не маглі „рабіць рэволюцыі“ таму, што перасталі „верыць у ажыцьцяўленьне сваіх лёзунгаў і імкненьняў“. А ці не захочуць яны, спытаецца чытач, пайсьці на рэволюцыю (супроць фашысцкае дыктатуры) калі „зноў“ „паверацъ“ у ажыцьцяўленьне сваіх „ідэалаў“, або ці ня штурхнуць іх масы ў бок рэволюцыі ў пэрыод абвостранае клясавае барацьбы, калі будынак фашысцкае дыктатуры пачне лопаць? Ці не апынуцца яны зноў ў якасьці прадстаўніцтва дробнае буржуазіі, якая, выходзячы з ўстаноўкі тав. Костржэвы „чацьверты“ раз, можа зьявіцца „на арэне гісторыі“ як самастойная політычная сіла?

І ці не таму выходзіць у т. Костржэвы, што фашызм павінен ліквідаваць ППС паколькі яна ня толькі ня сумяшчальна з фашызмам, але ў пэрспэктыве можа абрушыцца супроць яго? Вось куды расьце концэпцыя тав. Костржэвы, якая да гэтага часу ня толькі не правяла самакрытыкі сваіх старых поглядаў па пытаньні аб дробнай буржуазіі, але працягвае іх зноў, перашкаджаючы тым самым партыі барацьбу з манэўрамі фашызму і яго згодніцкіх партый, у першую чаргу ППС.

Тав. Костржэва трэба было-б пажадаць, каб яна сама хутчэй „апынулася перад разьбітым карытам“ сваіх уласных поглядаў і дробнабуржуазных ілюзій і памятаць аб тым, што IV зьезд нашае партыі рашуча адхіліў яе пункт погляду, паказаўшы на тое, што „падкрэсьліваньне самастойнасьці дробнае буржуазіі зьвязана з яе практычнай пераацэнкай, з *чаго могуць таксама атрымацца няправільныя тактычныя вывады*“ (падк.—*Г. В.*) і асабліва памятаць аб пастановах V Конгрэсу Комінтэрну, якія вызначылі ролю социял-дэмократыі як трэцяе партыі буржуазіі.

Апошнія апасеньні зьезду, на жаль, апраўдаліся цалкам. Партыя ў цэлым, на гледзячы на ранейшы фракцыйны падзел, павінна павесьці самую рашучую барацьбу супроць опортуністычных поглядаў па пытаньні аб дробнай буржуазіі, у прыватнасьці па пытаньні аб ППС, калі ня хоча пры магчымым новым павароце апынуцца зноў у хвасьце дробнае буржуазіі. Да таго часу, пакуль партыяй ў корані ня зьнішчаны погляды, якія ўжо ня раз уводзілі яе ў аблуду, яна не гарантавана перад магчымасьцю рэцыдыву, новага выданьня старых памылак.

Пакуль няма яшчэ ў нас непасрэднае рэволюцыйнае сітуацыі, пролетарыят яшчэ не перайшоў да шырокага разгорнутага наступленьня, але ён зьбірае ўжо сілы для такога наступленьня, месцамі пераходзіць ужо да наступленьня, за ім ідуць масы рэволюцыйнага сялянства і прыгнечаных меншасьцяй, зьяўляюцца першыя шчыліны ў сыстэме фашысцкае дыктатуры. У такіх умовах компартыя павінна бачыць усю пэрспэктыву; загадзя прадугледзіць манэўры буржуазіі, якая зноў можа спрабаваць скарыстаць згодніцкія партыі, галоўным чынам ППС, у якасьці громаадводу новае рэволюцыйнае буры.

Менавіта сёньня партыя павінна павялічыць у дзесяць раз сваю барацьбу з ППС, павесьці рэволюцыйны авангард да самае ўпартае атакі супроць социял-фашыстых (не паслабляючы барацьбу з адкрытым фашызмам (на заводах, у прафсаюзах, у вёсцы) у гэтай апошняй галоўным чынам супроць сялянскіх згодніцкіх партый „Вызваленьне“,

Сельроб, правіца і г. д.), бязьлітасна выкрываць іх „констытуцыйныя“ манэўры, дабіваючыся няўхільнага і сьмелага канчатковага прыдушэньня іх ўплыву. Партыя павінна весьці так барацьбу, каб рашаючыя пласты рэволюцыйнага пролетарыяту і сялянства пераканаліся ў тым, што соцыял-фашызм гэта іх закляты і сьмяртэльны вораг.

## Тав. Валецкі і „ненадзейныя“ правадыры ППС.

Асабліва шкоднымі ў такіх умовах зьяўляюцца погляды тав. Валецкага, які дакаціўся так далёка, што лічыць правадыроў ППС „*ненадзейнымі*“ для фашызму *ў выпадку вайны* супроць СССР.

У адным артыкуле (які быў абвергнуты Камітэтам КПП) тав. Валецкі такім чынам „вытлумачвае“ прычыны расколу ў ППС.

> „Калі ў мірны час фашызм і мог-бы задовольвацца паслугамі такога тыпу лёкаеў, якімі зьяўляюцца ў сваёй большасьці „правадыры“ ППС, калі ў *мірны* час, у пэрыод падрыхтоўкі вайны, яны „ідэёва“ (толькі „ідэёва“—а масавыя расстрэлы рабочых баявымі дружынамі ППС, а прыдушэньне забастовак?—*Г. В.*) ня дрэнна спрыяюць гэтай падрыхтоўцы... *то ў час ваенны, які тоіць ў сябе небясьпекі* і нечаканасьці, *на вернасьць гэтых опортуністых і політыканаў спадзявацца зусім не прадстаўляецца мэтазгодным. Гэта меркаваньне,* як адзін з *рашучых мотываў* падрыхтаванага расколу ў ППС, было ясна выказана яшчэ за некалькі тыдняў да расколу ў інтэрв'ю міністра Морачэўскага, якое ў свой час прагрымела“ (падк.—*Г. В.*).

Паўтараючы ў далейшым балбатню Морачэўскага, якую ён бярэ зусім сур'ёзна, „што менавіта ў трагічны момант бальшавіцкага „нашэствія“ на Польшчу ў радох ППС пачала праяўляцца здрада, якая маскавалася ў ідэолёгію марксызму“, Валецкі робіць вывад:

> „Пілсудзкі добра ведаў, што для прымушэньня гэтых людзей (пэпээсаўцаў—*Г. В.*) павялічыць сваю стараннасьць у дзесяць раз у цкаваньні Савецкага Саюзу досыць будзе выказаць няпоўнае да іх у гэтых адносінах давер'е. *Але ўсё-ж калі справа становіцца сур'ёзнай* (у выпадку вайны—*Г. В.*), *ён лічыць за лепшае мець на адказных пастох сваіх людзей*“. (падк.—*Г. В.*).

Зьдзіўлены чытач вачом ня верыць. *Правадыры* ППС—ня зусім надзейныя людзі? Тыя самыя правадыры ППС, якія організавалі разам з польскай буржуазіяй супроцьсавецкую вайну 1919-20 г.; тыя самыя правадыры ППС, якія ўваходзілі ва ўрад вайны супроць Саветаў, тыя самыя правадыры ППС, якія забівалі і мучылі ў засьценках польскае ахранкі і турмаў сотні польскіх рабочых, што абаранялі Савецкую краіну; тыя самыя правадыры ППС, якія ў далейшым забіваюць рэволюцыйных рабочых і актыўна ўдзельнічаюць у падрыхтоўцы новага крыжовага паходу капіталу супроць Савецкага Саюзу, які будуе соцыялізм, правадыры ППС, самыя шалёныя і заядлыя ворагі пролетарскае дыктатуры і савецкае ўлады,—яны раптам аказваюцца ненадзейнымі для буржуазіі ў выпадку гэтае вайны. Прыйсьці сёньня да рабочых мас і паўтараць гэтыя нячуваныя і недарэчныя цьверджаньні і азначала-б уводзіць масы ў шкодную аблуду.

Цэнтральная задача компартыі ня толькі ў Польшчы, але і ў рэшце капіталістычных краін у барацьбе супроць падрыхтоўкі вайны заключаецца ў даны момант менавіта ў тым, каб выкрыць актыўную ролю соцыял-фашыстых і ўсяго II Інтэрнацыяналу, якія падрыхтоўваюць, арганізуюць разам з імпэрыялізмам новую вайну супроць Савецкага Саюзу. Але хто як т. Валецкі прыходзіць у партыю і кажа масам:

соцыял-дэмократы ненадзейныя або ня зусім надзейныя для буржуазіі, гэта, бач, „опортуністыя“ (у адносінах да буржуазіі) і „політыканы“, на якіх у часе вайны, у час „небясьпечны“ абапёрціся нельга,—той на справе разбройвае партыю і рабочую клясу ў барацьбе супроць соцыял-дэмократыі, а тым самым у барацьбе супроць фашызму і супроць вайны.

Памылковыя погляды т. Костржэвы, Валецкага і Стэфанскага, нямінуча вядуць да недаацэнкі контр-рэволюцыйнай ролі і небясьпекі, соцыял-фашызму (як галоўнае небясьпекі ў сучасны момант), *прадстаўляюць* ідэолёгічнае аформленьне правых памылак на мясцох і найбольш *яскравае праяўленьне правае небясьпекі ў КПП*, абарона якіх можа прывесьці да аформленьня правае опортуністычнае пляцформы і правае фракцыі ў нашай партыі.

**Важнейшыя правыя памылкі ў сялянскім і нацыянальным пытаньні.**

Сур‘ёзныя правыя памылкі былі таксама дапушчаны і праяўляюцца ў сялянскім і ў нацыянальным пытаньні. ЦК партыі спазьніўся са зьменаю тактыкі ў адносінах да земляробчых (камэрцыйных, крэдытных і інш.) організацый. ЦК партыі выдаў адозву, якая заклікае бядняцкія масы да заваяваньня гэтых організацый. Гэта спазьненьне было вынікам недаацэнкі тэмпу процэсу зрошчаньня гэтых організацый з апаратам фашысцкае дыктатуры.

Другой памылкай ў рабоце партыі на вёсцы, выпраўленай студзеньскім пленумам ЦК, было выстаўленьне патрабаваньня бяспроцантных крэдытаў для бядняцкіх і серадняцкіх сялян. Патрабаваньне бяспроцантных крэдытаў, хаця ў сваёй форме выяўляе імкненьне да абароны інтарэсаў беднаты і сераднякоў, у канкрэтных цяперашніх умовах польскае вёскі на справе об‘ектыўна выказвае ілюзіі адносна паляпшэньня становішча пры дапамозе дзяржаўных крэдытаў; узмацняе ілюзіі да памешчыцка-кулацкае фашысцкае політыкі, замест таго, каб выкрыць апошнюю.

Памылка гэтая тым больш небясьпечная, паколькі крэдытная політыка ўраду зьяўляецца адным з важнейшых зьвенчакоў фашысцкае сыстэмы на вёсцы. Патрабаваньне крэдытаў ў даны пэрыод, гэта адзін з важнейшых лёзунгаў, якім апэруюць згоднікі на вёсцы, імкнучыся, з аднаго боку, да таго, каб адцягнуць увагу шырокіх сялянскіх мас ад рэволюцыйнае барацьбы за зямлю, а з другога боку—абараняючы інтатарэсы заможных пластоў вёскі, якіх заахвочвае крэдытная політыка ўраду. Опортуністычнай памылкай было таксама выстаўленьне лёзунгу частковае конфіскацыі памешчыцкае зямлі і конфіскацыі збожжа, які сее ілюзіі аб тым, што без зьвяржэньня панаваньня капіталістых і памешчыкаў магчыма хаця-б частковая конфіскацыя і падзел памешчыцкае зямлі.

Першыя памылкі ў вясковай рабоце праявіліся таксама ў няправільным разуменьні задач сялянскіх камітэтаў—у прысваеньні ім функцый органаў мірнае, творчае работы. Ва ўсіх гэтых памылках праявіўся націск заможных пластоў вёскі на некаторыя зьвенчакі нашае партыі.

Трэба адзначыць небясьпечную, нацыянал-опортуністычную памылку, зробленую беларускім таварышам Сталевічам, прыхільнікам б. меншасьці, які ў сваім артыкуле, зьмешчаным ў „Полымі“, няправільна высьветліў процэсы, што адбываюцца ў заходня-беларускай вёсцы. Тав. Сталевіч не падыйшоў з аналізам клясавае дыфэрэнцыяцыі, ня бачыць тых глыбокіх зьмен, якія адбыліся ў Зах. Беларусі, у зьвязку з распластаваньнем беларускага сялянства і рашучым соцыялістычным

наступленьнем на капіталістычныя элемэнты ў савецкай вёсцы, што прыводзіць беларускае кулацтва, гарадзкую буржуазію і верхавіны інтэлігэнцыі да згуртаваньня вакол дыктатуры польскага фашызму. Выходзячы з сваёй, у корані няправільнае ацэнкі, тав. Сталевіч лічыць, што польскі фашызм, які падрыхтоўвае вайну супроць СССР, ня мае для мэт вайны ў беларускай вёсцы свае базы. Адсюль атрымліваецца, з другога боку, што ўся беларуская вёска можа быць уцягнута ў барацьбу супроць окупацыі польскага імпэрыялізму і яго ваеннае антысавецкае політыкі. ЦК КПЗБ рашуча і неадкладна зрабіў крытыку праяўленьня нацыянал-опортунізму ў артыкуле т. Сталевіча. Сам тав. Сталевіч у самакрытыцы адхіліў устаноўку свайго першага артыкулу, даў другую, наогул правільную ацэнку, ня бачачы аднак каранёў сваіх памылак і таго, што яны асабліва небясьпечны ў даны момант інтэнсыўнага націску кулацкіх элемэнтаў у беларускай вёсцы і ўзмацненьня падрыхтоўкі вайны супроць СССР.

Неадкладны адпор, які даў ЦК КПЗБ і далейшае выкрыцьцё нацыянал-опортунізму, дзе-б ён не праяўляўся, дае гарантыю, што ў КПП немагчыма паўтарэньне васількіўшчыны.

Нацыянал-опортунізм быў галоўнаю крыніцаю політыкі рэнегацкае групы Васільківа—Бур'янскага (б. прыхільнікаў польскае большасьці) у КП Зах. Украіны, які давёў яе, пры абароне і дамаганьні на сваіх памылках, да поўнага шовіністычнага выраджэньня і простага здрадніцтва украінскага комуністычнага руху і Комінтэрну, на паслугу польскага фашызму і імпэрыялізму.

Наша партыя і КПЗБ, памятаючы аб уроках расколу ў КПЗУ, памятаючы і тое, што „ЦК КПП не зьвярнуў увагі на нарастаньне ў кіраўніцтве КПЗУ асабліва небясьпечнага опортунізму і не сваячасова распачаў барацьбу супроць яго“ (з пастаноў IV зьезду), будзе зараз-жа рэагаваць на праяўленьне нацыянал-опортуністычных памылак.

КПП павінна таксама даць асабліва рашучы адпор усялякім праяўленьням *польскага* нацыянал-бальшавізму выключна небясьпечнага сярод польскіх комуністых, якія належаць да пануючай нацыянальнасьці.

## Некалькі слоў аб прафсаюзнай памылцы.

Адным з важнейшых пытаньняў, што стаяць перад КПП, зьяўляецца пытаньне прафсаюзнае тактыкі. Увесь ЦК дапусьціў тут сур'ёзную памылку, узяўшы ў пачатку году *курс* на стварэньне новых, самастойных прафсаюзаў, сярод рабочых галоўных галін вытворчасьці (за выключэньнем чыгуначнікаў). Лютаўская прафсаюзная нарада нашае партыі прыступіла да конкрэтнае распрацоўкі пляну стварэньня новых саюзаў. Тут партыі прыдзецца перагледзець пастановы і выправіць іх у духу дырэктывы ВККІ, бо генэральны курс на стварэньне новых прафсаюзаў адзначае сёньня на практыцы ўцяканьне ад цяжкасьцяй, зьвязаных з правядзеньнем нашае самастойнае лініі ў згодніцкіх прафсаюзах, а ў цяперашніх конкрэтных умовах фашысцкае Польшчы да стварэньня сапраўды масавых новых саюзаў прывесьці ня можа. Курс на новыя прафсаюзы азначае нямінучы ўход рэволюцыйных сіл са згодніцкіх прафсаюзаў, што асабліва небясьпечна цяпер, калі фашысцкая дыктатура пры дапамозе ППС спрабуе разграміць ўсе апорныя легальныя масавыя пункты рэволюцыйнага руху.

Але гэта зусім не азначае, што комуністыя наогул супроць пабудаваньня самастойных рэволюцыйных саюзаў. У пэўных спрыяючых ўмовах (як гэта мела месца ў часе апошняе забастоўкі ў Лодзі, чаго партыя тады аднак не скарыстала)—партыя павінна пайсьці на ства-

рэньне новага профсаюзу ў тэй або іншай галіне або ў некалькіх адразу, у залежнасьці ад агульнага становішча, у першую чаргу ў залежнасьці ад ступені ўздыму масавае рэволюцыйнае барацьбы, калі на шырокай забастовачнай хвалі магчыма будзе ахапіць патрэбную колькасьць рабочых, для таго, каб новы профсаюз мог быць сапраўды масавым. У даны момант цэнтрам цяжару нашае профработы павінна быць ўмацаваньне рэволюцыйнага крыла ў згодніцкіх профсаюзах і правядзеньне там тактыкі клясавага адзінства мас у барацьбе супроць фашызму і соцыял-фашызму. Галоўнае лязо нашае барацьбы ў профсаюзах, як і ўсюды павінна быць накіравана супроць соцыял-фашыстых.

## За кіраўніцтва масамі.

Але самая важная, самая неадкладная, рашучая задача нашае партыі—гэта ўзмацненьне работы на буйных прадпрыемствах і чыгуначных вузлах, пашырэньне і ўмацаваньне ў іх комуністычных ячэек. З гэтых цытадэляй нас ніякая сіла ня можа выкінуць, калі мы ні на хвіліну не паслабім неабходнае ў іх упартае і самаадданае работы. Тут павінна весьціся галоўная работа ў барацьбе супроць вайны, што надыходзіць, адсюль павінна выходзіць асноўная падрыхтоўка новых забастовачных экономічных і палітычных боек польскае рабочае клясы. Максымальна разгортваючы і ўмацоўваючы сетку фабрычна-заводзкіх ячэек, партыя павінна весьці бязупынную і ўзмоцненую наступальную барацьбу супроць соцыял-фашыстых і фашыстых, за вырываньне з іх рук фабрычных дэлегацый і фабзаўкомаў, перабудоўваючы апошнія ў сапраўды масавыя і рэволюцыйныя організацыі ўсіх заводзкіх рабочых, за стварэньне шырокага інстытуту фабрычна-заводзкіх рэволюцыйных упоўнаважаных. У выпадку забастоўкі неадкладна організаваць пры ўдзеле ўсіх рабочых забастовачныя камітэты і камітэты барацьбы і дабіцца моцнага кіраўніцтва імі на ўвесь час барацьбы.

Адначасова партыя павінна прыступіць да стварэньня шырокае сеткі батрацкіх ячэек у маёнтках і фольварках, вясковых ячэек нагул, а таксама моцных комфракцый у масавых рэволюцыйных сялянскіх організацыях, памятаючы аб тым, што бяз цьвёрдае організацыйнае базы на вёсцы, партыя ня здолее зусім забясьпечыць правядзеньне свае самастойнае палітыкі.

У цяперашні пэрыод крызісу фашызму, які насьпявае, перад партыяй стаіць неадкладная задача організацыі шырокага руху рабочае клясы, бядняцкага сялянства і працоўных мас прыгнечаных нацыянальнасьцяй; компартыя павінна значна ўзмацніць барацьбу супроць падрыхтоўкі вайны супроць СССР, на абарону Савецкага Саюзу, мабілізуючы для гэтае барацьбы самыя шырокія пласты працоўных; партыя павінна прыкласьці ўсе намаганьні да таго, каб накіраваць разрозьненыя экономічныя забастоўкі ў рэчышча масавых коордынаваных выступленьняў, надаць ім адкрыта антыфашысцкі характар, ператварыць стыхійны рух сярод мас ў дэмонстрацыі і палітычныя забастоўкі, падымаць іх на вышэйшую ступень барацьбы супроць фашысцкае дыктатуры.

Перайсьці шчыльна да гэтае задачы трэба ў завостранай барацьбе супроць ППС і іншых згодніцкіх партый у горадзе і на вёсцы і ў барацьбе супроць усіх праяўленьняў опортунізму і прымірэнцтва ва ўласных шэрагах, за рашучую бальшавіцкую самакрытыку, ня гледзячы на б. фракцыйны падзел, супроць усякіх фракцыйных затушоўваньняў і супроць абароны опортуністычных памылак, адкуль-бы, яны ня выходзілі, у барацьбе за бальшавіцкае адзінства компартыі.

10 ліпеня 1929 г.

М. Зярніцкі.

# Як ідзе праверка і чыстка радоў КП(б)Б.

Да сучаснага моманту (артыкул пісаны ў першых лічбах жніўня месяца) у парадку выкананьня дырэктыў XVI партконфэрэнцыі ў нас праведзена праверка кіруючых кадраў, праверка складу праверкомаў, і ў хуткім часе заканчваецца чыстка вайсковых і вясковых ячэек.

Задача гэтага артыкулу—на падставе даных ЦКК—падвесьці некаторыя ітогі першаму этапу чысткі, каб найбольш поўна скарыстаць вопыт, які мы набылі ў часе праверкі вясковых і вайсковых ячэек, ува ўсёй далейшай працы па праверцы і чыстцы радоў КП(б)Б.

## Праверка кіруючых кадраў КП(б)Б.

Праверка кіруючых кадраў КП(б)Б праводзілася камісіяй ЦКК УсеКП(б) на працягу чэрвеня месяца.

Праверка праходзіла пры выключнай зацікаўленасьці і актыўнасьці партыйных і беспартыйных мас. Гэта актыўнасьць адбывалася ў шэрагу выступленьняў беспартыйных рабочых і камуністаў, у вялікай колькасьці заяў і запытаньняў, якія атрымала камісія ЦКК УсеКП(б), што значна дапамагло камісіі ў сэнсе правільнай ацэнкі таго ці іншага таварыша.

Але ў час чысткі камісія сустракалася таксама з шмат якімі хваравітымі зьявішчамі. У некаторых партыйных арганізацыях недастаткова растлумачваліся задачы і мэты чысткі, галоўным чынам сярод беспартыйных рабочых. Пагэтаму, на цэлым шэрагу сходаў прысутнічала нязначная частка беспартыйных рабочых і ня ўсе камуністы. У Гомелі быў выпадак, калі да сканьчэньня сход пакідалі сэкратары партыйных ячэек. Здаралася і так, што партыйныя ячэйкі запрашалі на сходы толькі частку беспартыйных рабочых, лічачы, што ня ўсе беспартыйныя могуць прысутнічаць на сходах па чыстцы партыі.

На некаторых праверачных сходах з боку выступаўшых былі адзначаны спробы вазводзіць неабгрунтаваныя абвінавачваньні на праверагмага на грунце асабовых разрахункаў, корпаньні ў дробязах і г. д. Гэтыя спробы сустракалі рэзкае асуджэньне на сходах і сваячасова адхіляліся Камісіяй ЦКК УсеКП(б).

З характэрных момантаў праверкі трэба адзначыць, што Камісія спатыкалася з такімі таварышамі, якія давалі няправільныя весткі аб сваім рэволюцыйным мінулым. Асобныя таварышы, якія раней былі ў Бундзе, хацелі свой бундаўскі стаж прадставіць як стаж прабываньня ў бальшавіцкай партыі.

Пры праверцы наогул высьвятлілася, што парторганізацыі не ўдзяляюць дастатковай увагі на праверку парт. стажу членаў свае арганізацыі.

Вельмі сур'ёзным момантам, выяўленым праверкай, зьяўляецца факт слабага палітычнага разьвіцьця асобных кіруючых работнікаў. Напры-

клад, член ЦК, кіраўнік буйнай гаспадарчай організацыі, ня змог адказаць на пытаньне, чаму наша партыя называецца камуністычнай. Другі адказны работнік сьцьвярджаў, што ў Беларусі няма соцыяльнай базы для „левага“ ўхілу.

Далей праверка кіруючых кадраў паказала таксама ненармальнасьці ва ўсёй сыстэме вылучэньня ў кіруючыя партыйныя органы. Партыйныя камітэты і ячэйкі часта высоўваюць таварышоў на кіруючую работу, не цікавячыся, не ведаючы партыйнага мінулага гэтых таварышоў. Вылучэнцам не дапамагаюць часта ў рабоце і пагэтаму ня дзіўна, што камісія сустрэлася з таварышом, членам бюро Акругкому, які нават ня ведаў, калі адбываюцца паседжаньні бюро Акругкому. У Жлобіне Камісія сустрэлася з членам ЦК, працуючым на чыгунцы, аб якім мясцовыя рабочыя ня ведалі нават, што ён састаіць у кіруючым штабе КП(б)Б.

Асноўныя вынікі праверкі кіруючых кадраў КП(б)Б наступныя:

Усяго падпала праверцы 336 чалавек. Праверка была праведзена на 56 адкрытых партсходах (з выездамі па мейсцу работы т. т.). На сходах па сумарных падліках удзельнічала звыш 40.000 чал. (з якіх 30—35 % беспартыйных рабочых).

Акрамя членаў ЦК і ЦКК КП(б)Б, Камісіяй ЦКК УсеКП(б) былі праверавы таксама члены Бюро АК і Прэзыдыумаў АКК і члены вайсковых Парткамісій.

Вынікі праверкі наступныя. З партыі ніхто з праверавых таварышоў ня выключан. Узысканьням-жа падпала 18 т. т. ці 5% праверавых.

Гэтыя дадзеныя сьведчаць аб здавальняючым становішчы кіруючых кадраў Камуністычнай партыі (б) Беларусі, што забясьпечваюць правільнае правядзеньне генэральнай лініі партыі.

### Праверка складаў праверкомаў.

Зараз-жа па сканчэньню праверкі кіруючых кадраў пачата была праверка т. т., вылучаных у Праверкомы.

Аб тым, з якой уважлівасьцю партыйцы і беспартыйныя аднесьліся да застаўленьня вылучаных кандыдатур у праверкамісіі—яскрава сьведчаць наступныя даныя. У Гомелі на 157 вылучаных у праверкомы таварышоў паступіла 22 адводы, з якіх 18 аказаліся правільнымі і гэтыя кандыдатуры былі адведзены. У Віцебску з першапачаткова намечаных 77 т. т. ня былі зацьверджаны 18; у Воршы было праверана і зацьверджана 19 т. т., адведзена 6; у Бабруйску з першапачаткова намечаных 52 у процэсе абгаварэньня былі адведзены з складу праверкомаў 11 т. т.

Масавая праверка кандыдатаў у праверкомы праводзілася правертройкамі АКК на адкрытых куставых сходах ячэек з шырокім прыцягненьнем у горадзе—рабочых, а ў вёсцы—батракоў, беднякоў і сераднякоў. Так, напрыклад, у Магілеве праверка была праведзена на 9-ці куставых адкрытых партсходах (на чыгунцы, у казармах, у лягерах, вёсках, дзе прысутнічала 759 партыйцаў і 2891 беспартыйных). У Бабруйску на 9-ці сходах, з іх 2 у лягерах і крэпасьці, 1—куставы ў горадзе, рэшта ў раёнах. Такім-жа чынам праводзілася праверка ў іншых акругах.

Сходы па праверцы праводзілі пры шырокім удзеле беспартыйных мас, праяўляўшых вялікую зацікаўленасьць да праверкі, акрамя таго, ход праверкі шырока асьвятляўся ў друку. Аднак, у некаторых мейсцах, у сувязі з тым, што гэта праверка праходзіла ўсьлед за праверкай кіруючых кадраў КП(б)Б, асобныя сходы праходзілі пры паніжанай наведваемасьці з боку партыйцаў і беспартыйных.

Склад праверкомаў характарызуецца наступнымі лічбамі:

З агульнага ліку 493 сяброў праверкомаў маецца рабочых 411 ці 83%, пры чым рабочых ад варштату 109 ці 22%. Пераважная частка сяброў праверкомаў—399 маюць 10-ці гадовы стаж—да 1919 г. уключна; 39 т. т. маюць дарэволюцыйны стаж і толькі 17 т. т. (рабочых ад варштату) са стажам з 21—24 г. г. Аб аўтарытэтнасьці кандыдатур, зацьверджаных у Праверкомы, гаворыць таксама тое, што большая частка іх зьяўляецца сябрамі выбарчых парторганаў: сяброў КК—103 ч., Парткамітэтаў—95.

Жанчын у складзе праверкомаў 31 чал.

### Як праведзена падрыхтоўчая праца да чысткі партыі.

У сувязі з значнай працай, праробленай у адносінах растлумачэньня задач праверкі і чысткі партыі за апошнія паўгода, асабліва пасьля XVI партконфэрэнцыі і ў часе праверкі кіруючых кадраў—можна лічыць, што асноўныя задачы партыі ў гэтым напрамку як сярод партыйцаў, гэтак і беспартыйных мас—у агульным усвоены.

Аднак, у радзе мейсц, дзе праведзена нязначная растлумачальная праца, праверкомам прышлось сустрэцца з незразуменьнем задач чысткі партыі. На падставе вопыту праверaных ячэек прыходзіцца канстатаваць зусім слабую працу з боку парткамітэтаў і ячэек па падрыхтоўцы чысткі.

Некаторыя Акругкомы ў часе падрыхтоўчай працы абмежаваліся тым, што заслухалі 1—2 разы на сваіх пленумах даклады і прынялі па іх рэзалюцыі. Канкрэтнай, практычнай дапамогі Кантрольным Камісіям у падрыхтоўцы да чысткі партыі АК не аказалі.

Шмат раённых Камітэтаў КП(б)Б і парт'ячэек таксама слаба рыхтаваліся да чысткі. Так, напрыклад, у Гомельскай акрузе з 11-ці райпарторганізацый толькі ў 2-х была добра праведзена падрыхтоўчая праца да чысткі. У Віцебскай арганізацыі ўстаноўлены зусім недапушчальныя адносіны да чысткі з боку сэкратароў Ліозьнянскага Райкому і Вунаўскай вясковай ячэйкі, якія не ацанілі і не прынялі неабходных мер па падрыхтоўцы і організацыі чысткі ў сэнсе аказаньня дапамогі праверкомам, што прывяло да зрыву праверачных сходаў у Вунаўскай ячэйцы. У Магілеўскай організацыі ўстаноўлена, што Чачэвіцкім Райкомам ня былі прыняты меры па растлумачэньню задач чысткі партыі сярод батрацтва, беднякоў і серадyякоў і што з боку Райкома ня было неабходнага кіраўніцтва і практычнае дапамогі ячэйкам у падрыхтоўцы да праверкі і чысткі шэрагаў партыі. У Аршанскай організацыі быў факт зрыву аднаго сходу (Загвоздзянская ячэйка) з-за няяўкі прадстаўніка Райкому. Гэтакія-ж факты ўстаноўлены таксама Бабруйскай АКК (па Бабруйскаму раёну ячэйкі Туркі, Кавалі) і Мазырскай АКК (па Петрыкаўскаму і Каралінскаму раёнах).

Ва ўсіх гэтых выпадках самім праверкомам прыходзілася прымаць шэраг мер да організацыі чысткі ў ячэйках і шырокаму азнаямленьню з задачамі чысткі партыі батракоў, беднякоў і актыву серадняков.

У асобных вясковых парторганізацыях меліся настроі, што, моў, „прыедуць праверкамісіі і яны ўсё зробяць". Пагэтаму да прыезда камісіі у райорганізацыях ніякай работы не аказывалася: ня былі падрыхтаваны каляндарныя пляны чысткі ячэек, не праводзілася і другой падрыхтоўчай работы да чысткі і нават даклады Райкомаў аб становішчы організацый амаль ня былі падрыхтаваны (Ушачы, Улла, Рассоны).

У выніку гэтакіх адносін да чысткі аказалася, што ў значнай колькасьці выпадкаў складзеныя Райкомамі характарыстыкі ячэек не адка

звалі сапраўднаму становішчу правяраемых організацый і яны не змаглі быць скарыстаны праверкомамі, як матар'ял.

Напрыклад, Заслаўскі Райком, Менскай акругі, даючы характарыстыку Старасельскай ячэйцы, куды пралезьлі кулакі і заможныя (у ролі камуністаў) і зрывалі ячэйковую работу—аб гэтым у характарыстыцы не ўпамянуў ніводным словам. „Новадворская ячэйка добра праводзіць работу сярод беднаты“, так гаварыла характарыстыка Райкому, а ў сапраўднасьці ячэйка за ўвесь час нічога не зрабіла па гаспадарча-політычнай організацыі беднаты. У Траскоўскай ячэйцы п'янства ўвайшло ў сыстэму—характарыстыка абыйшла маўчаньнем гэты „вопіюшчы“ факт.

У шэрагу ячэек райпарторганізацый, дзе падрыхтоўчая работа не праводзілася, аказаліся таксама не прапрацованымі інструкцыя ЦКК УсеКП(б) па чыстцы і рашэньні XVI партконфэрэнцыі.

## Удзел мас у чыстцы партыі.

Чыстка партыі праходзіць пры шырокім удзеле і зацікаўленасьці як партыйных, так і беспартыйных мас. Гэта знаходзіць свой адбітак у актыўным наведваньні сходаў і ў шматлікавых выступленьнях па поваду правераемых і паведамленьню аб іх праверкомам розных матар'ялаў.

Вось, як характарызуецца актыўнасьць беспартыйных па матар'ялах асобных АКК.

Гомельская акруга—Рэчыцкі раён:—„У чыстцы бяруць актыўны ўдзел бednякі і батракі, вялікая колькасьць на сходах сераднякоў, колькасьць сабраўшыхся на праверачныя сходы не зьмяшчалася ў памяшканьні і сходы пагэтаму праводзіліся на сьвежым паветры. Прысутныя праяўляюць асаблівую зацікаўленасьць да чысткі, выступаюць з характарыстыкамі некаторых членаў партыі па 10—15 чалавек, задаюць па 20—30 пытаньняў (як праводзіцца клясавая лінія ў вёсцы, чаму мала батракоў, беднякоў у калгасе, як сярод іх разьмяркоўваецца хлеб, чаму батракоў мала прымаюць у прафсаюз, а серадняқоў больш). Асабліва доўга трымаюць перад праверкамісіяй камуністаў, якія займаюць пасады старшынь сельсавету, спажыв. таварыства, старшыню калгаса, сэкратара ячэйкі, настаўніка—камуніста і г. д. Некаторых з іх трымаюць па 1—2 гадзіны. Ня ідуць са сходу да таго часу, пакуль не канчаецца праверка ўсіх членаў ячэйкі. Сход канчаецца у 2—3 гадзіны ночы“.

Церахаўскі раён: „Зацікаўленасьць і ўвага да чысткі з боку насельніцтва вялікія. Усе сходы, ня гледзячы на тое, што падбіраліся самыя вялікія ў умовах вёскі памяшканьні, не змаглі зьмесьціць усіх жадаючых прысутнічаць. У Пракопцах на сходзе прысутнічала больш 100 ч., у Падабранцы—400 чал., у Леніне—150 чал., у Кузьмінічах—100 чал. Ня было ніводнага сходу, куды не зьявіліся-б сяляне, галоўным чынам, бедната. З некаторых далёкіх вёсак зьяўляліся дэлегацыі беднаты для характарыстыкі прыкладных камуністаў і адводаў дрэнным камуністам. Так, напрыклад, калі правяралі Ленінскую ячэйку з вёскі Завідаўкі, зьявілася 25 чалавек беднаты, якія далі добрыя водзывы аб адным правераўшымся камунісьце. Пры чыстцы Кузьмініцкай ячэйкі зьявілася з вёскі Плутоўка дэлегацыя для адводу аднаму камуніста, пасьля выключанаму з партыі. Ня гледзячы на тое, што кожны сход працягваўся да 2—3 гадзін ночы, ніхто не пакідаў сходу, і зацікаўленасьць не паслаблялася“.

Па матар'ялах 45 парт'ячэек Мазырскай акругі відаць, што па кожнай правяраемай кандыдатуры задаюцца 10—25 пытаньняў і

выказваецца ад 2 ад 15 чалавек. У сярэднім на кожным партсходзе прысутнічае 150 чалавек. Крытыка накіравана, галоўным чынам, супроць камуністаў, якія іскажаюць клясавую лінію і разлагаючыхся, а таксама на сходах даюць належачы адпор падкулачнікам і варожым элемэнтам, спрабуючых скарыстаць чыстку ў сваіх інтарэсах.

**Ня ўсюды забясьпечылі актыўны ўдзел батрацтва і беднаты—вось адзін з буйных недахопаў чысткі.**

Побач з фактамі актыўнага ўдзелу беднаты і батракоў у чыстцы наглядаўся шэраг выпадкаў слабай іх падрыхтоўкі да чысткі. Многія Райкомы нічога не зрабілі дзеля таго, каб удзел батрацтва і беднаты ў чыстцы быў пераважаючым, найбольш арганізаваным.

У радзе такіх месц, дзе бедната і батрацтва аказаліся непадрыхтаванымі да чысткі, яны не маглі даць адпор кулацтву.

Напрыклад, праверачная камісія па Грэскаму раёну Менскай акругі ўстанавіла, што Першамайская сельячэйка не організавала ў дастатковай меры беднату, не падрыхтавала яе для дачы адпору кулацкаму элемэнту, у выніку чаго чыстка прайшла пры недастатковым удзеле беднаты, а таксама на сходах мелі мейсца вылазкі груп заможнай частцы сумесна з падкулачнікамі і пры няўдалай спробе сарваць сход, калі апошнія дэмонстратыўна пакінулі яго, бедната ў большасьці сваёй заставалася толькі сьведкай, не праявіўшы сябе організаванаю адзінкаю.

Такія-ж факты мелі месца па другіх ячэйкам Грэскага і раду другіх раёнаў Менскай, Аршанскай, Мазырскай і інш. акруг.

Мяркуючы па матар'ялах праверачных камісій *у вайсковых частках* (Менскай акругі), першыя сходы па чыстцы праходзілі таксама пры актыўным удзеле беспартыйных чырвонаармейцаў і камандзіраў. Асобныя праверачныя сходы працягваліся на 5—6 гадзін. Па асобных кандыдатурах выступала па 15—20 чал. Радавыя партыйцы і беспартыйная чырвонаармейская маса аказвалі вялікую дапамогу ў працы праверкамісіям.

Бабруйская АКК указвае, што чыстка ў вайсковых частках праходзіць пры вялікай актыўнасьці беспартыйных і партыйцаў. На першым сходзе ў 23-м палку прысутнічаў амаль увесь полк. Тут па кандыдатурах камандзіра палка і палітрука выказалася 36 чалавек, з іх 22 беспартыйных.

Аднак, у наступныя дні чысткі ўдзел партыйнай і беспартыйнай масы на праверачных сходах прыкметна панізіўся (Полацак).

Таму праверкомам прыходзілася праводзіць дадатковую работу па організацыі батрацтва і беднаты вакол чысткі.

*У дырэктывах ЦКК* усім АК, АКК і праверкомам *задача організацыі актыўнага ўдзелу беднаты і батрацтва ў чыстцы партыі пастаўлена як галоўная задача,* бо там, дзе мы не даб'емся сапраўднага, самага актыўнага ўдзелу батракоў і беднаты ў чыстцы, дзе ня будзе вялікага прыцёку іх у партыю—там чыстка ня выканала ўсіх пастаўленых задач, там зроблена палова, ці яшчэ менш з таго, што трэба было зрабіць па згуртаваньні вакол партыі ўсёй беднаты і батрацтва—нашай апоры, на якой грунтуецца наш саюз з серадняком.

**Аб выступленьнях кулацкіх і клясава-варожых элемэнтаў.**

Побач з ростам актыўнасьці батрацтва і беднаты ў часе чысткі праяўлена надзвычайная актыўнасьць з боку кулацтва і клясава-варожых элемэнтаў. Няма амаль ніводнага праверачнага сходу, дзе яны ня пыталіся-бы пралезьці для скарыстаньня чысткі ў сваіх мэтах.

Вось шэраг фактаў з гэтай галіны.

У Менскай акрузе (Халопеніцкі раён) на сходах па чыстцы пыталіся прабрацца лішэнцы, але працоўныя аб гэтым хутка паставілі ў сьвядомасьць Праверкома. Вядомы п'яніца, зьняты за п'янства і злачынствы з пасады старшыні с. савету, Баркоўскі, сумесна з усёй сваёй сям'ёй зьявіліся на сход, каб скомпрамэнтаваць партыю. Да яго далучылася група асуджаных за кражу ў каапэратыве. Гэтыя „дзеячы" прышлі разьлічыцца з работнікамі.

У вёсцы Драчкова, Сьмілавіцкага раёну, пры праверцы партыйцанастаўніка т. Лукашэвіча, актыўнага грамадчыка, які вядзе строгую клясавую лінію ў вёсцы—кулакі асабліва тачылі зубы, таму што ён правёў вялікую работу па выяўленьню скрытых аб'ектаў абкладаньня. У праверком кулач'ё накіравала цэлую кучу заяў з адводамі. Абвінавайцам т. Лукашэвіча аказаўся кулак, які плаціць 110 р. с.-г. падатку і т. п. элемэнты. Провокацыйныя спробы кулацтва былі выкрыты беднатой, батрацтвам і серадняцкім актывам.

У Пухавіцкім раёне кулакі выступалі організавана, мелі нават свайго адваката—цёмную антысавецкую асобу, які пад дыктоўку кулакоў пісаў дзесяткі паклёпаў на асобных членаў партыі, асабліва на старшыню Новасёлкаўскага сельсавету—батранку, што праводзіла жорсткую клясавую лінію. Бедната адзіным фронтам выступіла супроць дамаганьняў кулакоў.

У Мазырскай акрузе таксама былі выпадкі організаванага выступленьня кулакоў праз сваіх людзей супроць вытрыманых камуністаў. На сходзе ў Беляцкай ячэйцы было пададзена 10 пісьмовых заяў на камуніста-лясьніка з абвінавачаньнем яго ў п'янстве, выступіла 6 чалавек, з якіх некаторыя гаварылі, што яны сумесна з імі пілі гарэлку і патрабавалі выключэньня яго з партыі. Пры праверцы фактаў—усё аказалася хлусьнёй. У Петрыкаўскім раёне былі выпадкі, калі поп зьбіраў сваіх людзей і абгаварваў з апошнімі—каго трэба выключыць з партыі, дагаварваліся на выключэньні больш вытрыманых партыйцаў.

Заслугоўвае ўвагі наступны момант з працы па чыстцы ва Уваравіцкім раёне Гомельскай акругі. У час праверкі і чысткі Цэрэнічскай ячэйкі ў праверкамісію зьявіўся інвалід грамадзянскай вайны—бядняк і прынёс компрамэтыруючы аднаго партыйца матар'ял. Праз дзень гэты-ж бядняк зьявіўся ў камісію і заявіў: „выбачайце мне, братцы, сорамна мне стала. Ні за што жадаў аклеветаць чалавека" і расказаў, што гэта заява напісана ім пад уплывам кулакоў, якія абяцалі яму за гэта хлеба, грошай і г. д. Другі факт: У часе праверкі аднаго партыйца (там сама), ня дрэннага работніка, праводзячага правільна клясавую лінію, выступіла з абаронай яго адна сялянка. Яна ведала, што кулач'ё імкнецца скомпрамэтаваць правяраемага таварыша. Выступаўшая бяднячка—жонка чырвонаармейца і член сельсавета. У гэту-ж ноч у гэтай бяднячкі, бязумоўна, рукамі кулакоў, паламаны воз, паздыманы атосы і аглоблі.

Неабходна яшчэ застанавіцца на выключным у сваім родзе факце расправы (забойства) у Чэрвеньскім раёне (Менск. акр.) вычышчаным з партыі б. старшыней РайКСУ—Чэрвеньскім, забіўшым бядняка-лясьніка Кавецкага, за разаблачэньне Чэрвеньскага ў часе чысткі партыі.

Чэрвеньскі—яркі тып скурніка, які прымазаўся да партыі. За двухгадовую працу сваю аб'ездчыкам Чэрвеньскага лясьніцтва, ён нарабіў поўна злачынстваў. У пачатку праверком абвесьціў яму толькі вымову за сувязь з цесьцем-кулаком, але потым у камісію паступілі новыя заявы аб яго злачынствах. У выніку—Чэрвеньскі быў выключаны

з партыі за хабарніцтва і сувязь з варожым элемэнтам. У пракурора ён прызнаўся ў тым, што выключэньне з партыі ён лічыць дробязьзю, а „што пасадзяць у турму за хабар—вось гэта дрэнна“. У наступны дзень пасьля забойства ў Чэрвені партыйны сход, на якім прысутнічала больш 900 чал. беспартыйных рабочых, сялян, чырвонаармейцаў, правільна ацаніў злодзеяньні Чэрвеньскага, як антысавецкі і контр-рэволюцыйны учынак, накіраваны супроць лініі партыі і шырокага разьвіцьця самакрытыкі.

## Наконт камуністых-маўчальнікаў, „кругавой парукі“, самакрытыкі ў ячэйках.

Праверка выявіла, што ва многіх ячэйках самакрытыка была слаба разгорнута, больш таго, праверкомы спаткаліся з фактамі простага зажыму самакрытыкі, кругавой парукі сярод партыйцаў. Вось некаторыя вельмі характэрныя моманты:

Адзначаны выпадкі, калі партыйцы лічылі патрэбным адмаўчвацца, таворачы, што „раз у нас чысьцяць на адкрытых сходах, дык няхай скажуць аб нас беспартыйныя“ (Віцебск, Ліозьнянскі раён).

У іншых месцах (Аршанскі раён, Старосельле, Гомель, Рэчыцкі раён) асобныя партыйцы, прадчуваючы абвінавачваньні супроць сябе, прыводзілі на сходы сваіх сваякоў, а апошнія адзін за другім станавіліся на абарону правяраемага.

Слабая актыўнасьць, моманты „кругавой парукі“ адзначаны ў Халопеніцкім раёне Менскай акругі, дзе ўчынкі адных камуністых скрываліся другімі і не выяўляліся хваравітыя бакі ячэйкі.

Тое-ж самае адзначана ва Уваравіцкім раёне Гомельскай акругі, дзе камуністы адмаўчваліся ці пярэчылі супроць таго, што было бяспрэчна ўстаноўлена.

У Лепельскім раёне, Полацкай акругі, член партыі Гончарэнка (начальнік Дэпо) перад чысткай загадаў сваім больш блізкім падначальным па рабоце рабочым не гаварыць нічога на сходзе пра яго, наладзіўшы праз іх асабістыя пікеты, у выніку чаго ў першы дзень чысткі выступленьняў па кандыдатуры Гончарэнкі зусім ня было. Толькі на другім сходзе ўдалося выявіць усе праступкі Гончарэнкі. У Лепельскім вайсковым гарнізоне в N-кім палку, член партыі з камскладу свайму падначаленаму па службе, таксама члену партыі, зрабіў унушэньне, выклікаўшы ў габінэт, за выступленьне супроць яго, назваўшы пры гэтым выступленьне таварыша „бабскімі плёткамі.

Па паведамленьню Аршанскай АКК у некаторых вясковых ячэйках партыйцы заранёй умаўляліся бараніць адзін аднаго і, такім чынам, спрабавалі захоўваць недахопы ў ячэйцы і асобных членаў партыі.

Сярод камуністаў вясковых ячэек Бабруйскай акругі была боязкасьць адкрытай чысткі: „давайце зьбярэмся самі і будзем чысьціць“, „зачым зьбіраць на сходах столькі сялян“.

## Друк, рабселькоры і чыстка партыі.

У цэнтральных і акруговых газэтах (асабліва ў газэце „Палеская Праўда“—Гомель і „Заря Запада“—Віцебск) пытаньні чысткі асьвятляліся з нумару ў нумар сыстэматычна. Друк асьвятляў пераважна ход чысткі, справаздачы аб праверачных сходах, адносіны розных соцыяльных груп да чысткі і г. д. Слабей асьветлены пытаньні росту партыі. У рэдкіх выпадках падпадае крытыцы работа самых праверачных

камісій, правільнасьць іх падыходу, адносіны да работы праверкамісій з боку ячэек і асобных соцыяльных груп.

У шэрагу мейсц канстатавана вельмі слабае асьвятленьне задач і ходу чысткі ў насьценгазэтах. Толькі па прыезду праверкомаў, з іх дапамогай выпускаліся чарговыя нумары газэт, прысьвечаныя чыстцы партыі. Райкомы партыі не змаглі мобілізаваць вакол пытаньняў праверкі і чысткі вясковых ячэек сьценкораў і селькораў.

### Недахопы ў працы праверкомаў.

Пры правільнай у агуле працы праверкомаў трэба адзначыць асобныя недахопы, якія заўважаны.

Некаторыя праверкомы (напрыклад, Чэрвеньскі) прыступілі да працы ня зусім падрыхтаванымі. Гэты праверком слаба азнаёміўся з станам організацыі і падрыхтоўкі яе да чысткі. Не правялі пленуму Райкому, ня вывучылі ўсіх матар'ялаў на паасобных сяброў партыі. Праверком толькі адзін дзень аддаў падрыхтоўцы, у той час, калі ў іншых раёнах праверкомы вызначылі на падрыхтоўку 5—6 дзён. У зьвязку з гэтым, калі праверком прыступіў да праверкі першай ячэйкі і сустрэўся з справамі паасобных сяброў партыі, праверком ня змог абгрунтаваць свае пастановы па гэтых справах. Хаця дзякуючы ўмяшацельству АКК, усе гэтыя недахопы былі своечасова выпраўлены і Чэрвенскі праверком сваю працу скончыў наогул здавальняюча,—мы ўсё-ж на гэтым яшчэ раз застанаўліваемся, каб папярэдзіць іншыя праверкомы ад гэткіх памылак.

Асобныя праверкомы недастаткова ўвязваюць працу па чыстцы з праверкай усяе працы ячэек. У выніках праверкомаў няма дастатковага адбітку стану працы ўсяе ячэйкі.

У працы некаторых праверкомаў (Бабруйск і інш. акр.) мела мейсца сьпешка. Тры ячэйкі правяраліся на працягу 5 дзён. Зразумела, што калі на адну ячэйку вызначыць усяго 1—2 дні, праверком ні ў якім разе ня зможа ў сапраўднасьці праверыць яе. ЦКК у свой час прапанавала Бабруйскай АКК і АК прыняць меры, каб дырэктывы ў гэтым напрамку выконваліся правільна, а таксама даручана было зараз-жа выправіць практыку працы асобных праверкомаў, дзе гэтыя хібы мелі мейсца.

З іншых характэрных парушэньняў адзначым спробы некаторых праверкомаў рабіць палітэкзамены. Адна праверкамісія пыталася ў кандыдата партыі—батрака:

— Якія вы ведаеце легальныя, поўлегальныя і нелегальныя партыі?..

— Што пастанавіў 1-ы кангрэс Камінтэрну?

Другая праверкамісія ставіла праверяемым каверзныя пытаньні, напрыклад:

— Ці выпіў-бы ты, калі-б табе паднесьлі.

Устаноўлены яшчэ асобныя выпадкі (Чавусы, Магілеўскай акр. і інш.), калі праверкомы агалашалі свае вывады на зачыненых сходах ячэек. АКК своечасова выкрылі гэтыя моманты і, не зацьвярджаючы вынікаў, прапанавалі праверкомам другім разам выехаць на мейсца і паставіць іх на абгаварэньне адчыненых сходаў ячэек з удзелам беспартыйных.

Віцебскай АКК прышлося сустрэцца з недаацэнкай з боку аднаго праверкому антыпартыйных дзеяньняў партыйца. Так, праверком заставіў у партыі без вынясеньня партспагнаньняў партыйца, які ня спыніў з 1924 г. опозыцыйнай дзейнасьці, не ўважаючы на ўсе абяцаньні, якія даваў. АКК адмяніла рашэньне праверкому і выключыла яго з партыі.

Акрамя апошняга прыкладу, незацьверджаньне рашэньняў праверкомаў з боку АКК адбываецца ў такіх выпадках:

Калі маюцца няяснасьці, недастаткова абгрунтаваны рашэньні праверкому (як матывіровачная, гэтак асабліва пастановачная частка); пры несуадпаведнасьці фармуліровак абвінавачваньня—характару накладзенага спагнаньня; пры паступленьні ў АКК новых матар'ялаў і неабходнасьці дадатковага высьвятленьня абвінавачваньняў. На першым часе чысткі некаторыя АКК вымушаны былі даручыць асобным праверкомам зноў перапрацоўваць свае пратаколы, як складзеныя не адпаведна з інструкцыяй ЦКК УсеКП(б).

Вось найбольш тыпічныя недахопы, заўважаныя ў працы праверкомаў. Іх трэба, зразумела, у інтарэсах найбольш пасьпяховага правядзеньня генэральнай чысткі партыі, як мага хутчэй зьнішчыць.

## Некаторыя лічбовыя паказчыкі аб ходзе чысткі ў акругах.

Прыводзім некаторыя лічбовыя паказчыкі аб ходзе чысткі ў паасобных акругах:

| Раёны | Усяго правер. | Не зьявілася | Выкл. | % % | Выгавар | Сярэд. % па акрузе |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Халоп. Мен. акр. | 90 | 2 | 17 | 18 | 15 | 17—18 |
| Чэрвень „ | 113 | 3 | 22 | 20 | 17 | |
| Астр.-Гарадз. | 67 | — | 17 | 25 | 16 | |
| Грэск | 91 | 4 | 15 | 16 | 4 | |
| Копыль | 71 | 2 | 12 | 17 | 12 | |
| Сьмілавічы | 120 | 3 | 13 | 10 | 19 | |
| Заслаўль | 62 | 4 | 12 | 19 | 5 | |
| Межан. р. Віц. акр. | 44 | — | 7 | 16 | 13 | 12—13 |
| Бешанков. | 57 | — | 5 | 8 | 7 | |
| Езярышчан. | 71 | — | 12 | 17 | — | |
| Ліозно | 47 | — | 4 | 9 | — | |
| Журав. р. Магіл. акр. | 85 | 2 | 6 | 7 | 21 | 10 |
| Чэчэвіцы „ „ | 55 | 1 | 6 | 11 | 2 | |
| Прапойск. | 73 | 7 | 8 | 11 | 8 | |
| Вайск. яч. Гом. акр. | 255 | — | 17 | 6 | 18 | 6 |
| „ Бабр. акр. | 197 | 9 | 9 | 5 | 7 | |
| „ Магіл. акр. | 137 | 11 | 9 | 7 | 11 | |

Адсюль відаць, што сярэдні процант выключэньняў па вясковых ячэйках хістаецца: у Менскай акрузе паміж—17-18%, Віцебскай—12-13%, Магілеўскай—10%, па вайсковых ячэйках—Гомельск. акрузе—6-7%, Магілеўскай—4-5%, Бабруйскай—6-7%.

Колькасьць не зьявіўшыхся на праверку па няўважлівых прычынах налічваецца толькі ў адзінічных выпадках.

Праверка вайсковых ячэек выявіла, што некаторыя партыйцы вельмі слаба політычна падрыхтаваны. Няма правільнага разуменьня кіруючай ролі рабочае клясы. Адзін вайсковы працаўнік гэтак уяўляе сабе сутнасьць правага ўхілу: „правы ухіл—гэта буржуі і кулакі“. Выяўлены момант сувязі асобных партыйцаў з чужым элемэнтам, скарыстоўваньне кампалітскладам чырвонаармейцаў на асабовыя патрэбы; вельмі распаўсюджаны п'янкі, маюць мейсца факты недысцыплінаванасьці асобных камуністаў, самавольныя адлучкі і не падпарадкаваньне загадам.

Слаба яшчэ разгорнута самакрытыка ў вайсковых частках. Маюцца моманты запуджваньня, боязкасьць выказацца. Адзначаны факты недастатковай актыўнасьці радавых чырвонаармейцаў пры абгаварэньні асобных кандыдатур. Калі праходзіў чыстку начальнік палкавой школы, выступала мала, а да чысткі аб гэтай кандыдатуры вельмі многа гаварылася.

### Прыцёк у партыю ў сувязі з чысткай.

Пытаньням вярбоўкі ў партыю з боку парткомаў і ячэяк, у некаторых выпадках і праверкомаў, не ўва ўсіх мейсцах зварочвалася дастаткова ўвагі.

Дзякуючы частым указаньням ЦКК за апошні час намеціўся вядомы пералом у гэтым напрамку.

Як на прыклад няўважлівых адносін да пытаньняў росту вясковых організацый, можна ўказаць, што ў адным з раёнаў Магілеўшчыны, ня гледзячы на тое, што на вучоце ў райкоме была значная колькасьць выяўленых батракоў і беднякоў, ніводзін з іх на працягу цэлага году ня быў прыняты ў партыю і толькі ў часе чысткі было прынята пры садзейнічаньні праверкома 8 батракоў і беднякоў.

Па матар'ялах праверкомаў відаць, што ў ходзе чысткі, асабліва пасьля заключных сходаў, паступае шмат заяў ад батракоў і беднякоў аб прыёме іх у партыю.

У Брагінскім сельсавеце, Гомельскай акругі, батракі сумесна з батрачкомам падалі заяву аб уступленьні ў партыю. У Цярэхаўскім раёне пасьля агалашэньня вынікаў чысткі, у ячэйку і правертройку паступіла заява (калектыўная) ад 5 беднякоў, з якіх трое былі актыўнымі ўдзельнікамі грамадзянскай вайны і чырвонымі партызанамі, а цяпер актыўныя ўдзельнікі ў грамадзкай рабоце. Тут, як і ў шмат іншых раёнах, да гэтага часу за цэлы год ня было ніякага росту ў ячэйцы. Некаторыя з гэтых т. т. ужо на працягу году наведвалі сходы ячэйкі, былі блізкімі да партыі, але толькі таму, што ім не хапала аднэй рэкомэндацыі, яны не змаглі ўступіць у партыю.

У трох ячэйках Буда-Кашалёўскага раёну падана 18 заяў аб уступленьні ў партыю.

У Асьвейскай організацыі (Полацкай акр.) пасьля чысткі прынята ў партыю 12 батракоў і беднякоў.

У Беларэчынскім палку (Гомель) на мейсца выключаных 15-ці—прынята ў партыю 37 чал., з іх 29 рабочых і 8 сялян.

Прыводзім у заключэньне некаторыя цыфры прыцёку па асобных раёнах Менскай акругі: Чэрвень—выкл. 22, уступіла 34 чал., Сьмілавічы выкл. 13, уступіла—51, Заслаўль—выкл. 13, уступ.—31.

Гэтыя лічбы паказваюць, што прыцёк у партыю пасьля чысткі значна перавышае лік вычышчаных у вясковых ячэйках. Пры тым вясковыя ячэйкі за лік вычышчаных папаўняюцца лепшымі сіламі з с.-г. рабочых, беднякоў і батракоў.

### Першыя папярэднія вынікі чысткі.

Праверка і чыстка вясковых ячэек паказвае, што ў гэтых ячэйках вельмі шмат людзей, якія няздольны, або не жадаюць выконваць пастановы партыі аб соцыялістычнай перабудове вёскі. Чыстка паказвае наяўна тое, наколькі часта нездавальняючы склад і работа многіх вясковых ячэек служылі сур'ёзнай перашкодай для правядзеньня

генэральнай лініі партыі ў вёсцы, наколькі глыбока часамі ўкараніліся там праваднікі *правага ўхілу* на практыцы.

Значная колькасьць з вычышчаных вяла на вёсцы актыўную барацьбу супроць *калектывізацыі*. Прыклады: член партыі з 1917 г., аб‘ездчык, адкрыта агітаваў супроць калектывізацыі (Гомельская акруга); сэкратар ячэйкі, які не займаўся сельскай гаспадаркай, пры дапамозе заможнікаў захапіў зямельны вучастак і потым здаў яго ў арэнду беднаце (Прапойскі раён, Магілеўскай акругі). Былы сэкратар камсамольскай ячэйкі заяўляў на партсходзе, што „калектывізацыю ў нас можна будзе правесьці толькі праз тысячу год“ (Бягомльск. р., Менскай акр.), другі сэкратар ячэйкі (Расьнянск. р., Аршанскай акр.) ігнараваў усякую работу сярод беднаты, займаўся п‘янствам, заможны хутаранін, пад відам арэнды, купляў у сялян зямлю і эксплёатаваў іх.

Сярод паасобных работнікаў вясковых арганізацый чысткай выкрыты такія элемэнты, якія прымалі рашучыя рэзалюцыі аб барацьбе з правым ухілам, а на справе ніякай барацьбы з скажэньнямі клясавай лініі ў раёне ня вялі („алілюйнікі“).

У Халопеніцкім раёне (Менскай акр.) няма ніводнага калгасу. РК нічога не рабіў па калектывізацыі вёскі. У Заслаўскім раёне (Менскай акр.) партработнікі аднэй рукой падпісвалі рэзалюцыі аб барацьбе з правым ухілам, а другой дазвалялі рост кулацкіх пасёлкаў, пранікненьне кулакоў у каапэрацыю і земляўпарадкаваньне праводзілася па прынцыпах сталыпінскай хутарызацыі.

*Работа з беднатой* у радзе раёнаў адсутнічала ня толькі з прычыны цяжкіх умоў працы на вёсцы, але, галоўным чынам, з прычыны супраціўленьня гэтай рабоце паасобных камуністаў, якія праводзілі ў сваёй працы адкрыта кулацкую, опортуністычную лінію.

Сэкратар сельскай ячэйкі Астрашыцка-Гарадзецкага раёну (Менскай акругі) даказваў праверкому, што бедната гэта—бандыты і хуліганы, усе яны няпісьменныя і расьці за іх лік партыя ня можа“.

У паасобных ячэйках засьмечанасьць і адсутнасьць якой-небудзь партыйнай работы на вёсцы было асноўнай прычынай *адсутнасьці росту і аўтарытэту ячэйкі сярод беднаты і лепшай часткі сераднякоў*. У Калінкавіцкім раёне (Мазырскай акр.) беднякі проста заявілі праверкому аб мясцовай ячэйцы: „два гады таму назад была ў нас ячэйка, а цяпер ня ведаем“.

У такіх ячэйках *зажым, прасьледваньне за самакрытыку, кругавая парука*,—былі звычайным зьявішчам. Сяляне заяўлялі, што „нашы партыйцы ня любяць, каб іх правільна крытыкавалі“. Як толькі штонебудзь скажам, пагражаюць, называюць падкулачнікамі, контр-рэволюцыянэрамі“.

Сэкратар ячэйкі (Менскай акр.) аднойчы нават зьнішчыў заметку насьценгазэты, у якой апісваліся паводзіны яго і старшыні с. г. таварыства. Мы ўжо ня будзем паўтараць тут апісаны вышэй выключны выпадак расправы за крытыку з боку вычышчанага з партыі (Чэрвеньская справа), які між іншым паказвае, якая затхлая атмасфэра ў адносінах крытыкі існавала ў гэтым раёне.

З другіх балючых зьявішч, выяўленых пры чыстцы ў вясковых ячэйках, адзначым шэраг выпадкаў п‘янства, бытавога разлажэньня, праявы антысэмітызму, рэлігійныя абрады.

Параўнальна высокі процант выключаных з вясковых ячэек як *чужы элемэнт*. Тут і служыўшыя ў Дзянікіна, Калчака, у Пятлюраўскіх бандах, у Стракапытава, Балаховіча. Выключаны таксама пралезшыя ў партыю, чарнасоценцы, актыўныя ўдзельнікі „Союза русского народа“ і т. п. элемэнты.

У заключэньне, адзначым яшчэ вельмі *нізкі палітычны ўзровень* партыйцаў у вясковых ячэйках—дырэктывы XII зьезду КП(б)Б і XVI партконфэрэнцыі ў шмат якіх ячэйках не абгаварваліся і на пытаньні аб іх рашэньнях не маглі адказаць.

* * *

Вось найбольш важныя першыя вынікі чысткі вясковых і вайсковых ячэек.

Прэзыдыумам ЦКК КП(б)Б прыняты рашэньні, якія ўлічваюць асноўныя моманты з першага этапу чысткі і намячаюць чарговыя задачы парторганізацыі ў далейшай працы па праверцы і чыстцы радоў КП(б)Б.

А. Хацкевіч.

# Канчатковыя вынікі перавыбараў саветаў Беларусі.

Зараз мы маем ня толькі поўнасьцю сабраныя весткі аб праведзенай перавыбарчай кампаніі, а нават маем падагуленыя вынікі па перавыбарах саветаў амаль ад усіх адпаведных акруговых організацый. На падставе гэтых падагуленых матар'ялаў, мы можам у сучасны момант ужо зрабіць поўныя і канчатковыя вынікі перавыбараў саветаў па ўсёй Беларусі, робячы належную ацэнку як станоўчаму, так і адмоўнаму ў гэтай вельмі важнай палітычнай кампаніі.

Перавыбарчая кампанія саветаў у бягучым годзе праходзіла ва ўмовах буйных посьпехаў у гаспадарча-культурным і сацыялістычным будаўніцтве, павышэньня матар'яльна-культурнага ўзроўня рабочых і сялян, росту іх палітычнай сьвядомасьці і актыўнасьці, павялічэньня згуртаванасьці радоў пралетарыяту і асноўных мас сялянства вакол партыі і саветаў. З другога боку, пасьпяхова і цьвёрда ажыцьцяўляемая Партыяй і Савецкай уладай лінія рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, выклікалі актыўнае супраціўленьне мерапрыемствам сацыялістычнага будаўніцтва з боку клясава-варожых элемэнтаў.

З самага пачатку падрыхтоўкі да перавыбараў, ва-ўмовах вышэйадзначаных акалічнасьцяй, у поўнай адпаведнасьці з агульнай лініяй Партыі, вызначанай апошнімі Зьездамі ЎсеКП(б) і КП(б)Б, Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б былі вызначаны канкрэтныя палітычныя задачы апошняй перавыбарчай кампаніі. Гэтыя задачы канкрэтна-фармуліраваныя выражаліся ў тым: каб яшчэ больш актывізаваць пралетарыят і асноўную масу сялянства і яшчэ шчыльней згуртаваць іх вакол лініі партыі для рашучага адпору ўзросшай актыўнасьці варожых клясавых элемэнтаў і далейшага разгортваньня шырокага наступленьня на кулака і нэпмана; мабілізаваць увагу шырокіх працоўных мас да галоўных пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва—індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і ўздыму яе ўраджайнасьці; яшчэ больш узмацніць саюз рабочае клясы з асноўнай масай сялянства і бядняцка-серадняцкі блёк; замацаваць і палепшыць працу груп беднаты; шырока разгарнуць крытыку і самакрытыку недахопаў савецкага апарату, ачысьціць яго ад бюракратычных скажэньняў і бюракратаў, абнавіць і папоўніць сьвежымі кадрамі выбраных і вылучаных рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкага актыву; максымальна павялічыць удзел у кампаніі працоўных усіх нацыянальнасьцяй; рашуча павялічыць удзел жанчын-работніц і сялянак у перавыбарах і ў складзе выбарных савецкіх органаў; узмацніць кіруючую ролю Партыі і партарганізацыі на мясцох у перавыбарчай кампаніі саветаў. Што мы маем у агульных выніках перавыбараў?

У выніку сталай напружанай працы, падрыхтоўчая работа да справаздачна-перавыбарчай кампаніі і кіраваньне ёю з боку партыйных

органаў з актыўным удзелам усяе арганізацыі забясьпечыла выкананьне адзначаных задач гэтае кампаніі шляхам своечаснага і дастатковага завастрэньня ўвагі рабочае клясы і ўсіх працоўных наогул па пытаньнях перавыбараў і задач сацыялістычнага будаўніцтва, шляхам абгаварэньня гэтых задач і канкрэтных пытаньняў на шэрагу канфэрэнцый, нарад, пленарных пасяджэньняў і сходаў, мабілізацыі партыйных сіл з цэнтру, акруг і раёнаў для практычнай работы па правядзеньню і кіраўніцтву кампаніяй на мясцох. Вялікая работа праароблена партарганізацыяй у галіне падбору кандыдатур у новы склад саветаў і па вылучэньню. Бясспрэчна, з самага пачатку кампаніі шырока была мабілізавана ўвага працоўных гораду і вёскі вакол чарговых задач сацыялістычнага будаўніцтва праз друк, палітасьветныя ўстановы, пастаноўку справаздач вышэйшых органаў улады непасрэдна перад працоўнымі масамі, праз складаньне і абгаварэньне наказаў, якія ў пераважнай большасьці зьяўляюцца канкрэтнымі плянамі ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі ва ўмовах кожнага раёну і савету. Паўней і значна лепш, чым у мінулую кампанію, праведзена праца па арганізацыі вясковай беднаты і батрацтва, а таксама па падрыхтоўцы працоўных жанчын і моладзі шляхам правядзеньня спэцыяльных нарад, сходаў і канфэрэнцый гэтых груп выбаршчыкаў. У значнай частцы раёнаў сходы беднаты і жанчын праводзіліся па два разы—перад справаздачамі саветаў і перад выбарамі іх амаль на кожным выбарчым вучастку. Адзначаныя сходы праходзілі пры высокай актыўнасьці ўдзельнікаў, якая даходзіла ў сярэднім да 13 проц. выступаўшых на сходах беднаты, 12 проц. на сходах моладзі, 10 проц. на сходах жанчын і г. д.

Дэцэнтралізацыя справы распрацоўкі наказаў, перанесянай у гэтую кампанію ў раёны, дала магчымасьць, побач з поўным адбіткам агульнай палітычнай лініі і задач партыі, дастаткова ўлічыць мясцовыя ўмовы, прапановы і патрэбы працоўных мас. Канкрэтная распрацоўка на мясцох наказаў выклікала вялікую зацікаўленасьць выбаршчыкаў і садзейнічала іх актывізацыі.

Камсамол у гэтую перавыбарчую кампанію праявіў вялізарную актыўнасьць, непасрэдна ўдзельнічаючы і дапамагаючы партарганізацыям і савецкім органам у скліканьні сходаў беднаты, жанчын, моладзі, батрацтва, агульных справаздачных і перавыбарчых сходаў, у складаньні сьпісаў выбаршчыкаў і асоб пазбаўленых выбарчага права. У шэрагу месц, асабліва ў гарадох, камсамольскія арганізацыі (камсамолкі) дапамагалі забясьпечыць больш поўны ўдзел працоўных жанчын у перавыбарах, у прыватнасьці шляхам арганізацыі дагляду за дзяцьмі на час сходаў.

Прафсаюзы ў гэтую кампанію прымалі сапраўдны ўдзел у перавыбарах саветаў, арганізуючы вакол правядзеньня кампаніі і яе задач гарадзкі і вясковы пралетарыят. Асаблівай увагі заслугоўваюць новыя формы кіраўнічай сувязі рабочае клясы з сялянствам праз пасылку для ўдзелу ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі на вёсцы рабочых брыгад. За ўвесь час перавыбараў каля тысячы чалавек гарадзкіх рабочых пабывалі на вёсках, на сходах, прымаючы актыўны ўдзел у вырашэньні задач перавыбараў.

Разам з гэтым, як дасягненьне, трэба адзначыць вялікую самадзейнасьць гарадзкога пралетарыяту наогул, якая выражалася ў арганізацыі мітынгаў-пераклічак і спаборніцтваў паміж гарадамі на лепшае правядзеньне перавыбараў.

Справаздачная кампанія гэтага году адзначалася больш выразнай пастаноўкай перад выбаршчыкамі палітычных задач і канкрэтных

момантаў работы саветаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. Сыстэма шырокага прыцягненьня да справаздачнасьці ня толькі саветаў, але і радавых членаў апошніх, ведамственых устаноў, грамадзкіх арганізацый і вышэйшых органаў улады, зрабіла кампанію сапраўдным аглядам шматміліённых працоўных мас усяго нашага сацыялістычнага будаўніцтва, значна павялічыла іх актыўнасьць і зацікаўленасьць агульнапалітычнымі задачамі краіны і працай саветаў, дапамагла выяўленьню недахопаў у працы савецкага апарату і дзелавых прапаноў для яго палепшаньня ў шматлікіх выступленьнях і рэзалюцыях справаздачных сходаў. Канкрэтным вынікам рэагаваньня працоўных на бязьдзейнасьць і нездавальняючую працу паасобных сваіх дэпутатаў было адкліканьне звыш трохсот такіх дэпутатаў яшчэ ў часы справаздачнай кампаніі і да яе пачатку, як у горадзе, так і асабліва на вёсцы.

На справаздачных і выбарчых сходах мы наглядалі нябывалую актыўнасьць усіх груп насельніцтва. Вялізарнейшую актыўнасьць у гэтую перавыбарчую кампанію праявілі гарадзкі пралетарыят, батрацтва і асноўныя масы сялянства, цалкам падтрымліваючы лінію партыі і мерапрыемствы Савецкай улады. У запатрабаваньнях гэтых груп у большасьці рэзалюцый і наказах адзначалася неабходнасьць узмацненьня барацьбы з бюракратызмам і скрыўленьнем клясавай лініі ў савецкім апараце, палепшаньня сацыяльна-культурнага абслугоўваньня працоўных. Гэта маса выбаршчыкаў пад кіраўніцтвам партарганізацый давала рашучы адпор усім варожым элемэнтам ва ўсіх іх праяўленьнях з пачатку і да канца перавыбарчай кампаніі, ня гледзячы на спробы кулацкага тэрору, накіраванага супроць вясковых грамадзкіх работнікаў.

Працоўнае насельніцтва нацыянальных меншасьцяй актыўна ўдзельнічала ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі нароўне з асноўным насельніцтвам данай мясцовасьці. Пры гэтым адзначаецца павялічэньне яўкі на справаздачныя і перавыбарчыя сходы па шэрагу нацыянальных саветаў да 80 і больш працантаў; працоўная жанчына нацыянальных меншасьцяй удзельнічала ў перавыбарах месцамі да 75 проц. Яшчэ ў большай меры, чым у мінулую кампанію, выявілася групаваньне нацыянальных меншасьцяй па клясаваму, а не па нацыянальнаму прызнаку. Як правіла, паміж карэнным насельніцтвам і нацыянальнымі меншасьцямі ў перавыбарчую кампанію былі добрыя ўзаемаадносіны, хаця ў паасобных мясцох яшчэ меліся шовіністычныя настроі і нацыянальная замкнутасьць, што было ўжо рэдкім зьявішчам. Практычна ажыцьцяўляючы нацыянальную палітыку ў перавыбарах арганізаваны новыя нацыянальныя саветы: 2 польскіх, 1 украінскі, 1 яўрэйскі і 1 літоўскі.

Вясковая інтэлігэнцыя, асабліва настаўніцтва, у пераважнай сваёй частцы, актыўна дапамагала рабоце па правядзеньні кампаніі і выступала сумесна з бядняцка-серадняцкай часткай выбаршчыкаў супроць часамі наступаючага кулака. Аднак, некаторая частка настаўніцтва і асабліва іншых катэгорый вясковай інтэлігэнцыі засталася ў кампаніі пасыўнай, абмежаваўшыся фармальным удзелам і баючыся пакрыўдзіць заможных і кулака. У асобных выпадках асобы вясковай інтэлігэнцыі выступалі за адно з кулацка-заможніцкімі групіроўкамі і часам нават станавіліся на чале апошніх.

Клясава-варожыя элемэнты—вясковае кулацтва, клерыкалы ўсіх нацыянальнасьцяй і інш.—яшчэ значны час да пачатку кампаніі перавыбараў распачалі з свайго боку падрыхтоўку шляхам таемных сходаў, нарад, індывідуальнай і групавай агітацыі, подкупу, спайваньня і іншых самых разнастойных мэтадаў. У некаторых мясцох з лютасьці на сваё бясьсільле, як адзначалася вышэй, гэтыя элемэнты станавіліся нават

на шлях тэрору, што выразілася ў шэрагу выпадкаў пагроз, нападаў, забойстваў, падпалаў, меўшых месца ў час справаздачнай і выбарчай кампаніі.

Кулакі, нэпманы і ім памагатыя так званыя „быўшыя людзі" у час перавыбараў выступалі супроць палітыкі наступленьня на кулака, супроць работы з беднатой, супроць калектывізацыі сельскай гаспадаркі і наогул супроць усяе палітыкі Савецкай улады ў яўна антысавецкай контррэвалюцыйнай форме, а часамі пад выглядам абароны бядняцка-серадняцкіх інтарэсаў.

Аднак, усе гэтыя спробы клясавага ворага ў большасьці выкрываліся і знаходзілі рашучы адпор з боку бядняцка-серадняцкага блёку і ўсяе савецкай грамадзкасьці.

Паўней, чым у мінулыя кампаніі, былі выяўлены і пазбаўлены выбарчых правоў усе непрацоўныя і варожыя пралетарскай дыктатуры элемэнты, прычым увагуле процант пазбаўленых выбарчага права ў статунку да ўсяго насельніцтва старэй 18 год, павялічыўся толькі нязначна: па сельсаветах з 1,4 да 1,9 проц., па местачковых—з 14 проц. да 14,8 проц., па неакруговых гарсаветах—з 12,8 да 13,8 проц. і па акруговых гарсаветах—з 8 да 9,1 проц., што сьведчыць аб правільнасьці ў асноўным праведзенай ў гэтым напрамку работы. Аднак, ня гледзячы на гэта, мы маем у гэтай справе на мясцох шэраг індывідуальных памылак, якія зараз выпраўляюцца.

Пры перавыбарах саветаў усе працоўныя, асабліва пралетарская частка выбаршчыкаў гораду і вёскі, значна больш, чым у мінулыя кампаніі, удзельнічалі на сходах. Агульны процант яўкі на перавыбары, у параўнаньні з мінулай кампаніяй, павялічыўся ад 46,3 да 58,7 проц. па сельскіх саветах, ад 49,6 да 63,5 проц. па местачковых і ад 62,4 да 71,1 проц. па гарадзкіх саветах. Пры гэтым яўка батракоў і сельгасрабочых па сельскіх мясцовасьцях у сярэднім дасягае 70 процантаў, а яўка рабочых у гарадох—да 79,2 проц.

Асабліва значна павялічылася ў гэтую кампанію актыўнасьць працоўных жанчын, у прыватнасьці па сельсаветах, дзе яўка дасягнула 42,4 проц. супроць 26,4 проц. у мінулыя перавыбары.

Гэтыя дасягненьні абумоўлены тэй выключнай увагай справе актывізацыі працоўных жанчын у гэтую перавыбарчую кампанію, радам спэцыяльных мерапрыемстваў, як паасобныя жаночыя сходы і сходы камбінаваныя з падзелам тэрміну яўкі выбаршчыкаў аднае сям'і на дзьве чаргі і масавай падрыхтоўчай працай усіх арганізацый. Падрыхтоўка кандыдатур у перавыбарах мела выключнае значэньне. Вось гэтаму вынікі: Кандыдатуры, падрыхтаваныя партарганізацыямі і шырока абгавораныя на сходах беднаты і іншых масавых арганізацый, пры поўным захаваньні дэмакратыі на выбарах, прайшлі прыкладна на 80 проц. у вёсцы і на 90,95 проц. у горадзе. Пры гэтым меўшыя месца правалы ў значнай частцы тлумачыліся недастатковай увагай мясцовых арганізацый да падбору кандыдатур. Таму зусім слушна, што гэтакія кандыдатуры тут-жа на сходах звычайна замяняліся лепшымі кандыдатурамі з беднякоў, партыйцаў і камсамольцаў. Выпадкі-ж правядзеньня кандыдатур заможных замест рэкамэндаваных наглядаліся ў кампаніі толькі як рэдкія зьявішчы.

У поўнай суадпаведнасьці з вызначанай агульнай характарыстыкай, у выніку пасьпяхова праведзенай падрыхтоўчай работы і справаздачнай перавыбарчай кампаніі ў складзе сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў маюцца, у бок палепшаньня іх складу, значныя зьмены:

1. Павялічэньне ў агульным складзе саветаў і рэвізійных камісій, а таксама і ў кіруючым складзе гэтых органаў, рабочых, батракоў і

беднаты: процант беднаты, аслабанёнай ад падатку ў агульным складзе сельсаветаў павялічыўся з 22,8 да 37,5 проц., сельгасрабочых і батракоў—з 1,1 да 2,7 проц., астатніх рабочых—з 1,4 да 1,7 проц., у складзе старшынь сельсаветаў—процант беднякоў, аслабанёных ад падатку, павялічыўся з 22,1 да 37,8 проц., сельгасрабочых і батракоў—з 0,5 да 3,9 проц., астатніх рабочых—з 1,4 да 2,3 проц.; у складзе рэвізійных камісій процант беднаты, аслабанёнай ад падатку, павялічыўся з 20,4 да 31,8 проц., рабочых і батракоў—з 3,6 да 4,2 проц.; у агульным складзе местачковых саветаў процант сельгасрабочых і батракоў павялічыўся з 0,1 да 4,2 проц. і астатніх рабочых—з 15,3 да 19,8 проц.; у складзе неакруговых гарсаветаў процант рабочых з вытворчасьці павялічыўся з 26,1 да 31,1 проц.; у складзе акруговых—з 28,8 да 34,0 проц.

Па нацсаветах, як дасягненьне трэба адзначыць павялічэньне ў ліку выбарных сялян проценту аслабанёных ад падатку: па яўрэйскіх саветах—з 18,75 да 50 проц., па польскіх—з 24,5 да 45,9 проц. і расейскіх—з 26,1 да 37,3 проц.; адсутнасьць плацячых звыш 10 рублёў на едака па яўрэйскіх (супроць 18,75 проц. у мінулым складзе) і зьмяншэньне гэтае групы з 26,1 да 19,2 проц. па латыскіх саветах; павялічэньне проценту батракоў і с.-г. рабочых ад 0,6 да 3,8 проц. па польскіх саветах, ад 0 да 1,4 проц. па яўрэйскіх, ад 0 да 0,8 проц. па расейскіх саветах і павялічэньне проценту іншых рабочых ад 0 да 0,8 проц. па польскіх, ад 22,1 да 32,4 проц. па яўрэйскіх і ад 0 да 1,4 проц. па расейскіх саветах.

2. Уцягненьне новых кадраў працоўных у склад нізавых саветаў і на кіруючыя пасады ў апошнія (выбраных першы раз членамі сельсаветаў—70,5 проц. і старшынямі—34,9 проц.).

3. Павялічэньне ў складзе сельсаветаў абсалютнага ліку членаў КП(б)Б і ЛКСМ (з 4.372 да 7.397) і проценту камуністых і камсамольцаў у складзе: прэзыдыуму сельсаветаў (з 33,6 да 39,2 проц.), старшынь сельсаветаў (з 33,7 да 57,0 проц.); павялічэньне проценту камуністых і камсамольцаў у гарсаветах акруговых—з 57,6 да 60,5 проц. і неакруговых—з 36,1 да 40,3 проц.

4. Дастаткова забясьпечана ў саветах прадстаўніцтва працоўных усіх нацыянальнасьцяй БССР з павялічэньнем іх абсалютнага ліку ў складзе сельскіх і местачковых саветаў.

5. Значнае павялічэньне колькасьці працоўных жанчын у агульным і кіруючым складзе саветаў (па сельскіх саветах з 7,2 да 19,7 проц. і ў складзе старшынь сельсаветаў з 0,8 да 7,0 проц.; па местачковых саветах з 12,3 проц. да 26,1 проц.; па гарсаветах акруговых—з 17,1 да 25,3 проц. і неакруговых—з 12,7 да 22,3 проц.).

6. Большае ўцягненьне працоўных на сталую работу ў саветах шляхам пашырэньня, як агульнага складу сельскіх і местачковых саветаў, так і складу прэзыдыумаў гэтых саветаў і раённых органаў улады.

Вось асноўныя паказацелі станоўчых вынікаў у перавыбарах саветаў.

Але побач з дасягненьнямі, якія мы мелі ў пэрыяд перавыбарчай кампаніі, неабходна адзначыць і недахопы.

Наяўнасьць фактаў недавучоту некаторымі партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі абвастрэньня клясавай барацьбы, недастатковай увагі справе арганізацыі беднаты і ўзмацненьня бядняцка-серадняцкага блёку, зусім недастатковае выкананьне дырэктывы аб правядзеньні папярэдніх сходаў бядняцка-серадняцкага актыву. Пры падрыхтоўцы і правядзеньні кандыдатур наглядаліся ў асобных выпадках хвасьцізм ячэек і няцьвёрдасьць у адстойваньні рэкамэндуемых кандыдатур, а таксама асобныя выпадкі парушэньня партыйнае дысцы-

пліны і нават блёкаваньне з кулацка-заможніцкімі элемэнтамі паасобных разлажыўшыхся і акулачыўшыхся партыйцаў і камсамольцаў. Разам з гэтым у шэрагу месц наглядаліся выпадкі нядбайных адносін мясцовых арганізацый да справы належнай падрыхтоўкі кандыдатур; недастаткова на мясцох выкананы дырэктывы аб увязцы перавыбарчай кампаніі са справаю агляду груп беднаты, якія з гэтае прычыны даў недастаткова станоўчыя вынікі.

Конкурс на лепшую сэкцыю гарадзкога савету, лепшы сельскі і местачковы савет з яго камісіямі, які павінен быў быць шчыльна ўвязаны са справаздачна-перавыбарчай кампаніяй, на справе не знайшоў глыбокага адбітку ў гэтай кампаніі і разгарнуўся са значным спазьненьнем ужо пасьля справаздач саветаў, чым у значнай ступені была страчана яго вартасьць і зьменшаны магчымасьці сапраўднага і ўсебаковага выяўленьня праз конкурс дасягненьняў і хібаў у рабоце саветаў.

Перавыбары выявілі недастатковую сувязь значнай часткі саветаў і іх дэпутатаў з масай выбаршчыкаў, што знайшло свой адбітак у шэрагу рэзалюцый і выступленьняў па справаздачах саветаў. Недастатковае яшчэ ўцягненьне да справаздач перад выбаршчыкамі радавых членаў саветаў. У шэрагу раёнаў наглядалася няпоўнае выкарыстаньне рэвізійнымі камісіямі іх, пашыраных напярэдадні перавыбарчай кампаніі, правоў у галіне праверкі выкананьня наказаў і дырэктыў вышэйшых органаў і недастатковая справаздачнасьць рэвкамісій перад выбаршчыкамі. Разам з гэтым трэба адзначыць недастатковы ўдзел у справаздачна-перавыбарчай кампаніі КСУ і каперацыйных арганізацый.

Пры досыць шырока разгорнутай справаздачнасьці саветаў перад выбаршчыкамі, трэба адзначыць нездавальняючы ў некаторых мясцох зьмест справаздач саветаў, якія не адбывалі выкананьня наказаў у справе задавальненьня мясцовых культурна-гаспадарчых запатрабаваньняў. Асабліва недастаткова саветамі ў іх справаздачах былі вызначаны мерапрыемствы і дасягненьні ў пытаньнях гаспадарчага перабудаваньня вёскі на сацыялістычных падставах: капераваньне, калектывізацыя, падняцьце ўраджайнасьці і г. д. Вось галоўныя моманты станоўчага і адмоўнага ў выніку кампаніі па перавыбарах саветаў бягучага году.

Што трэба ў асноўным ужыць, каб замацаваць лепшыя вынікі перавыбараў і палепшыць працу новых саветаў?

Улічыць і зьнішчыць усе наглядаўшыяся ў гэтую кампанію недахопы, з якіх галоўныя—несыстэматычнасьць працы з вясковай беднатой і недастатковая яе ўвязка з задачай узмацненьня бядняцка-серадняцкага блёку, слабасьць працы груп беднаты, недастатковасьць гаспадарчай і масавай працы саветаў, недастатковая сувязь дэпутатаў з масаю выбаршчыкаў праз сыстэматычную справаздачнасьць, неразгорнутасьць працы камісій сельскіх і местачковых саветаў.

Трэба ў самы бліжэйшы час распрацаваць шэраг канкрэтных мерапрыемстваў па ажыўленьню масавай і практычнай работы саветаў у напрамку замацаваньня і яшчэ большага разьвіцьця ўзросшай палітычнай актыўнасьці рабочых і асноўнай масы сялянства, арганізуючы гэтыя масы на справе практычнай работы саветаў, іх камісій і сэкцый, забясьпечваючы за масамі ўдзел у вырашэньні штодзённых практычных задач сацыялістычнага будаўніцтва. Трэба дабіцца ўсімі вызначанымі партыяй мерамі і сродкамі, каб саветы зрабіліся сапраўднымі арганізуючымі асяродкамі працоўных гораду і вёскі вакол выкананьня гаспадарча-культурных задач пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі і сацыяльна-культурнага будаўніцтва. У адносінах сельскіх

саветаў трэба, каб задачы сацыялістычнага перабудаваньня вёскі, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, пашырэньня пасеўнае плошчы, уздыму ўраджайнасьці *былі асновай гаспадарчай работы*, гуртуючы вакол гэтых вузлавых пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва ўсю масавую працу саветаў.

Ні адзін раз ужо пісалася і гаварылася, што бюджэты зьяўляюцца неабходнейшай матар'яльнай базай разгортваньня гаспадарча-культурнай дзейнасьці і масавай організацыйнай работы саветаў. Зроблена-ж вельмі мала. Тут патрэбны рашучы пералом. Неабходна зараз-жа ў гэтым годзе перавесьці больш буйныя сельскія саветы на самастойныя бюджэты, ўжыць канкрэтныя мерапрыемствы па належнаму афармленьню самастойнасьці ўжо існуючых сельскіх і местачковых бюджэтаў і палепшаньню бюджэтаў гарадзкіх саветаў.

Мы маем у выніку перавыбараў павялічэньне процанту няпісьменных у складзе сельскіх саветаў з 1,9 да 4,5 проц. Гэта тлумачыцца тым, што ў склад саветаў увайшло больш батракоў, беднаты і жанчын, з якіх шмат няпісьменных. Наша задача на мясцох зараз-жа безадкладна ўзяцца за ліквідацыю няпісьменнасьці сярод членаў сельсаветаў дзеля таго, каб яны праз паўгода змаглі быць хаця-б элемэнтарна пісьменнымі для актыўнай працы ў саветах. Разам з гэтым арганізацыйна замацаваць і палітычна выхаваць уцягнутыя ў выніку апошняй кампаніі сьвежыя кадры працоўных, асабліва рабочых, батракоў, жанчын і працоўных нацменшасьцяй, не пакідаючы ніводнага дэпутага савету без практычнай работы і без дапамогі ў яго рабоце з боку больш падрыхтаваных савецкіх працаўнікоў. Шырока скарыстаць арганізаваныя ў гэтых мэтах цэнтральныя і мясцовыя (акруговыя і раённыя) курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы нізавых савецкіх работнікаў.

Рашуча і сыстэматычна ачышчаць савецкі апарат ад пралезшых клясава-чужых і абюракраціўшыхся элемэнтаў. Пашыраць практыку адкліка期 ньня неадпавядаючых дэпутатаў па ініцыятыве саміх выбаршчыкаў у працягу штодзённай работы саветаў. Пры правядзеньні чысткі савецкага апарату накіраваць на гэтую справу ўсю ўвагу саветаў з тым, каб праз саветы былі прыцягнуты да чысткі самыя шырокія масы працоўных гораду і вёскі.

Улічваючы значнае абнаўленьне (70,5 проц.) і пашырэньне складу нізавых савецкіх органаў, неабходна мабілізаваць інструктарскія сілы і практыкаваць выезд адказных работнікаў для інструктаваньня і наладжваньня работы ў нізавых саветах. Не забываючыся ажыцьцяўляць задачу вылучэньня, трэба сыстэматычна прыцягваць рабочых, работніц, батракоў, батрачак і бядняцка-серадняцкі актыў усіх нацыянальнасьцяй на кіруючую работу ў савецкі апарат наогул і асабліва замест вычышчаных і адклікаемых, безадкладна арганізаваўшы справу выхаваньня і падняцьця кваліфікацыі вылучэнцаў у мэтах далейшага прасоўваньня іх на кіруючую работу. Яшчэ раз трэба падкрэсьліць, што складаньне наказаў з удзелам шырокіх працоўных мас і нізавых работнікаў дало станоўчы палітычны і дзелавы эфэкт. Наказы выбаршчыкаў з практычнымі дадаткам ляглі ў аснову практычных плянаў работы саветаў. Няма сумненьня ў тым, што гэтыя наказы дадуць найлепшыя вынікі пры іх уважлівым і поўным выкананьні з боку саветаў і іх паасобных дэпутатаў. Таму трэба зараз-жа наладзіць сыстэматычную справаздачнасьць аб выкананьні наказаў і прынятых дадаткаў выбаршчыкаў, праверку гэтага выкананьня рэвізійнымі камісіямі сельскіх і местачковых саветаў.

Ажыўленьне дзейнасьці саветаў, уцягненьне рабочых і асноўных мас сялянства ў працу саветаў ёсьць такая задача, якую трэба вырашаць

са ўсёй уважлівасьцю, удзеляя патрэбныя сілы і сродкі. Толькі далейшае ажыўленьне і ўзмацненьне работы саветаў з уцягненьнем новых кадраў рабочых, батракоў і беднаты ня толькі забясьпеча ажыцьцяўленьне правільнай партыйнай лініі, але дасьць магчымасьць ачысьціць апарат ад бюрократычных пакрыўленьняў і прымазаўшыхся антысавецкіх варожых элемэнтаў.

Ва ўмовах абвастрыўшайся клясавай барацьбы і рашучага сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты нам трэба падняць работу саветаў на больш высокі ўзровень, забясьпечваючы саветам сапраўдную актыўную кіраўнічую ролю ў справе практычнага ажыцьцяўленьня сацыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і ў вёсцы.

---

А. Некрашэвіч.

# На новым этапе.

I.

Неабходнасьць беларусізацыі стала зразумелай амаль усім. Толькі хіба дзе-ні-дзе ў цемным кутку, захаваўшыся ад дняўнога сьвятла, азіраючыся, шыпіць загнаны ў падпольле расейскі або іншы шовіністы. Усё радзей і радзей можна пачуць анэкдот пра беларусізацыю накшталт армянскага альбо яўрэйскага даваеннай якасьці. Беларусізацыя вольна ці ня вольна прызнана нават ворагамі яе. Партыя за апошнія гады правяла вялікую растлумачальную працу сярод працоўных сутнасьці нацыянальнае політыкі і яе асаблівасьцяй у БССР. Побач ішла праца і па беларусізацыі апарату. На сёньняшні дзень большасьць установў і організацый перавялі сваю працу на беларускую мову. Няхай гэтая беларусізацыя яшчэ носіць часта павярхоўны характар, няхай яшчэ й на сёньняшні дзень мы сям там бачым рэцыдывы, няхай часта якасьць гэтай беларусізацыі надта нізкая, але факт застаецца фактам. Першы этап, чарнавы, так сказаць, этап скончаны. Партыя ўступае ў гэтай справе ў новы больш высокі, але й больш складаны пэрыод ажыцьцяўленьня нацыянальнае політыкі.

Гэты этап таксама зьяўляецца вельмі складаным і мае цэлы шэраг асаблівасьцяй. Першая з іх гэта тое, што апошні час характарызаваўся цэлым шэрагам фактаў праяў беларускага шовінізму і нацыянал-дэмократызму. Усім вядомыя факты тэатральнай дыскусіі, артыкулы ў „Полымі“ і шэраг ім падобных выразна пра гэта сьведчаць. На даным этапе беларускі шовінізм зьяўляецца найболей небясьпечным і партыя тут дала рашучы адпор. Аднак тут трэба адразу прадбачыць і другі бок справы. Шовіністыя ўсіх іншых колераў схіляюцца да таго, каб расцэньваць гэты адпор партыі беларускаму шовінізму і нацыянал-дэмократызму, як сыгнал к адбою, як адступленьне ад справы беларусізацыі і як пачатак расправы з „белорусским засильем“. З другога боку рашучая пастаноўка партыяй пытаньня аб найбольшай небясьпецы на даным этапе якраз беларускага шовінізму і нацыянал-дэмократызму побач з рашучым і адначасовым правядзеньнем беларусізацыі, прынясла некаторую няяснасьць у галавах з аднаго боку тых сяброў партыі, якія ў агуле слаба разьбіраюцца ў складаных пытаньнях правядзеньня нацыянальнае політыкі, а з другога—нібы дала права ізноў такі вялікадзяржаўна-настроеным элемэнтам у нашай партыі (а іх, на жаль, яшчэ ня так мала, як здаецца гэта на першы погляд) затрубіць, пакуль што паціху можа, адбой ад беларусізацыі. І, трэцяе, гэта тэндэнцыя элемэнтаў першага парадку атакаваць і другога—рэвізаваць усю ранейшую працу КП(б)Б па правядзеньню беларусізацыі пад знакам таго, што нібы ўсё, што зроблена партыяй, дагэтуль носіць на сябе адбітак нацыянал-дэмократызму. Вось к прыкладу, нейкі А. И. у № 180 „Комсомольской Правды“, галопам праехаўшы па Беларусі і па ўсёй політыцы партыі, піша: „Этими успехами белорусский национал-демократизм обязан вовсе не своим способностям. Отнюдь нет!

Его возвышение об'ясняется скорее тем, что *ни партийная, ни комсомольская организации не были своевременно мобилизованы на борьбу с наглеющим классовым врагом*"... і далей „пролетарские массы Белоруссии не имеют возможности пользоваться боевым оружием современности—самокритикой. Критиковать здесь решается *не всякий*" (падкрэсьлена ўсюды аўтарам). Як бачыце, уся партыя, камсамол абвінавачаны ў *прымірэнцтве* да нацыянал-дэмократызму! Вывад аўтара можна заставіць на яго сумленьні і полемізіраваць з ім проста ня варта, бо кожны, хто ведае становішча на Беларусі, ведае і тую рашучую непрымірымую барацьбу, якая вядзецца КП(б)Б з праявамі нацыянал-дэмократызму ўсіх колераў і ня толькі з учорашняга дню. Ну, а вывад у нашага героя зусім вядомы „Просвещение. Язык (!), Литература, Наука, Театр, Печать, Книгоиздательство"... усё прасякнута нацыянал-дэмократызмам, бо, бачыце, яно ў тэй ці іншай меры беларусізавана. Другога вываду зрабіць нельга.

Усё гэта ў агульным комплексе ставіць перад усёй партыйнай арганізацыяй, перад усімі працоўнымі задачу рашучага, упартага правядзеньня беларусізацыі, бязьлітаснай барацьбы з рэцыдывамі, з спробамі барацьбу партыі з нацыянал-дэмократычнымі элемэнтамі ўсіх колераў і на даным этапе з нацыянал-дэмократызмам беларускім, у першую чаргу, расцэньваць як рэвізію папярэдняй палітыкі партыі ў справе правядзеньня нацыянальнае палітыкі і аднэй з найболей важных частак яе—беларусізацыі.

Другою асаблівасьцю гэтага этапу трэба лічыць тое, што ў выніку посьпехаў соцыялістычнага гаспадарчага будаўніцтва ў чарне скончаны першы пэрыяд культурнага будаўніцтва. Партыя вырашыла за гэты час тыя задачы, якія ёй патрэбна было вырашыць не як задачы будаўніцтва ўжо пролетарскай культуры, а як задачу сканчэньня таго, што затрымлівалася ў сваім разьвіцьці палітыкай царызму [1]).

Беларусізавана школа, апрацавана тэрміналёгія амаль ва ўсіх галінах, значна ўзбагацілася мова, узрасла пераважна фармальная якасьць літаратуры, утвораны беларускі тэатр. Гэты этап скончыўся організацыяй Беларускай Акадэміі Навук. Уступленьне ў новы пэрыяд, больш высокі, культурнага будаўніцтва адбываецца пры абгостраным клясавым змаганьні. Вораг, кулак у вёсцы і нэпман у горадзе, выбіваемыя з сваіх позыцый пасьпяховым соцыялістычным будаўніцтвам, спрабуюць даць бой партыі па найболей слаба забясьпечаных вучастках фронту, на фронце культурнай рэволюцыі. Маскіруючыся нават формальным прызнаньнем марксыцкай мэтодолёгіі, адзяваючыся ў авечую скуру, вораг усё-ж імкнецца працягваць ва ўсе галіны культурнага будаўніцтва варожыя нам ідэі, альбо проста-на-проста апошлівае, прыводзіць к мяшчанскаму, як кажуць, знаменаталю ўсю палітыку партыі. Гэтая небясьпека прарываў на фронце культурнага будаўніцтва ўзрастае яшчэ й таму, што нідзе ў іншай галіне нашага будаўніцтва ня прыходзіцца нам рабіць справу рукамі чужых людзей, як на фронце культурнай рэволюцыі. Вось-жа гэтыя абставіны і вымагаюць цяпер як ніколі рашуча паставіць задачу ажыцьцяўленьня ўжо дадзенага раней партыяй лёзунгу: „Уся КП(б)Б на чале культурнага будаўніцтва". Болей

[1]) В. Кнорын па гэтаму пытаньню піша: „Беларусы да рэволюцыі яшчэ не змаглі аформіцца як сучасная буржуазная нацыя, і перажывалі толькі процэс такога афармленьня, знаходзіліся на ступені буржуазна-дэмократычнага нацыянальнага „адраджэньня"—самавызначэньня" І далей „Партыя міжнароднага пролетарыяту, такім чынам, стала завяршальнікам тэй часткі работы беларускага нацыянальнага „адраджэньня"—самавызначэньня, якая мела сапраўды рэволюцыйна-дэмократычны і нацыянальна-вызваленчы характар". (В. Кнорын „За культурную рэволюцию" БДВ 1928 г., стар. 68—69).

таго. Задачы будаўніцтва беларускай *пролетарскай* культуры вылучаюць як адну з актуальнейшых задач, задачу *актыўнага* непасрэднага ўдзелу пролетарыяту ў гэтым будаўніцтве. Гэта зусім зразумела. Але зразумела й тое, што сапраўдным кіраўніком культурнага будаўніцтва пролетарыят будзе тады, калі ён дасканала будзе знаёмы з усёй папярэдняй беларускай культурай. Адсюль задача ва ўпор, рашуча, па большавіцкі паставіць справу азнаямленьня ўсіх працоўных у першую чаргу рабочых, з беларускай культурай, прыцягненьне пролетараў да актыўнага ўдзелу ў гэтым будаўніцтве. Для вырашэньня гэтай задачы павінна быць мабілізавана ўся сыстэма культурна-масавай працы і ў першую чаргу працы профсаюзаў.

## II

Такімі двума асаблівасьцямі характарызуецца даны пэрыяд. З іх і выцякаюць тыя асноўныя задачы, якія мы павінны паставіць для вырашэньня на бліжэйшы час.

Першай з іх, бязумоўна, павінна быць скончэньне беларусізацыі апаратаў усіх устаноў і організацый. Вызначаныя для гэтага тэрміны, адсрочкі ды інш. даўно ўжо мінулі. Мінулі нават для такіх акруг як Гомельшчына, што нядаўна далучаны да БССР. Але калі прасачыць за нашымі газэтамі дзе ня так ужо багата зварочвалася ўвагі гэтаму пытаньню, нават за апошнія 2—3 месяцы, дык пабачым, што яшчэ ня ўсюды выконваецца дырэктыва партыі і ўлады аб беларусізацыі. Яшчэ ў гэтай справе часта мае мейсца альбо тупы бюрократызм, альбо, што яшчэ горш, наўмыснае ігнорыраваньне дырэктыў, пад рознымі так званымі „аб'ектыўнымі“ прычынамі, а па сутнасьці ўсё гэта зводзіцца да пасыўнага супраціўленьня політыцы партыі. Трэба справу паставіць так, каб невыкананьне плянаў беларусізацыі расцэньвалася як простае парушэньне дырэктыў партыі, наўмыснае павялічэньне цяжкасьцяй і без таго цяжкай справе ажыцьцяўленьня нацыянальнай політыкі. Тут трэба даць каму сьлед па руках і справу скончыць як сьлед і ў тэрмін.

Скончэньне пераводу ўстаноў на беларускую мову павінна быць зьвязаным з задачай палепшаньня *якасьці* беларусізацыі. Што тут небясьпечна, даводзіць ня прыходзіцца. Усе гэтыя „скляпеньні бюджэту“, „абрабаваньне коняй“, „крыніцы ад дзьвярэй“, „Астраханскія вурокі“ і сотні ім падобных, што фігуруюць у нашым дзелаводзтве, газэтах яшчэ і сёньня, выразна пра гэта сьведчыць. Яны сьведчачь яшчэ і пра тое, што вялікарускі шовініст, што прысьмірэў пакуль што, сям там у апараце проста на проста зьдзекуецца наўмысьле над беларускай мовай, бо ідыётам, круглым ідыётам трэба ня быць, каб дапускаць такія памылкі. І ня проста тупым бязглудзьдзем нясе часта ад гэтых памылак... Стары царскі чыноўнічы апарат і з расейскай мовы змог утварыць спэцыфічна-канцылярскі сурогат, недаступны для разуменьня амаль больш нікога, акрамя гэтага-ж чыноўніцтва. Небясьпекі ўтварэньня спэцыфічна-канцэлярскай беларускай мовы, недаступнай разуменьню шырокіх колаў працоўных ні ў якім разе нельга недаацэньваць. І з гэтай небясьпекай патрэбна павесьці рашучую барацьбу.

Вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў БССР, акрамя шэрагу іншых цяжкасьцяй, ускладняецца яшчэ і тым, што тут з прычыны гістарычна склаўшыхся ўмоў існуе пэўны разрыў паміж горадам і вёскай. У той час калі вёска мае большасьць беларускага насельніцтва, горад як у агуле, так і ў сваёй рабочай частцы складаецца з іншых нацыянальнасьцяй. Тая-ж частка беларусаў рабочых усёй

папярэдняй політыкай царызму даволі значна зрусіфікавана. Прыкладам могуць быць, ну хаця-б рабочыя чыгуначнікі, дзе русіфікатарская політыка заставіла настолькі моцны сьлед, што правядзеньне беларусізацыі там яшчэ і цяпер сустракаецца з значнымі цяжкасьцямі. Паміж тым на пролетарыят Беларусі ўскладзена вельмі адказная задача кіраўніцтва сялянствам у справе перабудовы на аграмаджаных соцыялістычных падставах усёй вёскі. І вось намячаецца небясьпека некаторага разрыву паміж горадам і вёскай, што значна больш цяжкай робіць задачу пролетарскага кіраўніцтва. Гэты разрыў тым болей небясьпечны ў цяперашні момант абгостранага клясавага змаганьня. Сутнасьць-жа гэтага разрыву ў тым, што беларус-селянін, які захаваў сваю мову нават у гады нацыянальнага панскага альбо царскага ўціску, цяпер атрымаў неабмежаваныя магчымасьці для свайго культурнага разьвіцьця, а разам з тым разьвіцьця і замацаваньня сваёй мовы, што стала мовай дзяржаўнай. Ужо неўзабаве ў актыўнае будаўніцтва ўступае новае пакаленьне, якое прайшло савецкую *беларускую* школу, выхавана на *беларускай* культуры. А ў гэты час пролетарскі горад у рабочай сваёй масе астаецца ў справе беларусізацыі, справе аўладаньня беларускай мовай, беларускай культурай. Гэта спрыяе таму, што беларускі кулак у гэтай справе пачынае прымяняць тактыку, пакуль што можа і ў завуаляванай форме, утварэньня адзінага нацыянальнага беларускага фронту. Усё гэта вымагае рашучай пастаноўкі пытаньня аб глыбокай і сталай рабоце па беларусізацыі сярод рабочай клясы, бо гэта адзіны спосаб памяншэньня ахарактарызованага вышэй разрыву, спосаб аслабленьня кулацкіх позыцый у вёсцы. Пакуль што на гэтым вучастку працы ня ўсё добра. Беларусізацыя з большага парадная. Сталай, упартай працы тут не вядзецца. Задача ў тым, што „зараз трэба ставіць пытаньне аб тым, каб беларусізацыя была ня модай, не надворна-паказаным бокам, ня шыльдай, *трэба, каб яна ўвайшла ў быт, у культуру*". (Кнорын „За культурную рэвалюцыю" ст. 73). Інакш ні беларусізацыя апаратаў (часта толькі праз машыністак), ні надворны-паказаны бок не вырашаюць справы. *Пакуль ня будзе беларусізавана ўся праца саюзных культурна-асьветных устаноў, уся рабочая кляса,* датуль нельга лічыць зробленую працу замацаванай, датуль будзе небясьпека рэцыдываў, датуль пытаньне беларусізацыі павінна стаяць адным з першых у парадку нашай работы. Жорсткай барацьбой з усімі праявамі беларускага шовінізму і нацыянал-дэмократызму, як зброі клясавага ворага, рашучым наступленьнем у справе беларусізацыі, пераводам усёй работы па правядзеньню яе на вышэйшую ступень характарызуецца даны пэрыяд: „Цяпер трэба, каб беларусізацыя ўваходзіла ў быт, у культуру"... Перад намі усімі, перад нашай партыяй, профсаюзамі і савецкай уладай, перад усімі культурнымі працаўнікамі тут стаяць самыя шырокія задачы. Трэба гэтыя задачы вырашыць па дзелавому, як організатарам і практыкам вялікай Кастрычнікавай Рэвалюцыі[1]). Бо „няма ў сьвеце такой цытадэлі, якую ня мог-бы ўзяць бальшавік-рабочы" (Сталін).

---

[1]) В. Кнорын. „За культурную революцию" БДВ. 1929, стар. 91.

# НА МЯСЦОХ

Н. Клябанаў і Міхайлаў.

## Аб чым гавораць вынікі праверкі ходу соцыялістычнага спаборніцтва па Гомельскай акрузе.

*(Па матар'ялах абсьледваньня АК і АПБ на 25/VI-29 г.).*

> Спаборніцтва між заводамі, раёнамі, цэхамі, майстэрнямі і паасобнымі рабочымі павінна быць прадметам старannай арганізацыі і ўважлівага вывучэньня з боку прафсаюзаў і гаспадарчых органаў.
>
> *(З адозвы XVI партконфэрэнцыі).*

З часу пачатку разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва на прадпрыемствах Гомельшчыны прайшло ўжо досыць многа часу, што дазваляе зрабіць некаторыя папярэднія вывады як па пытаньнях абавязацельстваў, прынятых дагаворамі, так і па пытаньнях організацыі і вывучэньня гэтай працы з боку профэсыянальных і гаспадарчых організацый.

З другога боку мы маем закончанае першае паўгодзьдзе гаспадарчага пляну прамысловасьці, вынікі якога абавязваюць нас на конкрэтных фактах асобных прадпрыемстваў завастрыць увагу як профэсыянальных, так і гаспадарчых організацый, а таксама ўвагу рабочых мас для таго, каб зрабіць тое, што было прапушчана, для ўзмацненьня змаганьня на тых адсталых вучастках працы, якія могуць парушыць выкананьне вызначаных плянаў.

### Падрыхтоўчая праца і папулярызацыя задач спаборніцтва ў масах.

Пачаткам спаборніцтва па акрузе трэба лічыць другую палову сакавіка—зварот АК ЛКСМ, АК, АВК і АПБ. Ужо ў першых чыслах красавіка па больш буйных прадпрыемствах пачалі адбывацца мітынгі і сходы, гутаркі з рабочымі ў цэхах падчас перапынкаў на абед. На фабрыках „Днепр“, „Герой Працы“ былі выдадзены спэцыяльныя адозвы ад імя мясцовых партыйных і профарганізацый, якія былі пашыраны сярод рабочых. На правадзімых у гэты час конфэрэнцыях, як на фабрыцы „Днепр“ і „Х Кастрычнік“, фанерным заводзе, саюзе харчаўнікоў, Акрзьезьдзе АПБ, былі прыняты адозвы да ўсіх рабочых і работніц па пытаньню аб соцыялістычным спаборніцтве.

У выніку паказаных мерапрыемстваў можна лічыць, што асноўныя масы рабочых усвоілі значэньне соцыялістычнага спаборніцтва і праяўляюць вялікую зацікаўленасьць. Разам з тым, на паасобных прадпрыемствах, напрыклад, „Пролетар“, фабрыка „Труд“ і іншых дробных прадпрыемствах растлумачальная праца праведзена слаба. Так, напрыклад, на заводзе „Пролетар“ для гэтага былі скарыстаны 30-хвілінны перапынак на абед, або на заводзе „Труд“ на агульным сходзе рабочых, дзе абгаварвалася пытаньне аб спаборніцтве, адначасова

стаялі пытаньні: 1) справаздача ЦРК; 2) выбары ўпаўнаважанага; 3) справаздача аб выкананьні прапаноў папярэдніх сходаў; 4) рознае, з чаго відно, што дзелавой прапрацоўкі ня магло быць і пытаньне фактычна былі зьведзены на нішто.

Значна слабей усвоена значэньне соцыялістычнага спаборніцтва паасобнымі групамі рабочых, і, галоўным чынам, вясковай часткай як тых, якія знаходзяцца на прадпрыемствах „Везувій“, „Днепр“, так і на сэзонных працах. Гэтыя групы рабочых і работніц пры гутарках з імі выявілі незразуменьне сутнасьці правадзімых мерапрыемстваў і гэта, галоўным чынам, тлумачыцца тым, што ў растлумачальнай працы быў агульны падход да ўсіх рабочых.

Усё гэта гаворыць за тое, што, ня гледзячы на праведзеную растлумачальную працу, уся рабочая маса і, галоўным чынам, новыя кадры і да гэтага часу ня ўсвоілі сутнасьці спаборніцтва, з чаго вынікае, што популярызацыйную працу трэба ня спыняць, накіроўваючы яе на растлумачэньне сутнасьці спаборніцтва сярод паасобных груп рабочых і работніц, мобілізуючы іх увагу наўкола задач, выплываючых з 5-х гадовага пляну народнай гаспадаркі.

## Настроі рабочых мас і іх адносіны да спаборніцтва.

Прыведзеныя намі даныя, як вынікі ходу спаборніцтва па частцы продукцыйнасьці працы, зьніжэньне сабекошту прагулаў, павялічэньне вырабаткі прадукцыі гавораць за тое, што рабочыя масы да пытаньня спаборніцтва адносяцца з усёй сур'ёзнасьцю і праяўляюць найвялікшую ініцыятыву і энтузіязм.

Побач з гэтым мы маем факты, калі з боку паасобных рабочых на заводзе „Пролетар“ і „Інтэрнацыянал“ мелі месца разгаворы аб тым, што ў выніку павялічэньня продукцыйнасьці працы будзе зьніжэньне расцэнак, таму ня трэба гнацца за павялічэньнем выработкі, ці на шчацінай фабрыцы з боку некаторых рабочых мелі месца такія разважаньня: „добраахвотна павялічэньне норм не зьяўляецца добраахвотным у поўным сэнсе слова, а павялічыць іх прышлося, быццам, добраахвотна, таму што іх усё роўна павялічвалі-б прымусовым парадкам. Мы былі дуракамі, павялічваючы продукцыйнасьць працы, не павялічвалі-б продукцыйнасьць працы, у нас-бы ня зьменшалі расцэнкі“.

Аналёгічныя зьявішчы мелі месца і ў шэрагу іншых прадпрыемстваў.

Трэба адзначыць, што ў большасьці гэтыя зьявы ідуць ад адсталых груп рабочых і работніц і з другога боку, ня было належнага кіраўніцтва і быў дапушчан перагіб у справе ініцыятывы па зьніжэньню расцэнак („Двигатель“).

З боку партыйных і грамадзкіх організацый няма адпаведнага рэагаваньня на гэтыя моманты.

Адсюль задача—скарыстоўваючы ініцыятыву рабочых і правільна яе накіроўваючы, трэба адначасна ўзмацніць змаганьне з праявамі нездаровых настрояў, шляхам растлумачэньня, кіраўніцтва працай і катэгарычнай забароны бюрократычнай рэглямэнтацыі згары.

## Організацыйныя формы і мэтады спаборніцтва.

Асноўнай формай правядзеньня спаборніцтва ў нашай акрузе зьявіліся соцыялістычныя дагавары, якія заключаны былі ўсімі прадпрыемствамі, уступіўшымі ў спаборніцтва, пры чым гэтыя дагавары заключаліся як унутры прадпрыемства, між цэхамі („Днепр“, Палесдрук,

шчацінная фабрыка), так з іншымі прадпрыемствамі акругі, іншых гарадоў, падшэфнымі вайсковымі часткамі і вёскамі.

Па шэрагу прадпрыемстваў організаваны ўдарныя (узорныя) брыгады моладзі, у якія ўключаюцца і дарослыя рабочыя.

Па ініцыятыве саміх рабочых па шэрагу прадпрыемстваў зьніжаны расцэнкі, напрыклад, Палесдрук, шчаціннай і швэйнай фабрыках—4%, чыгунцы 3-і вучастак цягі—група рабочых па выкліку рабочых экіпажнай групы, якая зьнізіла расцэнкі на 5%—зьнізіла на 7%; на заводзе „X Кастрычнік" група рабочых па загатоўцы экспортных скрынь, перакапаўшыся на факце ў высокіх расцэнках на сваёй працы, падала заяву аб зьніжэньні расцэнкі на 7%, абяцаючы ўзьняць за кошт гэтага продукцыйнасьць працы. Аналёгічны выпадак мы маем на заводзе „Пролетар". Сярод рабочых на будавальных работах практыкавалася вывешваньне дошак з адзнакай руху выработкі, дэманстрацыя якасьці працы з паказаньнем па чыёй віне і г. д.

Асноўнымі недахопамі ў гэтай часьці зьяўляецца слабая популярызацыя сярод рабочых і ўдзел іх у заключэньні дагавароў і выклікаў, так, напрыклад, 3-й вучастак цягі Заходніх чыгунак, атрымаўшы адказ Жлобіна, не давёў да ведама рабочых і маса аб гэтым ня ведае. Назіраецца зацяжка, а часам нават больш месяцу („Днепр"), дзе дагавор заключаўся больш 3-х месяцаў.

Як добры вопыт, трэба адзначыць вылучэньне на шчаціннай фабрыцы „лятучых" брыгад, для праверкі прынятых на сябе абавязацельстваў па дагаворах і пэрыодычнай справаздачнасьці аб ходзе спаборніцтва па заводах „Днепр", „Герой Працы" і Палесдруку.

На шэрагу прадпрыемстваў вакол узорных брыгад не ствараецца грамадзкая думка. Зусім слаба разгортваецца спаборніцтва ўнутры прадпрыемстваў, так паміж варштатамі, брыгадамі, досыць часта заключэньне дагавароў трымае парадны характар.

Замацаваўшы існуючыя формы, неабходна цэнтр цяжару перанесьці у цэх, на варштаты з тым, каб у справу спаборніцтва былі ўцягнуты ўсе рабочыя.

### Кіраўніцтва партыйных і профорганізацый.

Партыйныя організацыі, галоўным чынам гарадзкія райкомы, колектывы і ячэйкі—калі ў першы час абмяжоўваліся абгаварэньнем і зацьвярджэньнем плянаў і мерапрыемстваў, вызначаных комсамольскімі організацыямі, за тым узмацнілі штодзённае кіраўніцтва, даючы адпаведны кірунак спаборніцтву. Добрускі райком з першага дня спаборніцтва распрацаваў конкрэтныя мерапрыемствы, там-жа паасобныя ячэйкі распрацавалі такія-ж пляны. Горрайком склікаў гарадзкую нараду профэсыянальных, гаспадарчых і парт-працаўнікоў. Партколектыў заводу „Двигатель Революции" гэтае пытаньне паставіў на нарадзе парторганізатараў з партчасткай „ударных" груп. Амаль усе горрайкомы Добруша ўжо правялі праверку ходу спаборніцтва.

Аднак, трэба адзначыць, што амаль ва ўсіх прадпрыемствах соцыялістычнае спаборніцтва ня стала цэнтральным зьвяном у сваёй працы. Вельмі мала займаюцца гэтым пытаньнем (ад выпадка да выпадка), абмяжоўваюцца агульнымі ўстаноўкамі. Так, напрыклад бюро ячэйкі фабрыкі „Труд" пасьля абмеркаваньня гэтага пытаньня выносіць рэзолюцыю: „партактыву прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні соцыялістычнага спаборніцтва".

Ячэйка шчаціннай фабрыкі за ўвесь час спаборніцтва толькі адзін раз абгаварвала гэтыя пытаньні на пасяджэньні бюро партячэйкі.

Цэхавыя ячэйкі заводаў „Днепр“ і „Х Кастрычнік“ абмяжоўваліся ўстаноўкамі і ў штодзённай працы не правяраюць выкананьня дадзеных імі-ж дырэктыў.

У шэрагу прадпрыемстваў мы маем дрэнныя адносіны комуністых да спаборніцтва. Так, на Добрускай фабрыцы паасобныя члены партыі замест таго, каб быць пачынальнікамі ў гэтай справе, выступалі супроць узьняцьця продукцыйнасьці працы. На бровары ў Нова-Беліцы комуністыя Кагаíоўскі і Фрыдляндэр выступалі супроць організацыі ўзорнай брыгады з мотывам, „што гэта парушае пролетарскую солідарнасьць“. На шчацíннай фабрыцы з боку паасобных комуністых былі заявы, што соцыялістычнае спаборніцтва праводзіцца на нашай скуры і іншыя падобныя заявы. Ячэйкі ў гэтых выпадках сваячасова і як трэба не рэагавалі.

Слаба падрыхтваны да спаборніцтва аказаўся профактыў. На некаторых прадпрыемствах члены праўленьняў саюзаў, фабкомаў мала орыентуюцца ў пытаньнях спаборніцтва і досыць часта шэраговыя рабочыя ў гэтым пытаньні ідуць наперадзе актыву. На заводзе „Пролетар“ да апошняга часу фабком у спаборніцтве амаль ніякага ўдзелу ня прымаў.

### Вытворчыя камісіі і нарады не перабудаваліся.

Але адным з галоўных недахопаў зьяўляецца тое, што вытворчыя камісіі і нарады, якія павінны зьяўляцца асноўнымі кіраўнікамі спаборніцтва, да гэтага часу не прыстасавалі сваю працу да задач спаборніцтва. Гэта сьцьвярджаюць усе таварышы, якія прымалі ўдзел у абсьледваньні прадпрыемстваў. На 3-м вучастку цягі нават у вылучаны штаб па спаборніцтву (між іншым ён быў вылучан пры габінэце начальніка вучастку) не ўвайшоў прадстаўнік вытворчай камісіі і да гэтага часу вытворчыя камісіі і нарады пытаньнем спаборніцтва не займаліся. Такое-ж становішча на заводзе „Днепр“ і „Х Кастрычнік“. Да гэтага часу гэтым пытаньнем яшчэ займаюцца вылучаныя ў цэхах тройкі па спаборніцтву. У Добрушу на цэхавых вытворчых нарадах пытаньні спаборніцтва ня ставіліся, ня гледзячы на тое, што яны не адзін раз ставіліся на цэхавых агульных сходах.

Уся праца па спаборніцтву ня ўвязваецца з праведзеным аглядам вытворчых нарад. Шэраг рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, якія праводзяцца, праходзяць бяз удзелу ў іх рабочых і без абгаварэньня на вытворчых нарадах. Так, напрыклад, на фабрыцы „Везуві“, у макальным аддзяленьні апаратным парадкам была праведзена рацыяналізацыя макальнага аддзяленьня. Вытворчыя камісіі ня ўжываюць патрэбныя меры да правядзеньня ў жыцьцё прынятых прапаноў і не інфармуюць рабочых аб ступені выкананьня.

Трэба адзначыць, што ВКК, для якіх поле дзейнасьці магло-б зараз яшчэ больш узмацніцца, амаль зусім не праяўляюць жыцьця. У шэрагу прадпрыемстваў штабы і тройкі яшчэ існуюць і ў профработнікаў ёсьць сумненьне наконт іх роспуску і ўзяцьця ўсяго кіраўніцтва профорганізацыяй праз вытворчыя нарады. Гэта сьведчыць аб тым, што многія разумеюць яшчэ гэтую працу, як чарговую кампанію.

### Комсамольскія ячэйкі адыйшлі крыху ў бок.

Як і па ўсяму Саюзу і ў нашай акрузе ініцыятарамі ў соцыялістычным спаборніцтве быў комсамол. Па ініцыятыве комсамольскіх райкомаў і ячэек рабочая маса ўступіла ў спаборніцтва. З комсамольцаў былі організованы ўзорныя брыгады, групы і г. д. Яны, бязумоўна,

вельмі многа далі. Пераход спаборніцтва ў рукі профорганізацыі не азначае, што комсамол павінен адыйсьці ў бок, а ён павінен быў прадаўжаць замацоўваць дасягненьні і быць пастаянным актыўным удзельнікам. На справе мы маем некаторае паслабленьне. У шэрагу прадпрыемстваў комсамольскія ячэйкі адышлі ў бок—мы сваю справу зрабілі. „Увага з боку комсамольскіх ячэек паслабла. З боку паасобных парт'ячэек таксама праяўляюцца ненормальныя адносіны. Так, напрыклад, на заводзе „Двигатель Революции" некаторыя партыйцы лічылі: „што выклікаць на спаборніцтва дарослых рабочых павінны толькі дарослыя рабочыя". Парт'ячэйкі не ўцягваюць комсамольскія ячэйкі ў гэтую працу, досыць часта ігноруючы іх. Гэта павінна быць безадкладна ўхілена.

## Гаспадарчыя організацыі не перабудавалі сваёй працы.

Ужо першыя вынікі разгортваньня социялістычнага спаборніцтва паказваюць, што гаспадарчыя організацыі не перабудавалі свае пляны да тэй інтэнсыўнасьці працы і ўзмацненьня тэмпу работы, які выяўлен пад час спаборніцтва. Рабочыя характэрызуюць гэтае становішча наступным чынам: „мы ўздымаем прадукцыйнасьць працы, выконваем узятыя на сябе абавязацельства, а з боку гаспадарчых органаў ня ўжываюцца меры да стварэньня патрэбных умоў для нормальнага разгортваньня спаборніцтва". Гэта зусім слушныя заявы. Усюды ў выніку павялічэньня выработкі заўважаецца няўвязка ў працы паміж цэхамі. На заводзе „Пролетар" заводакіраўніцтва прапанавала рабочым сьлясарнага цэху зрабіць больш павольны тэмп сваёй працы, бо другі цэх не спраўляецца.

На Добрускай фабрыцы пасьля павялічэньня хуткасьці самачэрпак (папярова-дзелальныя машыны) сярэдняя сутачная выработка іх павялічылася на 50%. У сувязі з гэтым трэба было прыстасаваць іншыя аддзелы да павялічанай на многа выработкі самачэрпак. Гэтай справай не заняліся і ў выніку стварыліся залежы ў колькасьці 600 тон паперы на суму 275.000 р. Гэта пры наяўнасьці папяровага голаду і пры неабходнасьці мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў прамысловасьці.

На лесазаводзе „Соцыялізм" адсутнічала ўвязка паміж цэхамі, што прыводзіць да затрымак у вытворчасьці. Тое самае мы маем і на запалкавай фабрыцы „Х Кастрычнік". Амаль па ўсіх прадпрыемствах адсутнічаюць конкрэтныя пляны рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў. У шэрагу мясцоў павялічыліся прастоі па тэхнічных прычынах. Гэтае становішча становіцца небясьпечным зьявішчам і калі ня ўхіліць усе гэтыя недахопы—яны могуць прывесьці да больш адмоўных вынікаў.

Як зусім недапушчальнае зьявішча, трэба адзначыць, што досыць часта гаспадарнікі ня толькі ня ўжываюць меры да накіраваньні ініцыятывы, але досыць часта аказываюць процідзеяньне. Характэрным тут зьяўляюцца наступныя факты: на фабрыках „Днепр" і „Везувій" гаспадарнікі давялі да ведама мас аб немагчымасьці выкананьня вытворчых програм. На фабрыцы „Днепр" гаспадарнікі пры падтрыманьні вытворчай камісіі прапанавалі замацаваць існуючую зараз у зьёмным аддзяленьні норму выработкі, якая на 30% зьяўляецца ніжэй, чымся ў сакавіку і красавіку. Рабочыя самі ў гэтых выпадках павінны былі адхіляць такія ўстаноўкі. Гэта сьведчыць аб разьбежцы паміж энтузіязмам і ініцыятывай рабочых мас і прыстасаваньнем працы з боку гаспадарчых органаў.

### Інжынэрна-тэхнічныя сілы ў працу ня ўцягнуты.

Інжынэрна-тэхнічныя сілы да гэтага часу яшчэ не ўцягнуты ў актыўны ўдзел па соцыялістычнаму спаборніцтву. На Добрускай фабрыцы быў праведзен вечар спатканьня рабочых з інжынэрна-тэхнічным пэрсоналам, але гэта таксама яшчэ ня дало практычных вынікаў працы. Галоўнае заключаецца ў тым, што інжынэрна-тэхнічныя сілы ўзялі на сябе яшчэ дадатковае абавязацельства ў справе праяўленьня ініцыятывы.

### Соцыялістычнае спаборніцтва ня стала цэнтрам у нашай культурна-масавай працы.

Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва залежаць і ад таго, наколькі пытаньне спаборніцтва, вытворчага выхаваньня стануць цэнтрам ва ўсёй праводзімай намі культмасавай працы. Усе нашы культурна-асьветныя організацыі, галоўным чынам, рабочыя клюбы, павінны дапамагчы рабочаму стаць актыўным сьвядомым удзельнікам соцыялістычнага спаборніцтва.

У гэтых адносінах менш за ўсё зрабілі нашыя клюбы, куткі, інтэрнаты, зусім слаба і ў некаторых мясцох („Везуві", „Днепр") зусім не адбіваюць у сваёй працы пытаньня вытворчасьці. Абмежаваньне праведзенымі сходамі ў парадку мітынгаў і гутарак ня будуць мець адпаведных вынікаў, калі гэта ня будзе замацована ў штодзённай культурна-масавай працы. Трэба адзначыць, як добры прыклад, Добрускую фабрыку, якая працу клюба прыстасавала да ўмоў спаборніцтва, шляхам правядзеньня вечароў, прысьвечаных соцыялістычнаму спаборніцтву, вывешваньне дыяграм і плякатаў сваёй вытворчасьці, правядзеньне вечароў сустрэчы з інжынэрна-тэхнічным пэрсоналем, пастаноўкай у клюбах дакладаў на вытворчыя тэмы і г. д.

### Савецкія ўстановы абмежаваліся „агульнай устаноўкай".

У справе соцыялістычнага спаборніцтва не малое поле дзейнасьці ёсьць і ў працы савецкіх устаноў. Змаганьне за ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны, рацыяналізацыя апарату, лепшыя абыходзіны з наведвальнікамі, хуткасьць і гібкасьць працы апарату павінны былі стаць асноўным стрыжнем у спаборніцтве ў установах. Аднак, профорганы і парторганы савецкіх устаноў да гэтага часу далей слоў, агульных установак і выклікаў не пайшлі. Старшыня Рэчыцкага мясцкому працасьветы на пытаньне, што вамі зроблена ў гэтых адносінах?—адказаў: „мы далі агульную ўстаноўку". Паасобныя ўстановы спрабуюць разгарнуць спаборніцтва абежнікамі згары.

### Колгасы, саўгасы і вёска яшчэ не раскачаліся.

За выключэньнем паасобных саўгасаў і колгасаў мала зроблена ў справе ўцягненьня ў спаборніцтва ўсяго соцыялістычнага сэктару вёскі і менш за ўсё спаборніцтва ў бядняцкіх, серадняцкіх гаспадарках. Раённыя камітэты партыі і вясковыя парт'ячэйкі да гэтага часу не прыступілі да конкрэтнай прапрацоўкі гэтага пытаньня і выкананьня партдырэктыў аб разгортваньні спаборніцтва ў вёсцы. Зусім гэтай справай не займаюцца профсаюзныя організацыі і шэфствуючыя прадпрыемствы гораду.

Практыка правядзеньня спаборніцтва ў некаторых саўгасах дала станоўчыя вынікі. Так, саўгас „Рогін", Буда-Кашэлеўскага раёну, па

выкліку саўгаса „Пірэвічы“, Бабруйскай акругі, пашырыў плошчу яравога кліну на 39 гектараў, вытворчасьць працы на аднаго рабочага ўзьнялася з 0,99 гектараў да 0,34 гектараў. Зусім зжыты прагулы. Саўгас „Уравічы“ пашырыў яравы клін за кошт цаліны—раскарчоўка на 6,5 гэктара, выкарчаваны лугавыя ўзгодзьдзі—11 гектараў. Продукцыйнасьць працы павялічылася. Слаба праводзіцца растлумачэньне спаборніцтва сярод рабочых саўгасаў і амаль зусім адсутнічае растлумачальная праца ў вёсках на бядняцка-серадняцкіх сходах. Нічога ня зроблена ў гэтых раёнах па колгасах.

У вёсцы, такім чынам, гэтую справу трэба яшчэ разварушыць.

## Друк і насьценгазэты ў спаборніцтве.

Трэба адзначыць, што ў большасьці прадпрыемстваў насьценныя і друкаваныя газэты адыгралі вялікую ролю ў прыцягненьні ўвагі рабочых мас і асьвятленьні станоўчых і адмоўных момантаў. На заводзе „Пролетар“, „Днепр“, „Голас Швэйніка“, газэта Палесдруку цалком прысьвечана соцыялістычнаму спаборніцтву. На шчацiннай фабрыцы за паўгода было выдадзена 7 лістовак, спэцыяльна прысьвечаных соцыялістычнаму спаборніцтву і 3 насьценных газэты. „Палеская Праўда“ пытаньнем спаборніцтва зьвяртала досыць увагі; выдаюцца некалькі раз на тыдзень цэлыя старонкі. Аднак, на некаторых прадпрыемствах насьцэнгазэты маўчаць і не адбіваюць гэтае пытаньне.

## Першыя вынікі спаборніцтва ў лічбах і фактах.

Узьнятая актыўнасьць рабочых мас у соцыялістычным спаборніцтве, ня гледзячы на шэраг буйных недахопаў, аказала свой уплыў на ўзьняцьце продукцыйнасьці працы, палепшаньне працоўнай дысцыпліны і зьніжэньне сабекошту. Прывядзем некаторыя даныя:

*Узьняцьце продукцыйнасьці працы* і павялічэньне выработкі продукцыі на Добрускай фабрыцы выражаецца ў павялічэньні выработкі ў суткі з 37 да 45 тон у сярэднім у суткі. Вытворчасьць працы ўзьнялася на 3,21%; на лесазаводзе „Соцыялізм“ на 5,93%; на бровары Нова-Беліца на 20%; на заводзе „Чырвоны Хэмік—31%; на фабрыцы „Труд“ у сакавіку выканана вытворчая програма на 100%; на шчацiннай фабрыцы продукцыйнасьць працы на 10%; на фабрыцы „Чырвоны Кастрычнік“ у сакавіку на аднаго чалавека выработка дасягала 16,8 кілёграм, а ў красавіку—20,4 кілёграма. На швэйнай фабрыцы рост продукцыйнасьці па выработцы сюртукоў на 41%, штаноў—25%. Адстаюць у гэтых адносінах фабрыкі запалак.

*Зьніжэньне сабекошту.* У гэтай частцы ёсьць таксама некаторае дасягненьне. Так, напрыклад, на фабрыцы „Труд“ сабекошт зьніжан ў красавіку на 9%, а ў маі масяцы на 11%, зьніжэньне, галоўным чынам, адбывалася за кошт рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў. На фабрыцы „Прасьвет“ на 5,92%, на Добрускай фабрыцы—6,80%, лесзаводзе „Соцыялізм“ на 5,46%. На заводзе „Двигатель Революции“—2,6%, фабрыцы запалак „Кастрычнік“—11,4% (замест прадугледжаных промфінпланам—17,53%), лесзаводзе „Колтруд“—6%, у агульнай суме экономія за першае паўгодзьдзе дае 330.474 руб.

## Становішча працоўнай дысцыпліны.

Кожнае прадпрыемства, якое ўступіла ў соцыялістычнае спаборніцтва, узяло ня сябе „колектыўную адказнасьць перш за ўсё за ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны“, за стварэньне соцыялістычнае куль-

турнае працы ў вытворчасьці. Гэтым самым кожнае прадпрыемства абавязалася безадкладна ліквідаваць прогулы па няўважлівых прычынах, весьці рашучую барацьбу з спазьненьнямі, дачасным уходам, дарэмным хаджэньнем, непадначаленьнем і ігнараваньнем указаньняў гаспадарчых органаў.

Даныя, якія сабраны намі па 21 найбольш буйных прадпрыемствах па пытаньнях аб прагулах паказваюць, што фактычнае выкананьне гэтага абавязацельства наступнае. Пры агульным зьніжэньні прагулаў у параўнаньні з 1928 г., якія ў першым квартале 1929 г. складаюць 2207 рабочых дзён, або 0,39%, а за красавік месяц 449 дзён, ці 0,20%, пры чым на паасобных прадпрыемствах прагулы па няўважлівых прычынах маюць нават некаторы рост, напрыклад, завод „Колтруд“ да 1928 г. прагулы складалі—0,40%, а за першы квартал 1929 г.—0,43%, завод імя Томскага—0,16%, 0,24%, фабрыка „Труд“—0,31%, 0,32%, шчацінная фабрыка—0,23, 0,44%, Палесдрук—0,44%, 0,59% і г. д.

Калі-ж узяць даныя аб прагулах за красавік месяц і супаставіць іх з першым кварталам 1929 г. то мы атрымаем стабільнасьць прагулаў на фабрыцы „Днепр“0,38% і заводу „Чырвоны Хэмік“—0,1%, фабрыцы цукерак—0,01% і павялічэньне па шчацінnай фабрыцы—0,44% да 0,69%.

З гэтага трэба зрабіць вывад, што абавязацельства безадкладнага рашучага зьнішчэньня прагулаў па няўважлівых прычынах намі яшчэ ня выканана, хоць у параўнаньні з мінулам годам, дзе гэтыя прагулы складалі 3,5%, мы маем рашучы зрух у бок узмацненьня працоўнай дысцыпліны.

Трэба прызнаць, што выпадкі спазьненьня на працу ці дачасных уходаў, а таксама хаджэньня без патрэбы па вытворчасьці ў сучасны момант складаюць рэдкае выключэньне, якое падпадае жорсткаму прасьледваньню з боку саміх рабочых.

Меўшы месца па шэрагу прадпрыемстваў перагляд правіл унутранага распарадку у бок зьнішчэньня ўзаконеных 10 ці 15 хвілін спазьненьня—зьяўляецца лепшым доказам сьвядомых адносін да працы на прадпрыемстве. Трэба думаць, што гэтыя адносіны да працоўнай дысцыпліны будуць яшчэ больш замацованы ў другім паўгодзьдзі бюджэтнага году, канчаткова зьнішчыўшы ўсе адмоўныя факты.

Пры значным зьмяншэньні прагулаў па няўважлівых прычынах, мы адначасова маем нязначнае памяншэньне прагулаў наогул. Так, напрыклад, з 13% ці 275.632 рабочых дзён у 1928 г. да 9,4% ці 52.574 раб. дзён у першым квартале 1929 г. і 7,8% ці 17.131 рабочых дзён у красавіку бягучага году. Гэта сьведчыць аб тым, што гэтым вучасткам гаспадарчыя органы не займаліся. Профорганы і рабочыя не вывучалі прычын такога вялікага проценту траты рабочага часу, не аналізавалі прычын гэтага зьявішча. Вытворчыя камісіі і вытворчыя нарады разам з гаспадарчымі органамі павінны цяпер-ж выясьніць прычыны гэтых прагулаў з тым, каб іх максымальна скараціць.

Такое становішча, калі мы знаходзімся досыць даўгі пэрыод без тэхнічнай інспэкцыі, трэба прызнаць у вялікай ступені ненормальным. Фактычнае становішча тэхнікі небясьпечнасьці на прадпрыемствах ні ў якім выпадку не дазваляе нам заставацца надалей у такім становішчы. Інспэкцыя працы павінна ў самы кароткі тэрмін паклапаціцца вывучэньнем становішча тэхнікі забясьпечнасьці на прадпрыемствах, бо па недахопах, якія адносяцца да прычын парушэньня гэтых абавязацельстваў, прагулы досыць частыя.

У аднолькавай ступені і санітарная інспэкцыя павінна больш рашуча ажыцьцяўляць свае мерапрыемствы, бо па шэрагу прадпрыемстваў і да гэтага часу няма элемэнтарна-неабходнага.

Паміма гэтых афіцыйных прагулаў, трэба катэгарычна настаіваць перад гаспадарчымі органамі аб фіксацыі прагулаў па прычынах прастою як прадпрыемстваў, так раўна і цэхаў ці паасобных рабочых.

Гэтыя прагулы, ня гледзячы на шматлікія паказаньні, ня ўлічваюцца гаспадарчымі органамі, хоць яны складаюць таксама вялікі процант і патрэбна стараннае вывучэньне для іх папярэджаньня.

**Завастрыць увагу на недахопах.**

Аднак, трэба адзначыць і асабліва завастрыць увагу ўсіх організацый на тое, што партыйныя дырэктывы ў адносінах 7% зьніжэньня сабекошту паасобных прадпрыемствах ня выкананы, а ў сярэднім па акрузе за першае паўгодзьдзе 1928-29 гаспадарчага году мы маем зьмяншэньне толькі на 3,65%. У некаторых прадпрыемствах ёсьць нават некаторае павялічэньне сабекошту („Везуві" на 0,94%, „Днепр" на 0,42%). Асабліва патрэбна самую сур'ёзную увагу зьвярнуць на якасьць продукцыі, так, на фабрыцы „Гэрой працы" і швэйнікаў, фабрыцы „Труд" і інш. з-за пагоні за колькасьцю значна пагоршылася якасьць продукцыі.

На фабрыцы „Труд" у выніку дрэннае якасьці прышлося перарабляць 140 пар абутку.

Ненормальным зьяўляецца тое, што ў большасьці прадпрыемстваў рост зарплаты пераганяе рост вытворчасьці, рост продукцыйнасьці працы ці нязначна перавышае зарплату. Так, на фабрыцы „Гэрой Працы" у першым паўгодзьдзі вытворчасьць працы ўзрасла на 3,2%, зарплата на 9,3%. На заводзе „Адраджэньне" продукцыйнасьць узрасла на 1,1%, рост зарплаты на 2,4%; на заводзе „Двигатель Революции" у першым паўгодзьдзі 1928-29 г. продукцыйнасьць працы перавысіла ўзровень продукцыйнасьці за 27—28 г. на 8%, пры росьце зарплаты на 11 процантаў.

Такім чынам, партыйныя і ўрадавыя дырэктывы ў адносінах росту зарплаты і продукцыйнасьці працы выконваюцца зусім слаба.

**Некаторыя вывады.**

Вакол спаборніцтва ўзрасла актыўнасьць рабочых мас, і вялікае імкненьне на выкананьне задач, якія стаяць перад краінай у галіне соцыялістычнага будаўніцтва. У адпаведнасьці з гэтым профсаюзныя і гаспадарчыя організацыі не перабудаваліся і не прыстасавалі сваю працу да разгортваньня ініцыятывы ў соцыялістычным спаборніцтве. Партыйныя організацыі яшчэ ня ў поўнай меры падышлі да кіраўніцтва сыстэматычнага, комуністыя ў паасобку яшчэ не сталі пачынальнікамі спаборніцтва.

Пытаньні спаборніцтва ня сталі цэнтрам цяжару ва ўсёй правадзімай культурна-масавай працы.

Яшчэ няма конкрэтных мерапрыемстваў на замацаваньне першых вынікаў прыняцьця ўсіх мер да ўхіленьня маючых месца недахопаў.

На ўхіленьне гэтых недахопаў павінна быць мобілізавана ўвага ўсіх організацый.

Сухараў.

## Больш увагі вылучэньню.

У сучасны момант адбываецца вялікая перабудова шэрагаў партыі савецкага коопэрацыйнага, гаспадарчага і профсаюзнага апарату. Таму цяпер як ніколі востра стаіць пытаньне аб вылучэньні—стварэньні рэзэрву вылучэнцаў і праца з вылучэнцамі.

Між тым, рэзэрву вылучэнцаў амаль зусім няма. Таму ў сувязі з чысткай партыі і савецкага апарату сустракаюцца вялікія цяжкасьці пры замене вычышчаных. Ачыстка ўносіць цэлую рэволюцыю ў апараце. Вылучэньне новых працаўнікоў асабліва зьяўляецца цяжкім для вясковых організацый. Там пры падборы вылучэнцаў назіраецца некаторая тэндэнцыя вылучаць асоб наогул больш здольных і падрыхтаваных. Мала ўлічваецца іх соцыяльнае становішча. Таму сярод вылучэнцаў значная прапластоўка служачых, заможных і нават кулацкіх элемэнтаў.

Для гэтага часу вылучэнства па Бабруйскаму раёну абмяжоўвалася пераважна партыйцамі і ў некаторай ступені комсамольцамі. І амаль зусім не праводзілася за кошт беспартыйнага актыву. Тлумачыцца гэта тым, што намі слаба вывучан беспартыйны актыў; ён не знаходзіцца у нас на вучоце, як рэзэрв для вылучэньня. Нядаўна былі праведзены перавыбары ўсіх організацый і мы не пасьпелі вывучыць абноўлены актыў. У зьвязку з адсутнасьцю рэзэрву вылучэнцаў, вылучэньне адбываецца па меры патрэбы, насьпех. Таму бываюць няўдачы. Некаторыя ячэйкі праяўляюць „месьнічаства“, стараюцца прысунуць сваіх, а некаторыя пад выглядам вылучэньня стараюцца пазбавіцца ад непажаданых для сябе таварышоў.

Вылучаным таварышом нялёгка ўмацавацца на іх пасадах, куды іх паставілі ў складаных умовах напруджанай працы па соцыялістычнаму будаўніцтву.

Заняцца сур'ёзным абучэньнем нанова вылучанага актыву ва ўмовах сельскага раёну амаль немагчыма. Калі хто з вылучаных і займаецца тэорэтычнай вучобай, то вобмацкам, сам, саматужным спосабам выбірае шляхі і мэтод сваёй вучобы. Так, напрыклад, рабочы-вылучэнец дырэктар лесзаводу вывучае тэхнолёгію дрэва па спэцыяльнаму падручніку бяз усякага кіраўніцтва з боку; раней даваў паасобныя тлумачэньні тэхнічны кіраўнік, але цяпер ён сядзіць у Допры. Другі рабочы, вылучаны старшынёй рабкопу, ня мог паехаць на акруговыя коопэрацыйныя курсы таму, што на гэты час ня было каму здаць справы коопэратыву.

Селянін-партыец тав. Саўчанка, высунуты старшынёй сельскагаспадарчай крэдытовай коопэрацыі, зусім ня вучыўся гэтай справе, таму ня мае практыкі, і, баючыся праваліцца, ня прымаецца часам нават за выгодную опэрацыю. З беднатой мае сувязі, так ён зрабіў тры даклады аб працы таварыства на сходах беднаты, але ў ячэйцы даклады яго ня ставіліся.

Пры адсутнасьці адпаведных ведаў вылучэнец у першы час стараецца усё ахапіць адразу. Прымае на сябе многа непасрэдных опэрацыйных функцый, бо ня ўмее кіраваць сваімі падначаленымі. Таму ён страшэнна перагружаны сваёй асноўнай працай. Справа даходзіць да таго, што ня мае часу прачытаць газэту.

Звычайна вылучэнец зьяўляецца партыйным актывістым і бязьлітасна нагружаецца парт-абавязкамі, што паглыбляе яго загружанасьць, робіць больш цяжкім для яго выкананьне асноўнай працы і абучэньне справе, на якую яго паставілі. Гэта ня значыць, што вылучэнцаў зусім ня трэба скарыстоўваць на агульнай парт-працы, але неабходна больш уцягваць у грамадзкую працу новы актыў, вызваляючы вылучэнцаў.

Ёсьць і іншага парадку зьявішчы, калі таварыша вылучаюць без улічэньня яго нахілу і супроць жаданьня вылучацца. Вылучэнец застаецца бяз працы. Асабліва калі за ім няма назіраньня і кіраўніцтва. Спэцы, бачачы ў вылучэнцах сваіх конкурэнтаў, імкнуцца не дапусьціць іх да працы і не перадаюць сваіх навыкаў, імкнучыся пры скарачэньні штатаў зусім пазбавіцца ад іх. Такім чынам, усе рабочыя вылучэнцы Бабруйскага вучастку Лесбелу „былі засунуты“ назад на свае прадпрыемствы.

Цяжка справіцца з працай вылучэнцаў і ў тым выпадку, калі яго ставяць на кіруючую працу, бо навучаючыся ў беспартыйных спэцаў і іншых апаратных працаўнікоў у гэты-ж час трэба імі кіраваць. Тут адбываецца захаванае змаганьне, хто кім павінен кіраваць. У першы час часта бывае, што ні кіраўнік (вылучэнец) кіруе апаратам, а апарат кіруе ім. Партыйныя, гаспадарчыя і профсаюзныя організацыі павінны дапамагаць вылучэнцу падбіраць лепшы апарат.

Такое становішча прымае зацяглы характар у тым выпадку, калі ні профсаюз, ні парт-ячэйка (ці райком) не дапамогуць адпаведным чынам і кіраўніцтвам. Нярэдкі выпадкі, калі паасобныя партыйцы, ня кажучы ужо аб беспартыйных, нават перашкаджаюць, праяўляючы не падначаленьне, рвачаства, ня выконваюць загадаў, умешваюцца ў адміністрацыйныя функцыі, карыстаючыся слабасьцю новага адміністратара. Профорганізацыі часам цягнуцца ў хвасьце мас, не аказваюць адпаведнай дапамогі гаспадарніку ў наладжваньні кіраўніцтва прадпрыемствам і ўзьняцьці працоўнай дысцыпліны.

Об‘ектыўныя цяжкасьці ў коопэрацыйнай працы (безтавар‘е) шкодныя несьвядомыя элемэнты тлумачаць як няўменьне працаваць вылучэнца, падрываюць яго аўтарытэт, кажучы: „пакуль працаваў стары працаўнік, усяго хапала, а як паставілі вылучэнца, нічога ня стала ў коопэрацыі“. У сапраўднасьці-ж вылучэнцы, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, паляпшаюць працу.

Важны момант, як прымае справы вылучэнец і як знаёмяць яго з справамі яго папярэднікі. Цяпер часта вылучэнцам прыходзіцца прымаць справы пасьля выкрыцьця гнойніка, ці што-небудзь накшталт гэтага. У такіх выпадках ня толькі разладжана справа, але ніякай няма прыемлемасьці ў сэнсе перадачы хоць якой-небудзь практыкі. Адзін вылучэнец скардзіцца: „Пры прыёме лясьніцтва спэц стараўся падсунуць на подпіс розныя ведамасьці без праверкі“.

Вышэйстаячыя органы і асобы таго ведамства, дзе працаваў вылучэнец, мала клапоцяцца аб тым, каб навучыць вылучэнца эразумець „мудрасьць“ кіраваньня. Дырэктар даў указаньні як працаваць толькі першы дзень, а затым гаворыць: „ты дзесятнік, улада твая і рабі як ведаеш“. Старшыня рабочага коопэратыву расказвае, што ў ячэйцы дапамагаюць, але часам гавораць: ды што ты ня можаш нажаць, ці што... Вылучэнец заўкому скардзіцца: „з боку ячэйкі прад‘яўляюцца

грубыя патрабаваньня выкананьня абавязкаў, ня ўлічваючы ўмоў працы вылучэнца. Гаворацъ, што трэба зрабіць, але ня скажуць як". Пасьля вылучэньня старыя працаўнікі апарату разьехаліся, працы многа. Наўкола вылучэнцы, якія не напрактыкованы ў працы. Няма з кім параіцца. Карыстаючыся слабасьцю заўкому, адміністрацыя дапускае парушэньне інтарэсаў рабочых. Цяжкасьці бываюць у сувязі з вялікай канцэляршчынай і няўменьнем яе весьці.

Вылучэнец у першы час у сваёй працы ня можа праявіць адпаведнай ініцыятывы і настойлівасьці ў пастаноўцы пытаньня перад партыйнымі органамі і ведамственным начальствам. Патрэбна асаблівая ўважлівасьць і чуласьць да вылучэнца, калі ён за чым-небудзь зьвяртаецца. Трэба часьцей заслухоўваць яго даклады ў партыйных органах.

Б. Шпітальнік.

# Патрэбен рашучы пералом.

*(Мазыр).*

Перавыбары савецкіх парт'ячэек, якія скончыліся нядаўна, і праведзенае абсьледваньне іх работы да пачатку перавыбараў паказалі, што асаблівага пераломму ў іх рабоце па практычнаму праламленьню дырэктыў ЦК КП(б)Б (сьнежань 1928 году) няма.

„Ажыцьцяўленьне лёзунгу самакрытыкі—гаворыцца ў рашэньні сакратарыяту ЦК КП(б)Б—у практычнай працы савецкіх ячэек павінна быць накіравана, у першую чаргу, на барацьбу з бюракратызмам і іншымі недахопамі апарату, на безбаязьненае ўскрыцьцё і своечасовую ліквідацыю гэтых недахопаў, мабілізуючы дзеля гэтага актыўнасьць усіх членаў партыі, камсамольцаў і беспартыйных супрацоўнікаў. Шырока скарыстаць для гэтага друк, насьценныя газэты, сходы, супрацоўнікаў, асаблівую ўвагу ўзяўшы на ўзмацненьне працы эканомкамісій і эканомнарад, як асноўнай арганізацыйнай формы ўдзелу масы служачых у справе паляпшэньня працы савецкага апарату".

У рашэньнях XVI усесаюзнай партканфэрэнцыі, па пытаньню аб выніках і бліжэйшых задачах барацьбы з бюрократызмам, гаворыцца: „Савецкія ячэйкі павінны стаць актыўнымі барацьбітамі ў справе паляпшэньня дзяржаўнага апарату і зьнішчэньня ўсялякіх праяў бюрократызму, згуртоўваючы членаў партыі, якія працуюць у дзяржаўным апараце, на падставах партыйнасьці і адпору разлагаючаму членаў партыі ўзьдзейнічаньню чыноўнічых элемэнтаў".

Як-жа вось гэтыя дырэктывы знайшлі сваё практычнае праламленьне ў працы савецкіх парт'ячэек горада Мазыра. Яшчэ ў лістападзе месяцы 1928 году, інструктар ЦК КП(б)Б у сваіх вывадах па абсьледваньню работы савецкіх ячэек адзначыў, што пытаньне барацьбы з бюрократызмам у працы ячэек не набыло яшчэ тэй актуальнай значнасьці, якую трэба было яму адвесьці; што ў пастановах ячэек па справаздачах бюро значыцца: „вясьці рашучую барацьбу з бюрократызмам", у радзе выступленьняў партыйцаў на сходах адзначаецца: „што ў нас ёсьць бюрократызм", але аб тым, як вясьці барацьбу з бюрократызмам, як у гэтую справу ўцягнуць шырокія масы, ні адна парт'ячэйка не прапрацавала.

Ячэйка Акрвыканкому пачала была праводзіць „барацьбу" з бюрократызмам. Была вылучана камісія, якая правяла абсьледваньне ў аб'яднаемых ячэйкай установах, як апарат адносіцца да наведвальнікаў, як іх абслугоўваюць, знайшлі рад недахопаў і распрацавалі практычныя мерапрыемствы. Камісія прадставіла матар'ял на зацьвярджэньне бюро ячэйкі. Бюро ячэйкі зацьвердзіла матар'ял і.... прышыла да справы.

Самы характар пытаньняў, разгледжаных на пасяджэньнях бюро і на агульных сходах ячэек, гаворыць таксама аб тым, што пытаньні

барацьбы з бюрократызмам, паляпшэньні апарату не стаялі ў цэнтры ўвагі іх працы.

Вось характарыстыка разгледжаных пытаньняў у 3-х савецкіх ячэйках:

| Назва ячэйкі | Дзе разглядалася пытаньне (бюро яч. сход.) | Характар разгледжаных пытаньняў | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Унутры-партыйныя работы | Масавая работа | Профработа | Рацыяналізацыя апарату | Барацьба з бюрократызмам | Самакрытыка | Работа з вылучэнцамі | Каапэрацыйная работа | Нацпалітыка | Організацыйныя бягучыя пытаньні |
| Ячэйка АВК | На бюро . | — | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — | 18 |
| | „ Сходзе. | 1 | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — | 7 |
| Ячэйка Каапэрац. | На бюро . | — | — | 2 | 2 | — | — | 1 | 3 | — | 20 |
| | „ Сходзе. | 4 | — | 1 | 1 | — | — | — | 8 | — | 6 |
| Ячэйка Вайскова-міліцэйская | На бюро . | 1 | — | 4 | — | — | — | — | — | — | 14 |
| | „ Сходзе. | 4 | — | — | 1 | — | — | — | — | — | 5 |

Як бачым, з прыведзенай характарыстыкі разгледжаных ячэйкамі пытаньняў масавай працы зусім не вялі, аб барацьбе з бюрократызмам разгледжана толькі адно пытаньне ячэйкай АВК, якое было прышыта да справы.

Пытаньнямі разгортваньня самакрытыкі, як ужо відаць з прыведзенай характарыстыкі разгледжаных пытаньняў, ячэйкі не знайшлі патрэбным займацца, гэта мела свой адбітак у аб'яднаных імі ўстановах. Як агульнае зьявішча, самакрытыка ва ўстановах не разгорнута. Супрацоўнікі ўстаноў баяцца крытыкаваць „начальства", некаторыя не крытыкуюць з прычыны баязьлівасьці за сваю „скуру" і па гэтаму ствараецца „абывацельская" спайка для свае калектыўнае самаабароны.

Вось як некаторыя партыйцы-кіраўнікі ацэньваюць самакрытыку ва ўстановах. Сакратар парт'ячэйкі на запытаньне „ці ёсьць у вас выпадкі зажыму самакрытыкі", адказаў: „Калі ў нас няма крытыкі, дык няма і зажыму... Мы будзем адказваць за самакрытыку тады, калі будзе за што. Маса не кратыкуе, значыць у нас усё добра". Некаторыя дагаварваюцца да таго, што „той, хто ня хоча працаваць, дык яму здаецца, што ўсё дрэнна, ён і крытыкуе". Адзін адказны кіраўнік установы—партыец выразіўся так: „У нас (трэба лічыць на Мазыршчыне—Б. Ш.) няма чыстага пралетарыята (тэй ці іншы рабочы купляе сабе хатку) і пагэтаму ў нас ёсьць абывацельшчына ў самакрытыцы"...

Памыляецца сакратар ячэйкі, гаворачы, што „не крытыкуюць таму, што ўсё добра". Не крытыкуюць таму, што баяцца крытыкаваць, баяцца гаварыць аб памылках свайго „начальства", нарэшце, баяцца крытыкаваць, дзякуючы тэй атмосфэры, якая існуе яшчэ і дагэтуль у некаторых установах. Узяць хоць-бы такі прыклад, як кіраўнікі ўстаноў—партыйцы рэагуюць на зьмяшчаемыя заметкі ў насьценгазэтах. Яшчэ дагэтуль з насьценгазэтамі не жадаюць лічыцца, на іх глядзяць як на штосьці нікчэмнае, лішняе і непатрэбнае; нездарма насьценгазэты ва ўстановах (за маленькім выключэньнем) хварэюць на адну хваробу—яны выходзяць тады, калі набліжаецца вялікае сьвята.

Мы ўжо праводзім чыстку савецкага апарату. Трэба было, каб савецкія парт'ячэйкі стварылі шырокую грамадзкую думку навокал гэтага пытаньня, падняць на ногі ўвесь актыў, мабілізаваць насьценгазэты для падрыхтоўкі, асьвятленьня гэтых пытаньняў і рашучага разаблачэньня чужых, разлажыўшыхся элемэнтаў. Нават і тут не хапіла „пораху“, нават і ў гэтым пытаньні не праяўлена ніякай ініцыятывы і самадзейнасьці, не гаворачы ўжо аб тым, што цэлы рад кіраўнікоў устаноў ня лічылі патрэбным прыцягваць да складаньня характарыстык на асоб, якія падлягаюць чыстцы, камісіі садзейнічаньня. Калі ўглядзецца ў самыя гэтыя характарыстыкі, выходзіць, што няма каго чысьціць.

Пры праверцы і высьвятлілася, што некаторыя кіраўнікі ўстаноў слаба знаёмы з сваімі апаратамі. Калі аднаму кіраўніку ўстановы задалі пытаньне аб якасным складзе апарату, ён адказаў: „У зьвязку з тым, што характарыстыкі адасланы ў РСІ і копіі не засталіся, не магу сказаць нічога аб апараце“. Гэтае незнаёмства з сваім апаратам тлумачыцца тым, што цэлы рад адказных работнікаў-кіраўнікоў адарваны ад сваіх супрацаўнікоў, не наведваюць сходаў калектываў і не жадаюць перайсьці нават у той профсаюз, які на профкарце аб'яднае ўстанову.

Трэба адзначыць, што з боку ячэек ня была зьвернута выстарчальная ўвага рабоце эканомкамісій і нарад і прыцягненьню шырокіх саюзных мас да гэтай работы. Характэрныя заявы былі ў АВК, аддзеле аховы здароўя, дзе эканомкамісіі больш жыва працуюць, аб тым, што паасобныя партыйцы і цалкам парт'ячэйкі не дапамагаюць ім у працы. Тымчасам, адносіны раду кіраўнікоў да пастаноў эканомнарад няўважлівыя. Ячэйкі не займаліся падвядзеньнем вынікаў выкананьня дырэктывы аб зьніжэньні адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў на 20%, тымчасам, як у большасьці ўстаноў гэтая дырэктыва ня была выканана.

Некалькі слоў аб вылучэньні і рабоце з вылучэнцамі. Праслойка вылучэнцаў з рабочых і сялян у установах нязначная і зусім мала жанчын (работніц і сялянак). Ячэйкі стала работай па вылучэньню не займаліся, за выключэньнем *фармальнага* вызначэньня кандыдатур, калі АК прысылае номэнклятуру пасад для вылучэньня. Наадварот, дапамогі належнай у працы маючымся вылучэнцам ячэйкі не аказвалі, на што некаторыя вылучэнцы скардзіліся ў свой час.

Праведзеная характарыстыка работы савецкіх ячэек досыць красамоўна гаворыць за тое, што трэба зрабіць рашучы пералом у іх працы; што трэба работу іх накіраваць на выкананьне асноўных дырэктыў партыі. Трэба, каб савецкія партыйныя ячэйкі займаліся сталай работай па перавыхаваньню асабістага складу ўстаноў і вялі рашучую барацьбу з усялякімі праявамі бюрократызму, цяганіны, чыноўніцтва і г. д. У дырэктывах ЦК КП(б)Б аб рабоце савецкіх ячэек было адзначана: „ЦК асобна падкрэсьлівае важнасьць працы па перавыхаваньню асабістага складу савецкіх устаноў і прапануе партарганізацыям павесьці барацьбу з настроямі недаацэнкі і ігнараваньня некаторымі ячэйкамі масавай і выхаваўчай работы сярод беспартыйных супрацаўнікоў устаноў“.

Практычнае праламленьне гэтай дырэктывы неабходна асабліва ў сучасны момант, калі мы прыступаем да чысткі савецкага апарату, калі ў апарат увальлецца новая маса вылучэнцаў, і асабліва таму, што пры пасылцы новых работнікаў (з рабочых асабліва) у савецкія ўстановы мы чуем такія разважаньні—„чаго я пайду ў савецкую ўстанову працаваць,—не хачу быць бюрократам“.

Аднэй з вялікіх прычын слабай работы савецкіх ячэек зьяўляецца шматколькаснасьць аб'яднаных устаноў аднэй ячэйкай (10—15 устаноў), што не дае магчымасьці ячэйкам сканцэнтраваць сваю ўвагу на асноўных момантах работы і больш стала правяраць і кіраваць работай устаноў.

Неабходна, каб дырэктыва ЦК, у якой сказана—„пераглядзець сетку савецкіх ячэек з мэтай раз'укрупненьня тых з ячэек, якія абслугоўваюць шмат устаноў"—была на мясцох выканана. Гэта палегчыць работу, гэта дасьць магчымасьць падняць адказнасьць кожнай парт'ячэйкі за выкананьне пастаўленых перад ёю партыяй задач.

Мар'ясіна.

# Абсьледваньне работы сярод яўрэйскіх працоўных мас у Бабруйскай акрузе.

Яўбюро ЦК КП(б)Б было праведзена абсьледваньне работы сярод яўрэйскіх працоўных у Бабруйскай акрузе з мэтай праверкі правядзеньня тых дырэктыў, якія былі дадзены ЦК КП(б)Б па лініі работы сярод працоўных яўрэяў.

Бабруйская акруга зьяўляецца аднэй з самых вялікіх акруг, маючых вялікую колькасьць насельных пунктаў з компактнай масай яўрэйскага насельніцтва. Умовы, пры якіх працякае работа, надзвычайна цяжкія. Уцягненьне новых кадраў яўрэйскіх рабочых у прамысловасьць, асабліва ў тыя галіны, дзе да рэволюцыі іх ня было; уцягненьне ў сельскую гаспадарку такіх груп, якія да рэволюцыі не займаліся вытворчай працай; абвастроная клясавая барацьба, падтрыманая клерыкальнымі элемэнтамі і якая праяўляецца ў цэлым шэрагу шовіністычных выступленьняў—усё гэта моцна ўскладняе работу сярод яўрэйскіх працоўных мас.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя цяжкасьці, абсьледваньне паказала, што гэтыя галіны работы праходзілі пад пунктам гледжаньня выкананьня тых дырэктыў, якія былі дадзены ЦК КП(б)Б у адпаведных рашэньнях, што датычацца работы сярод яўрэйскіх працоўных мас.

У сваёй рабоце Акруговы Камітэт Партыі завастрыў пытаньне бальшавізацыі яўрэйскіх рабочых, вядучы пры гэтым барацьбу з рэшткамі ўплыву дробна-буржуазных партый: Бунду і розных сіанісцкіх груп, а ў сувязі з завастрэньнем клясавай барацьбы і адкрытай вылазкай клясавага ворага, што праявілася ў цэлым шэрагу адкрытых антысэміцкіх і шовіністычных выступленьняў, узмацнілася работа па інтэрнацыянальным выхаваньні мас. Побач з гэтым, вядзецца і выхаваўчая работа з рэшткамі троцкісцкай спозыцыі і права-опортуністычнымі ўхіламі, якія маюць яшчэ мейсца сярод яўрэйскіх рабочых, асабліва сярод новае яе часткі.

### Увязка работы сярод яўрэйскіх працоўных з агульнай партработай.

Работа сярод яўрэйскіх працоўных унядрылася ў агульную работу Акруговага Комітэту Партыі і стала часткай яе. Апрача агульных пытаньняў, што датычаць таксама нацыянальных меншасьцяй (інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаваньне працоўных), у плян работы Акругкома ўваходзіць яшчэ цэлы шэраг пытаньняў, якія датычаць выключна яўрэйскіх працоўных мас. Кіраўніцтва гэтай работай з боку Акругкому праз Яўбюро носіць плянавы, сыстэматычны характар. Але, калі ў гэтай галіне ў Акругкоме маюцца значныя дасягненьні, дык гэтага нельга сказаць пра раёны. Раённыя Камітэты абгаварваюць асобныя пытаньні, шмат увагі звярачваюць асобным экономічным пытаньням, але няма агульнага кіраўніцтва і агульнай установкі, як весьці гэту

работу, выходзячы з агульных дырэктыў партыі па нацыянальнаму пытаньню, прыстасоўваючы іх да мясцовых умоў. І як відаць з справаздач, местачковыя ячэйкі мала зварачваюць увагі палітычнаму выхаваньню яўрэйскіх працоўных мас, часта гэтая праца нават не знаходзіць там свайго адбітку.

### Экономічнае становішча яўрэйскіх працоўных мас.

У Бабруйскай акрузе праведзена вялікая работа па ўцягненьню яўрэйскіх працоўных і дэклясаванай беднаты ў прамысловасьць, а вельмі ў тыя галіны, дзе да рэволюцыі ня было яўрэяў. Гуты „Акцябр“ і „Комінтэрн“ маюць ужо каля 20% яўрэйскіх рабочых. Уцягненьне пэўнае колькасьці яўрэйскіх рабочых на гэтыя гуты мае значэньне ня толькі ў тым, што праводзіцца інтэрнацыяналізацыя гэтай галіны прамысловасьці, але і тое, што разрашыла ў большай меры пытаньне аб беспрацоўі сярод моладзі цэлага раёну. Значная колькасьць яўрэйскай працоўнай моладзі вырвана з дробна-буржуазнага акружэньня, уліўшыся ў агульную пралетарскую сям'ю.

Ня гледзячы на гэтыя дасягненьні, прыходзіцца ўсё-ж падкрэсьліць, што ў кравецкай і шавецкай прамысловасьці, гэтых спрадвечных профэсій яўрэйскіх рабочых „черты оседлости“, у пераважным ліку працуюць яўрэйскія рабочыя, а чыгуначныя майстэрні слаба прыймаюць рабочых-яўрэяў на сталую работу.

Дырэктыва ЦК па гэтым яшчэ недастаткова выканана.

Другая значная група яўрэяў-працоўных—гэта саматужнікі. За апошні час ёсьць значны рост па лініі коопэраваньня саматужнікаў. Няма амаль ніводнага мястэчка, нават вёскі, дзе ня былі-б створаны тыя ці іншыя арцелі. Усяго па акрузе 157 арцеляй, якія ахапляюць каля 3000 саматужнікаў. Характар гэтых арцеляй вельмі рознастайны, часам яны носяць саматужна-рамесьніцкі характар, і працуюць выключна на мясцовы рынак, другія-ж даюць свой тавар Сампрамсаюзу альбо коопэрацыі. Некаторыя дасягненьні ёсьць і па лініі ўцягненьня вялікай колькасьці саматужнікаў беднякоў-адзіночак. У цэлым шэрагу мястэчак саматужнікі амаль поўнасьцю ахоплены прамкоопэрацыяй, за выключэньнем (малым) тых, якія па сваёй кваліфікацыі альбо старасьці самі не жадаюць ісьці ў арцель. Палепшылася добра здаваль-неньне арцеляй сыравінай, яна праходзіць больш плянамерна з меншымі перабоямі. У некаторых арцелях, праўда, вельмі нямногіх, ёсьць мэханічныя рухавікі і побач з тым, адбылося ўзбуйненьне шмат арцеляй, ёсьць, нават, такія, у якіх працуюць звыш 100 чал.

У сувязі з дырэктывамі ЦК аб чыстцы арцеляй ад кулацкіх і спэкулятыўных элемэнтаў, соцыяльны склад іх поўна зьмяніўся. Беднякам, якія ня маюць магчымасьці ўнесьці пай, выдаецца дапамога з Крэд.-Прамысловага Т-ва, альбо праз Камітэты Ўзаемадапамогі.

### Соцыяльны склад арцеляй наступны:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Саматужнікаў | 1877 | чал. альбо | 69 | проц. |
| Сялян | 238 | „ „ | 8,3 | „ |
| Рабочых | 412 | „ „ | 14,9 | „ |
| Служачых | 138 | „ „ | 5,1 | „ |
| Непр. элем. | 76 | „ „ | 2,7 | „ |

У сувязі з палепшаньнем агульнага становішча значна павялічыўся заработак саматужніка. Але ў залежнасьці ад галін прамысловасьці ён вельмі дыфэрэнцыраваны. Члены такіх арцеляй, як цагельная, крух-

мальная, смалакураная зарабляюць ад 50—70 руб. у месяц, часам, нават і таго менш, члены кравецкіх, шавецкіх і скураных зарабляюць 80—120 р. у месяц. Самы нізкі заработак у арцелі „Спатры“ (Глуск), дзе 60 проц. членаў арцелі зарабляе каля 20 р. у месяц.

Такі рост саматужна-прамысловых арцеляй мае і свае адмоўныя бакі. 40 проц. усіх арцеляй гэта—кравецкія і шавецкія, якія будуюцца на дэфіцытнай сыравіне. Такім чынам, некаторыя перабоі ў здавальненьні іх сыравінай вельмі хваравіта адбіваюцца на ўсёй сетцы. Толькі 60 проц. падаюць на рэшту галін, прычым тыя арцелі, якія будуюцца на мясцовай сыравіне, як смалакурныя, цагельныя, крухмальныя і інш., маюць вельмі прымітыўнае абсталяваньне, нізкі заработак і ў большасьці сваёй—неаднолькавы социяльны склад. У гэтыя арцелі часьцей пападае непрацоўны элемэнт, скарачоныя служачыя і людзі без усялякай кваліфікацыі, часам, нават, з імкненьнем эксплёатаваць бяднейшую частку сяброў арцеляй. Усё гэта дрэнна адбіваецца на далейшым іх разьвіцьці.

У пэрыяд соц. спаборніцтва, калі партыя і пролетарская грамадзкасьць зварочвае шмат увагі падняцьцю продукцыйнасьці працы і якасьці продукцыі, неабходна констатаваць, што па галіне сампрамкоопэрацыі зроблена вельмі мала. Нізкая кваліфікацыя саматужнікаў, стары паношаны інвэнтар, а, галоўнае, дрэнныя цесныя памяшканьні, зьяўляюцца моцным тормазам у правядзеньні мерапрыемстваў, зьвязаных з палепшаньнем і патаненьнем вытворчасьці.

Трэцяя група працоўных меншая колькасна, але характэрная тым, што яна ў большасьці сваёй перайшла, параўнаўча нядаўна, на вытворчую працу. Гэта—яўрэйскае сялянства.

Работа па землябудаўніцтву працоўных яўрэяў пачынае разьвівацца з 1924 г., з дню выданьня ЦВК БССР дэкрэту аб землянадзяленьні працоўнага яўрэйскага насельніцтва. У 1924 годзе была організавана с.-г. арцель з 10 сямействаў у Бабулічах і Старабінскае мэліярацыйнае т-ва—з 31 сям'і, якое прыступіла да мэліяраваньня балота, якое цяпер дае ўраджай ў 160—170 п. з гектару. На наступныя гады мы маем гэткую дынаміку росту с.-г. арцеляй і пасёлкаў.

| ГОД | Усяго гектар. | Кол. гек. пад арц. | Пад пасёлкі | Лік сямей | Лік арцеляй |
|---|---|---|---|---|---|
| 1925 | 2751 | 2465 | 286 г. | 142 | 14 |
| 1926 | 1474 | 948 | 526 „ | 65 | 6 |
| 1927 | 393 | 205 | 188 „ | 30 | 3 |
| 1928 | 1098 | 878 | 220 „ | 103 | 14 |

Адсюль мы бачым, што асабліва моцны тэмп работы па ўцягненьню яўрэйскіх працоўных мас быў у 1925 годзе. Тлумачыцца гэта тым, што тады яшчэ было шмат годных, вольных для расьсяленьня зямельных рэсурсаў, якія паступова зьмяншаюцца і далейшы процэс землянадзяленьня і земляўпарадкаваньня цесна зьвязан з працэсам мэліярацыі зямель альбо асваеньнем няўдобных вучасткаў, што патрабуюць раскарчоўкі, альбо грунтоўнага палепшаньня. Яўрэйскае насельніцтва ў большасьці сваёй—гарадзкое, няпрывыклае да сельска-гаспадарчай

працы, селіцца з вялікімі цяжкасьцямі на гэтыя яшчэ неасвоеныя вучасткі. Вялікім тормазам у гэтай справе зьяўляецца і тое, што рэзультаты патрачанай працы на лясных мэліярацыйных вучастках могуць быць толькі пасьля 2—3, а то і больш гадоў інтэнсыўнай працы.

Местачковая бедната, якая пераходзіць на сельскую гаспадарку, ня мае сродкаў, а, значыцца, і магчымасьці пражыць такі доўгі тэрмін без усялякай дапамогі. Крэдыты, якія адпушчаюцца, могуць быць скарыстаны толькі на будаўніцтва і на сельскую гаспадарку.

Да прыкладу, у 1929 годзе адпушчана некалькі дачных вучасткаў у 3772 гект., і толькі на адным з іх організован, пакуль-што адзін калгас з 9 сямей.

Разьвіцьцё сельскай гаспадаркі сярод яўрэйскіх працоўных мас ішло, у большай частцы, па шляху калектывізацыі. Усяго па Бабруйскай акрузе маецца 53 яўрэйскіх калгасы, 12 пасёлкаў і 8 каленій. Сацыяльны склад калгасаў вельмі стракаты. Зьвесткі па калгасах, арганізаваных у 1928-29 г., паказваюць нам наступнае:

| Усяго сямействаў | Саматужн. | Сялян | Возчыкаў | Рабочых | Быўшых гандл. | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 62 | 12 | 20 | 16 | 2 | 9 | 3 |

Гэта табліца паказвае, што большая частка членаў калгасаў гэта— працоўны элемэнт. Ня глядзячы на гэта, цякучасьць у калгасах вельмі вялікая. Гэта тлумачыцца тым, што мейсцы незаўсёды ўважліва адносяцца да падбору членаў калгасаў, а часам, хоць нязначнае, але-жналічча варожых элемэнтаў адмоўна адбіваецца на ўсей рабоце і на яго далейшым разьвіцьці.

Ня гледзячы на гэта, што ў Беларусі разьвіцьцю малочных прадуктаў і садова-агародніцкай вытворчасьці зварачваецца шмат увагі, у саміх арцелях і пасёлках гэтыя галіны пастаўлены вельмі слаба. Садова-агародныя вучасткі скарыстоўваюцца пад другія культуры, а малочная гаспадарка вядзецца яшчэ прымітыўным спосабам.

Урэшце, апошняя група—гэта бедната, якая складаецца з двух катэгорый: а) бедната працоўная, што мае якую-небудзь профэсыю і пэўныя заняткі. Сюды адносяцца малазямельныя сяляне, саматужнікі-бедцякі і некваліфікаваныя рабочыя і інш.; б) дэклясаваная бедната, якая ня мае ніякай прафэсыі, жывучы на выпадковы заработак працоўнага і непрацоўнага характару і на сродкі, што атрымліваюцца з Амэрыкі. Да гэтай катэгорыі належаць былыя працоўныя элемэнты, якія цяпер страцілі свой заработак, зруйнаваныя дробныя гандляры, карабейнікі, латошнікі, усялякія дробныя камісіянэры, дробныя мясьнікі, возчыкі. Становішча гэтых груп вельмі цяжкае, яны ня маюць ніякіх заняткаў і нават ніякіх пэрспэктыў на працу. Значная частка гэтай групы таксама пазбаўлена выбарчых правоў.

Праца сярод беднаты вядзецца па лініі ўцягненьня ў вытворчасьць, саматужную прамысловасьць і ў сельскую гаспадарку. Аднак, пытаньне аб уцягненьні беднаты ў вытворчую працу яшчэ ня вырашана, нават і ў такіх мясцовасьцях, дзе праведзена вялікая работа па лініі саматужна-прамысловай каапэрацыі і па гаспадарчаму ўпарадкаваньню мястэчак.

Асабліва цяжкае становішча гэтых груп у мястэчках. Праблема мястэчка у Бабруйскай акрузе стаіць вельмі востра, з прычыны таго, што іх у акрузе да 40 рознага тыпу. Па адміністрацыйнай лініі пункты, дзе ёсьць компактная маса яўрэйскага насельніцтва, могуць быць разлучаны на наступныя катэгорыі: а) 4 пункты з гарадзкімі саветамі, б) 7—з местачковымі саветамі, в) 29 пунктаў сельскага тыпу. Па свайму соцыяльна-экономічнаму стану ўсе гэтыя мястэчкі могуць быць разьмеркаваны наступным парадкам:

а) мястэчкі сам.-рамесьніцкага характару;
б) мястэчкі сельска-гаспадарчага тыпу;
в) мястэчкі зьмешанага тыпу;
г) мястэчкі саматужна-рамесьніцкага і гандлёвага тыпу.

У мястэчках першага тыпу густая сетка прамыслова-саматужных арцеляй, якія працуюць ня толькі для коопэрацыі, але і абслугоўваюць мясцовы рынак, выконваючы заказы з тавараў заказьніка. Іх вытворчасьць носіць большай часткай рамесьніцкі характар. Да мястэчак сельска-гаспадарчага тыпу належаць такія, дзе насельніцтва з большага займаецца сельскай гаспадаркай, толькі нязначная частка яе мае яшчэ і дадатковыя заняткі.

Трэцяя група—тыя мястэчкі, дзе роўналежна праводзіцца землянадзяленьне і разьвіцьцё саматужных промыслаў, пры чым, зямельныя вучасткі, адведзеныя насельніцтву, не вялікія; яны разьлічаны на тое, што сельская гаспадарка павінна тут мець выключна інтэнсыўны характар і, нарэшце, апошні тып, дзе побач з разьвіцьцём саматужна-прамысловых арцеляй, вельмі разьвіты і гандаль.

Зусім з боку ад усіх гэтых тыпаў мястэчак стаяць і такія, дзе моцна разьвіты адходныя заняткі, а само мястэчка не мае ніякіх пэрспэктыў для свайго разьвіцьця і ідзе да павольнага выміраньня.

Пры экономічным аглядзе мястэчак неабходна застанавіцца на тых, якія па пастанове Саўнаркому падлягаюць гаспадарчаму ўпарадкаваньню. Яшчэ ў 1927 годзе была пастанова Саўнаркому Беларусі аб гаспадарчым упарадкаваньні м. Глуск. Да гэтага часу значны эфэкт у гэтай працы маецца па лініі саматужнай коопэрацыі.

Ня гледзячы на тое, што некаторыя арцелі, згодна зацьверджанага пляну, яшчэ не організаваны, плян ня толькі выканан, але і перавышаны. Адчынены новыя арцелі, папоўніліся і пашырыліся існуючыя, павялічылася заработная плата.

Зусім іншае ў галіне сельскае гаспадаркі. Адведзены спачатку вучастак для організацыі яўрэйскага калгасу аказаўся нягодным. Другі вучастак, дадзены пасьля, яшчэ не ачышчаны і дасюль ад карчоў, з прычыны таго, што сваячасова ня былі адпушчаны карчавальныя машыны.

Асабліва востра стаіць пытаньне з моладзьдзю. У Глуску каля 500 чал. моладзі, з якое толькі нязначная частка занята ў розных саматужных арцелях, а рэшта ўся беспрацоўная. Пры адсутнасьці прадпрыемстваў, якія маглі-б уцягнуць гэтую моладзь, становішча яе чым далей, тым усе больш пагаршаецца. Пры правядзеньні гаспадарчага ўпарадкаваньня ня зьвернута ўвага на палітычны бок гэтага пытаньня. Не праведзена растлумачальная праца, якая павінна была-б даць яскравае ўяўленьне аб мерапрыемствах савецкай улады, якія вядуць да палепшаньня становішча мястэчак. Слаба праведзена работа з беднатой, якая-б растлумачыла значэньне гаспадарчага ўпарадкаваньня, адсюль бярэцца ў значнай частцы гэтай групы індыфэрэнтнасьць да пытаньня і пэсымізм.

Да гаспадарчага будаўніцтва другіх мястэчак прыступлена толькі ў гэтым годзе, але характар і тэмп працы вельмі слабы.

Ня гледзячы на тое, што многія мястэчкі за апошні час, дзякуючы цэламу шэрагу мерапрыемстваў па лініі сельскай гаспадаркі і па лініі сампрамкоопэрацыі, трохі ўзмацніліся, становішча ў мястэчках усё-ж не пакідае ўсё яшчэ заставацца цяжкім. Ні сампрамкоопэрацыя, ні сельская гаспадарка ня можа ўцягнуць усю тую групу людзей, якая ня мае пэўных заняткаў, якая адчувае патрэбу ў працы.

## Культурнае і школьнае будаўніцтва.

Культурнае і школьнае будаўніцтва на яўрэйскай мове пачынаецца зараз-жа пасьля аслабаненьня Беларусі ад белапалякаў.

Да рэволюцыі школ на яўрэйскай мове ня было ня толькі ў Бабруйскай акрузе, але ва ўсёй Беларусі. Прыхадзілася будаваць усё спачатку і вось тут і пачынаюцца ўсе цяжкасьці будаўніцтва.

Адсутнічаньне абы-якіх прыстасаваных памяшканьняў і вучэбных прылад вельмі перашкаджае правільнай пастаноўцы школьнай справы. Але правільнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня дало магчымасьць часткова перамагчы гэтыя цяжкасьці і разгарнуць сетку культурных устаноў на яўрэйскай мове для абслугоўваньня яўрэйскіх рабочых і працоўных мас. Шырока разгорнута сетка ўстаноў сацыяльнага выхаваньня і ва ўсіх пунктах, дзе найбольшая маса яўрэяў-працоўных, ёсьць таго ці іншага тыпу школы. У сучасны момант ужо не стаіць так востра пытаньне аб пашырэньні сеткі, але замест гэтага высоўваецца пытаньне аб унутраным росьце школ. Занадта вялікая колькасьць аднакамплектных і 2-хкамплектных школ (каля 40% усяго ліку) не дае мажлівасьці нармальна паставіць навучаньне на яўрэйскай мове, але пры нязначнай колькасьці 7-хгодак траціцца пэрспэктыва далейшага навучаньня на роднай мове.

## Сацыяльны склад дзяцей у яўрэйскіх школах наступны:

| Раб. | Сялян. | Служач. | Саматужнікаў | Гандляроў | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|
| 1155 | 949 | 748 | 2337 | 581 | 669 |

Ёсьць і некаторае палепшаньне ў матар'яльным забясьпечаньні школ: павялічэньне здавальненьня кніжкамі, прыстасаваньне школамі фізычных габінэтаў, дзе-ні-дзе пабудова новых школьных будынкаў, але-ж у большасьці сваёй, матар'яльнае становішча, у якім знаходзяцца яўрэйскія школы, вельмі дрэннае, асабліва востра стаіць пытаньне з памяшканьнямі. Школы знаходзяцца ў зусім няпрыстасаваных памяшканьнях, што шкодна адбіваецца на прадукцыйнасьці працы.

Але калі ёсьць тыя ці іншыя дасягненьні ў галіне разьвіцьця сеткі устаноў сацыяльнага выхаваньня, дык гэтага ні ў якім разе нельга сказаць у адносінах да другіх галін культурнага будаўніцтва. Сетка палітасьветных устаноў вельмі нязначная. Па ўсёй акрузе ўсяго 4 вячэрніх школы (Бабруйск, Слуцак) і 2 групы пры беларускіх школах, а ў іншых мястэчках вячэрніх школ зусім няма. Адсутнасьць гэтых устаноў дрэнна адбіваецца на выхаваньні моладзі і на іх палітычным разьвіцьці. А між тым вячэрнія школы рабочай моладзі зьяўляюцца толькі адзіным асяродкам, дзе моладзь атрымоўвае ня толькі агульныя веды, але і палітычнае і грамадзкае выхаваньне і тым самым ня можа быць паралізавана клясава-варожым уплывам на яе. Школы рабочай моладзі групуюць навакол сябе комсамольскі актыў і даюць магчы-

масьць комсамолу лепш распаўсюджваць свой уплыў на беспартыйную рабочую моладзь.

Кажучы аб культурным будаўніцтве, нельга не закрануць пытаньня аб непасрэдных праваднікох культуры, менавіта настаўніцкіх кадраў. Тут становішча зусім нездавальняючае. Лепшай ілюстрацыяй гэтага тое, што ў сярэдзіне году давялося зьняць некалькіх настаўнікаў з працы за розныя антыграмадзкія і антысавецкія ўчынкі. Бясспрэчна, маецца група і досыць значная, ідэалёгічна ўстойлівая, адданая і блізкая партыі, але яна не перавыхавала ў сваім асяродзішчы тых, якія яшчэ прасякнуты дробна-буржуазнымі настроямі і, нават, рэлігійнымі забабонамі.

## Масавая работа.

Складанасьць умоў, пры якіх праходзіць сацыялістычнае будаўніцтва, патрабуе надзвычайна вялізарнае паглыбленае масавае работы, прыстасоўваючы яе да розных груп працоўных. Абвостраная клясавая барацьба, якая выклікала шавіністычныя антысэміцкія выступленьні па цэлым шэрагу прадпрыемстваў і саматужных арцеляй, павінны служыць сыгналам для самага шырокага разгортваньня масавай работы. Сацыялістычнае будаўніцтва, якое ўсё разгортваецца, мае свой адбітак ў пяцігодцы, сацыялістычнае спаборніцтва, якое зьяўляецца справай дзесяткаў тысяч працоўных, павінны знайсьці свой адбітак і ў працы сярод яўрэйскіх рабочых і працоўных мас. Надзвычайна важна, каб у кожны даны момант у масавай працы знайшлі-б адбітак тыя задачы, якія зьяўляюцца актуальнымі на гэты пэрыяд часу, канцэнтруючы ўвагу працоўных на гэтых пытаньнях. А між тым масавая работа на яўрэйскай мове не адбівае таго палітычнага пульсу, які б'ецца ва ўсім Савецкім Саюзе. Ні ў калгасах, ні ў саматужных арцелях, у гэтых нізавых ячэйках, масавай работы на яўр. мове не вядзецца. Усе тыя пытаньні, якія хвалююць рабочых усяго Саюзу, праходзяць як-бы побач местачковых і сялянскіх яўрэйскіх працоўных мас. Гнуткасьць форм і зьместу масавай работы, прыстасаваньне яе да культурнага ўзроўню і запатрабаваньняў розных прапластаваньняў рабочых зьяўляецца ў сучасны момант аднэю з першачарговых задач, а між тым на фабрыках і заводах сярод новых кадраў рабочых не вядзецца работы на яўр. мове і гэтым самым слаба паралізуюцца настроі, навеяныя чужымі варожымі элемэнтамі. Асабліва слаба праводзіцца палітычнае выхаваньне жанчын-саматужніц і сялянак. Усё палітычнае жыцьцё краіны праходзіць як-бы побач. Няпісьменнасьць—ня рэдкая зьява сярод гэтых груп працоўных. Нельга не адзначыць і некаторых дасягненьняў у гэтай галіне.

Здавальняюча была праведзена антырэлігійная антыпасхальная кампанія; у некаторых мястэчках ёсьць значны эфэкт па правядзеньню 2-й пазыкі індустрыялізацыі, а потым яе каляктыўнае захаваньне. Здавальняюча праведзена работа па распаўсюджаньню пэрыядычнага друку. Тыраж газэты „Акцябр“ у самым горадзе павялічыўся ад 600 да 1000 экз., а ёсьць і мястэчкі, дзе на кожныя 2—3 хаты выпісваецца адна газэта.

Улічваючы тую барацьбу з усялякімі опортуністычнымі настроямі і контр-рэволюцыйнымі выступленьнямі розных шовіністых і антысэмітаў, улічваючы якую кампанію газэта правяла і вядзе з уплывам клерыкалізму, такое шырокае распаўсюджваньне газэты зьяўляецца вельмі важным фактарам ў масавай рабоце. Неабходна толькі замацаваць вынікі з тым, каб працягваць пачатую ў гэтым напрамку работу.

## Савецкае будаўніцтва.

Апошнія перавыбары саветаў паказалі, што сярод яўрэйскіх раб. і працоўных прыкмячаецца значнае павышэньне сьвядомасьці і грамадзкасьці і ўзмацненьне палітычнай актыўнасьці. У некаторых мясцовасьцях процант наведваньня ўдзельнікамі выбарчых сходаў даходзіў да 90—92%. У сярэднім у кампаніі па перавыбарах саветаў удзельнічала каля 70% асоб, маючых выбарчае права. Апрача ўдзелу рабочых і працоўных яўрэяў у агульных саветах, у Бабруйскай акрузе маецца яшчэ 3 нацыянальных саветы. У агуле нацыянальныя саветы сябе апраўдалі і вядуць правільную нацыянальную палітыку. Але ў рабоце таго ці іншага нацыянальнага Савету маюцца яшчэ вялікія дэфэкты. У некаторых выпадках Савет не згрупаваў навакол сябе актыву, а ў іншых выпадках нацыянальны Савет слаба абслугоўвае іншыя нацыянальнасьці. Пры перавыбарах саветаў выявілася тая абвостраная клясавая барацьба, якая ідзе ў яўрэйскім асяродзішчы. Заможная частка саматужнікаў і сялянства імкнулася зрабіць свой уплыў на серадняцка-бядняцкую масу, выкінуўшы лёзунг нацыянальнага адзінства, што знайшло рэзкі адпор ад тых соцыяльных груп, якія блізка стаяць да Савецкай Улады і партыі.

Местачковыя Саветы, у большасьці сваёй, не вядуць палітычнай выхаваўчай працы сярод працоўных. У сваёй масавай рабоце ня ўлічваюцца інтарэсы працоўных розных нацыянальнасьцяй. Палітычны бок пытаньня гаспадарчага ўпарадкаваньня і розных мерапрыемстваў, узятых Савецкае Уладай на палепшаньне становішча працоўных, знаходзяць слабае асьвятленьне ў рабоце местачковага Савету. Што датычыць с/с, дык тыя, якія адначасова абслугоўваюць мястэчка і сумежныя вёскі, мала зьвяртаюць увагі местачковаму працоўнаму насельніцтву, што дае магчымасьць некаторым групам тлумачыць, быццам-бы Саветы ня цікавяцца працоўнымі яўрэямі.

## Работа сярод моладзі.

Надзвычайна востра стаіць пытаньне аб моладзі ў некаторых мястэчках. Ёсьць такія мястэчкі, дзе налічваецца да 500 чал. моладзі, з якой працуюць у якасьці броні ў саматужна-прамысловых арцелях і ахоплены вучобай каля 100 чал., такім чынам каля 400 чал. моладзі ў адным мястэчку не мае ніякай кваліфікацыі. Гаспадарчае ўпарадкаваньне мястэчак пакуль-што ня вырашыла гэтага пытаньня. У сувязі з такім становішчам, у большай часткі моладзі назіраюцца цяжкія настроі, а часам і ўпадніцкія. Ненормальным трэба лічыць і тое, што ў саматужна-прамысловых арцелях—шавецкіх і кравецкіх маецца значная колькасьць броні, што ў будучым яшчэ больш павялічыць колькасьць саматужнікаў гэтай профэсіі і, нават, рабочых у гэтых галінах, дзе і так маецца сбыт рабочых рук. Апрача таго, працуючы па старых прымітыўных способах, яна набывае вельмі нізкую кваліфікацыю і, пры немагчымасьці стаць у будучым членам арцелі (бо вучняў шмат. Ёсьць арцелі, дзе маюцца 32 члены і 14 вуч.), яна такім чынам асуджана на беспрацоўе. Як выключэньне прадстаўляюць сябе такія мястэчкі, якія маюць недалёка ад сябе якое-небудзь прадпрыёмства і тады моладзь у сваёй значнай колькасьці ўцягваецца ў прадпрыёмства. Сельская гаспадарка яе ня прыцягвае. Тая моладзь, якая па тых ці іншых прычынах папала ў калгасы, глядзіць на свае пражываньне там, як на часовае зьявішча і пры першым зручным выпадку ўцякае адтуль. Апрача агульных прычын, выклікаючых асабліва цяжкія настроі моладзі, яны яшчэ больш узмацняюцца адсутнасьцю палітыч-

нага выхаваньня і масавай працы на роднай мове. Тая моладзь, якая можа па сваіх ведах узяць удзел у агульна-палітычных гуртках, атрымоўвае там тое ці іншае палітычнае разьвіцьцё, рэшта зусім не абслугоўваецца.

### Агульныя заўвагі.

У агульным трэба канстатаваць, што ў Бабруйскай акрузе прароблена вялізарная работа па абслугоўваньню яўрэйскіх рабочых і другіх працоўных груп. Гэта работа разгортваецца чым далей, тым больш шпаркім тэмпам.

Недахопы, якія ёсьць, павінны быць пільна вывучаны, каб у далейшым гэтага ўнікнуць. У сучасны пэрыяд стаіць задача ўцягненьня ў вытворчую працу працоўную і дэклясаваную беднату. Гэту задачу можна будзе выканаць, прытрымліваючыся правільнай, ленінскай клясавай лініі. Правільная нацыянальная палітыка партыі дае ключ да вырашэньня тых цяжкасьцяй, якія маюцца ў практычнай штодзённай працы.

---

З. Чухман.

# Вынікі перавыбараў бюро парт'ячэек.

*(Гомельскі горраён).*

Перавыбары бюро парт'ячэек пачаліся ў раёне ў канцы красавіка і закончыліся ў першых чыслах мая. Мы ўжо цяпер можам падвесьці вынікі гэтай, па сутнасьці, вялікай, праробленай працы.

Што зьяўляецца характэрным у працы ячэек на сёньняшні дзень?

Перавыбары паказалі, што парт'ячэйкі раёну якасна лепш праводзяць сваю працу ў параўнаньні з мінулым. Шэраг кампаній, якія праводзіліся за справаздачны пэрыод, побач з той вялікай практычнай працай па лініі вытворчасьці, культурнай-масавай, „падсьцегвала" ячэйкі, прымушала іх быць больш гібкімі, паваротлівымі. Гэтым часткова тлумачыцца ўзмоцнены тэмп у працы парторганізацыі за апошні час.

Справаздачна-перавыбарныя сходы парт'ячэек у асноўным прайшлі пад лёзунгамі, высунутымі ў лістох ЦК КП(б)Б і Акругкому і дырэктыў райкому. Галоўная ўвага згрупоўвалася наўкола трох асноўных пытаньняў:

а) Ідэолёгічная трываласьць партыйных шэрагаў у барацьбе з правым ухілам, як найбольш небясьпечным у даны момант, і прымірэнчымі адносінамі да яго.

б) Гаспадарчага будаўніцтва, тут асабліва вывучаліся пытаньні сабекошту, продукцыйнасьці працы, працдысцыпліны, соцыялістычнага спаборніцтва.

в) Змаганьне з недахопамі ў партпрацы, на вытворчасьці, масававыхаваўчай працы, змаганьне з хваравітымі зьявішчамі ў ячэйцы.

Перавыбары выразна гавораць нам адносна ідэолёгічнай трываласьці парторганізацый. *Парт'ячэйкі ў асноўным даюць рашучы адпор розным хістаньням ад лініі партыі.* Аднак, перавыбарныя сходы гавораць нам і аб другім: частка ячэек у пытаньнях змаганьня з правай небясьпекай абмяжоўваецца агульнымі разважаньнямі, не выяўляючы конкрэтных фактаў праяў правага ўхілу, прымірэнцтва ў ячэйках. Значная частка членаў партыі яшчэ ня поўнасьцю ўсвоіла небясьпекі правага ўхілу, ёсьць яшчэ такія асобныя разважаньні: „У нас правага ўхілу няма, таму што ячэйка маленькая" (ячэйка Поліклінікі). Паасобныя ячэйкі „ўхітрыліся" ў дакладах бюро, а таксама ў спрэчках не закранаць гэтыя пытаньні (Аўтагужтранспорт „Двигатель", ДПУ, таксама ў некаторых савецкіх ячэек). Гэтае становішча высоўвае пытаньне адносна ўзмоцненай працы, у першую чаргу над тым, каб кожны член партыі поўнасьцю ўявіў сябе небясьпеку правага опортунізму ў нашай партыі і што змагацца з гэтай небясьпекай трэба не „наогул", у рэзолюцыях, на паперы, а конкрэтна, рашуча весьці змаганьне з скажэньнямі лініі дырэктыў партыі ў практычнай працы.

Справаздачны пэрыод характарызуецца пэўным пераломам па частцы лепшага і большага кіраўніцтва парт'ячэек гаспадарчай працай. У значнай частцы ячэек пытаньні вытворчасьці—цэнтральныя ва ўсёй працы. Гэтым часткова і тлумачыцца маючае месца на сёньняшні дзень некаторае палепшаньне ў пытаньнях працоўнай дысцыпліны, зьмяншэньне прагулаў і інш. Ячэйкі сталі больш патрабаваць (асабліва пасьля прапрацоўкі ліста ЦК Усе КП(б) аб працоўнай дысцыпліне) ад членаў партыі ў адносінах іх узорнасьці на прадпрыемстве. Соцыялістычнае спаборніцтва яшчэ не ахапіла ўсе ячэйкі. У тых ячэйках, дзе справа ў частцы гаспадарчага кіраўніцтва знаходзіцца ў добрым стане, лепш ідзе справа соцыялістычнага спаборніцтва. На фабрыцы—„Комінтэрн“, Палесдрук, шчацінным і скураным заводах удалося на сёньняшні дзень дабіцца некаторых станоўчых вынікаў. Побач з пашырэньнем соцыялістычнага спаборніцтва на ўсіх прадпрыемствах і ўстановах раёну, неабходна будзе замацоўваць вынікі, не паслабляць увагі рабочых мас да гэтага важнага пытаньня.

## Недахопы ў працы ячэек.

Асаблівымі недахопамі і на сёньняшні дзень застаецца слабасьць культ-масавай працы. Гэтая праца не здавальняе патрэбнасьцяй сёньнешняга дню. Галоўная бяда тут—няўвязка выхаваўчай працы з практычнай працай па гаспадарчаму будаўніцтву: рацыяналізацыя, зьмяншэньне сабекошту, узьняцьце продукцыйнасьці працы і інш.

На некаторых прадпрыемствах пасьля правядзеньня агляду вытворчых нарад паслабла праца апошніх. На шэрагу прадпрыемстваў па 4—5—6 мес. ня было ніводнае вытворчае нарады (у некаторай частцы гэта тлумачыцца вялікім лікам кампаній, якія праводзіліся ў апошні час). Такое становішча ня можа лічыцца цярпімым. Нельга разгортваць працу па соцыялістычнаму спаборніцтву бяз усякай сувязі з працай вытворчых нарад. Тут найбольш слабае месца ў працы нашых нізавых проф-ячэек, якія безадкладна трэба ўзмацняць.

У справе беларусізацыі заўважаецца зацішша. Некаторая частка членаў партыі яшчэ да гэтага часу ня ўсвоілі значэньня беларусізацыі. Беларуская мова ў невыстарчальнай меры вывучаецца ў ячэйках. Слаба наведваюцца гурткі членамі партыі. Вось паасобныя гутаркі: „у нас большасьць рабочых—яўрэі і нам патрэбна яўрэйская мова“ (ячэйка „Труд“) ці: у нашым апараце зьвяртаюцца на расійскай і яўрэйскай мове, навошта беларусізавацца (ячэйка Акрфінаддзелу). Тут, відаць, патрэбен рашучы пералом у бліжэйшым будучым.

Паасобныя ячэйкі і члены партыі ня праводзяць адпаведнай барацьбы з дробна-буржуазнымі настроямі і інш. адмоўнымі момантамі, якія ёсьць сярод паасобных груп рабочых (цярпімыя адносіны, прымірэнцтва). Пытаньні шовінізму, антысэмітызму ня атрымоўваюць адпаведнага адпору. У ячэйцы швэйнай фабрыкі ўсё яшчэ ходзяць розныя абывательскія мяшчанскія анэкдоты, прыказкі (часам вушы чырванеюць ад іх), а некаторыя члены партыі лічаць, што страшнага нічога тут няма і не даюць адпаведнага адпору па гэтай лініі.

У шэрагу ячэек слабая партдысцыпліна. Няяўка і значнае спазьненьне на сходы (швэйная фабрыка, аўтагужтранспарт, ЦРК, хлебзавод і інш.) моманты нарушэньня фракцыйнай дысцыпліны, няправільная ўплата партузносаў (ня з усёй зарплаты).

Частка савецкіх ячэек усё яшчэ не падышла ў поўнай меры да асноўнай сваёй працы ў апараце: барацьба з бюрократызмам, рацыяналізацыя, спрашчэньне апарату, зьмяншэньне ўпраўленчых

выдаткаў (ячэйка ЦРК—не пасьпелі заняцца гэтым пытаньнем, у ячэйцы Акрфа—гавораць аб бюрократызьме у Наркамфіне, а мала аб сваім апараце).

Усе гэтыя недахопы і шэраг іншых (у некаторых ячэйках нелады, нетаварыскія ўзаемаадносіны) атрымалі поўны адбітак на сходах. Крытыка і самакрытыка (за некаторым выключэньнем) была дзелавой, грунтоўнай па зьместу. Актыўнасьць высокая. Сярэдні процант выступаўшых з ліку прысутных на сходзе складае 37%. У некаторых ячэйках гэты процант даходзіў да 60 і больш. Сходы нават у невялікіх ячэйках адбываліся ў працягу двух вечароў.

## Вынікі перавыбараў.

Вынікі перавыбараў трэба лічыць здавальняючымі. Вось асноўныя паказчыкі па вытворчых ячэйках: 91% членаў бюро ячэек—рабочыя, непасрэдна працуючыя ў варштата—57,5%, сакратары ячэек—91,5%, Склад бюро абноўлен на 56% (пры мінулых перавыбарах 54%), сакратары ячэек абноўлены на 35% (пры мінулых перавыбарах 34%).

Большасьць членаў бюро складаюць маладыя партыйцы (24—26 г. г.) 53%, таксама і склад сакратароў (членаў партыі 24—26 г. г.) 61%. Гэтае становішча ставіць перад райкомам пытаньне адносна сыстэматычнай працы па выхаваньню актыва і ўзмоцненага штодзённага кіраўніцтва працай ячэек. Ня гледзячы на павялічэньне проценту жанчын у складзе бюро ў параўнаньні з мінулым (было 10,9%, цяпер—14%) і сакратароў (было 3,9%, цяпер—17%), аднак, гэта зьяўляецца невыстарчальным.

У савецкіх ячэйках большасьць членаў бюро складаюць рабочыя—52%, сакратароў ячэек рабочых—65%, па партстажу—тут справа знаходзіцца ў лепшым стане, як у вытворчых ячэйках: членаў бюро 1918 г.—3%, 1927—23 г.—52%, сакратароў ячэек 1918 г.—3½%, 1927—23 г.—69,5%. Склад бюро ячэек абноўлен на 53%, сакратароў ячэек на 26%. Склад опрганізатараў абноўлен на 55% (у мінулым на 75%).

Як на недахоп трэба паказаць на некаторае зьніжэньне проценту наведваньня сходаў: 84%, пры мінулых перавыбарах—86,5%. Гэта тлумачыцца ўходам у адпачынак на шэрагу прадпрыемстваў.

## Падрыхтоўчая праца па перавыбарам.

Падрыхтоўчая праца да перавыбараў у асноўным праведзена здавальняюча. У значнай часткі ячэек выдаваліся спэцыяльныя нумары насьценгазэт, праводзіліся гутаркі з рабочымі і г. д. У некаторых ячэйках, у выніку кароткага тэрміну для падрыхтоўкі да перавыбараў і агульнай орыентыроўкі перавыбараў на восень, гэта адбілася на падрыхтоўцы працы. У некаторых ячэйках не створана шырокая грамадзкая думка вакол перавыбараў.

Ня гледзячы на шматлікія ўказаньні РК, некаторымі ячэйкамі няправільна была пастаўлена праца камісіі па праверцы дырэктыў: камісіі выступалі з садакладамі на сходах (ячэйка ДПУ), давалі ацэнкі працы бюро і далейшыя дырэктывы, якія зацьвярджаліся на бюро і выносіліся на сходах (Дзяржмлыны, „Труд“, „Соцыялізм“). Трэба сказаць, што гэтыя памылкі паўтараюцца з году у год, ня гледзячы на тое, што кожны раз ячэйкі інструктуюцца і папераджаюцца з боку райкому партыі.

Перавыбары бюро ячэек прайшлі ў асноўным здавальняюча. У склад новых бюро ўліўся новы актыў ячэек, які будзе выхоўвацца на практычнай працы. Ячэйкі ідуць на XXII партыйную канфэрэнцыю з новымі дасягненьнямі ў працы.

---

# ЗЬМЕСТ

Стар.

Адозва пленуму ЦК КП(б)Б да ўсіх членаў КП(б)Б . . . . . 3

**Я. Гамарнік.** За генэральную лінію партыі і рашучае разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі . . . . . . . 7

**Г. Валь.** Барацьба з фашызмам і важнейшыя праяўленьні правае небясьпекі ў компартыі Польшчы . . . . . . . . 26

**М. Зярніцкі.** Як ідзе праверка і чыстка радоў КП(б)Б . . . . 33

**А. Хацкевіч.** Канчатковыя вынікі перавыбараў саветаў Беларусі . . . 45

**А. Некрашэвіч.** На новым этапе . . . . . . . 53

## На мясцох

**Н. Клябанаў і Міхайлаў.** Аб чым гавораць вынікі праверкі ходу соцыялістычнага спаборніцтва па Гомельскай акрузе . . . . . . 57

**Сухараў.** Больш увагі вылучэньню . . . . . . . 66

**Б. Шпітальнік.** Патрэбен рашучы пералом . . . . . . 69

**Мар'ясіна.** Абсьледваньне работы сярод яўрэйскіх працоўных мас у Бабруйскай акрузе . . . . . . . . 73

**З. Чухман.** Вынікі перавыбараў бюро парт'ячэек . . . . . 82

---

**Адказны рэдактар—**
*рэдкалегія.*

